Нацыянальны інстытут адукацыі

Факультатыўныя заняткі

М. І. Новік, С. Ф. Бут-Гусаім, В. М. Касцючык

# Беларуская мова

## 9 клас

# Складаны сказ без складанасці

Дапаможнік для вучняў
устаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай і рускай мовамі навучання

*Рэкамендавана*
*Навукова-метадычнай установай*
*«Нацыянальны інстытут адукацыі»*
*Міністэрства адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*



Мінск • «Аверсэв» • 2012

УДК 811.161.3(075.3=161.3=161.1)
ББК 81.2Беи-922
Н73

*Серыя заснавана ў 2010 годзе*

**Новік, М. І.**

Н73 Беларуская мова. 9 клас. Складаны сказ без складанасці : дапам. для вучняў устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. і рус. мовамі навучання / М. І. Новік, С. Ф. Бут-Гусаім, В. М. Касцючык. — Мінск : Аверсэў, 2012. — 140 с. — (Факультатыўныя заняткі).

ISBN 978-985-533-171-2.

Дапаможнік прызначаны для выкарыстання на факультатыўных занятках у 9 класе. Прапанаваны ў кнізе тэарэтычны і практычны матэрыял накіраваны на замацаванне і сістэматызацыю нормаў беларускай літаратурнай мовы, удасканаленне культуры вуснага і пісьмовага маўлення вучняў.

**УДК 811.161.3(075.3=161.3=161.1)**
**ББК 81.2Беи-922**

**ISBN 978-985-533-171-2**

© НМУ «Нацыянальны інстытут адукацыі», 2012
© Афармленне. ТДА «Аверсэв», 2012

# ПРАДМОВА

Станаўленне, развіццё асобы непасрэдным чынам звязана з раскрыццём прыродных здольнасцяў, з удасканаленнем маўленчай культуры, з пашырэннем і асэнсаваннем інфармацыі пра законы мовы, пра самабытнасць роднай мовы ў параўнанні з іншымі, а таксама з развіццём умення выказваць сваю думку, свой погляд на разнастайныя праблемы, якія закранаюцца ў творах вядомых пісьменнікаў, і на тыя праблемы, з якімі сутыкаецца сучасны школьнік у рэальным жыцці. На ўзроўні сінтаксісу праяўляецца спецыфіка не толькі пэўнай мовы, але і асобнага носьбіта мовы. Засваенне асаблівасцяў сінтаксісу беларускай мовы, выпрацоўка ўмення карыстацца яе сінтаксічным багаццем дазволяць школьнікам удасканаліць культуру вуснага і пісьмовага маўлення.

Дыдактычны матэрыял для факультатыўных заняткаў па беларускай мове «Складаны сказ без складанасці» падрыхтаваны ў адпаведнасці з праграмай і дазваляе рэалізаваць пастаўленыя мэты і задачы. Заняткі дапамогуць замацаваць найперш тыя веды і ўменні школьнікаў, якія неабходны для практыкі вуснага і пісьмовага выкарыстання беларускай мовы. Прапанаваная сістэма заданняў скіравана на комплекснае засваенне нормаў беларускай мовы, дзе асаблівае значэнне мае апора на раней атрыманыя веды, выпрацаваныя ўменні і навыкі і развіццё на гэтай аснове маўленчай культуры школьнікаў. У дапаможніку выкарыстаны тэкстацэнтрычны падыход — для працы прапанаваны тэксты разнастайных стыляў і жанраў, сярод якіх шмат афарыстычных выказванняў беларускіх і замежных аўтараў. Лаканічнасць і змястоўнасць выказванняў дазваляе не толькі ўдасканальваць пунктуацыйныя ўменні і навыкі, але і арганізаваць працу, скіраваную на развіццё вуснага і пісьмовага выказвання. Кожнае выказванне ці тэматычна згрупаваныя выслоўі маюць глыбокі сэнс і таму могуць быць выкарыстаны як для лінгвістычных практыкаванняў, так і для падрыхтоўкі ўласных выказванняў школьнікаў на разнастайныя тэмы.

Дыдактычны матэрыял падаецца ў пэўнай сістэме: спачатку прапануецца матэрыял для паўтарэння і ўзнаўлення тэарэтычнага матэрыялу. З гэтай мэтай прыводзяцца тэарэтычныя звесткі ці практыкаванні для назірання, аналізу, параўнання, што дазволіць школьнікам успомніць раней вывучанае, самастойна прыгадаць неабходныя фармулёўкі правілаў, якія будуць асновай для выканання практычных заданняў. Важнае месца ў сістэме заданняў займаюць практыкаванні, змешчаныя ў рубрыцы «Пунктуацыйны трэнінг»: яны скіраваны на

замацаванне пунктуацыйных нормаў беларускай мовы, на выпрацоўку трывалых навыкаў пунктуацыйнага афармлення тэкстаў. Сярод практыкаванняў не толькі дэфармаваныя тэксты, дзе неабходна паставіць пэўныя знакі прыпынку, але і тэксты, сказы, у якіх не патрабуецца ўставіць прапушчаныя знакі прыпынку, а важна прааналізаваць і аргументаваць пастаўленыя. Заданні з рубрыкі «Творчы практыкум» скіраваны на выпрацоўку ў школьнікаў умення асэнсавана ставіцца да пастаноўкі неабходных знакаў прыпынку, а таксама варыянтных знакаў прыпынку. Такія заданні садзейнічаюць фарміраванню ў вучняў здольнасцяў бачыць, акрэсліваць стылістычныя магчымасці сказаў рознай структуры ў тэкстах розных жанраў, а таксама спрыяюць асэнсаванню асаблівасцяў сінтаксічнай арганізацыі мастацкіх твораў, майстэрства асобных аўтараў. Важнае месца займаюць і заданні, скіраваныя на падрыхтоўку ўласных выказванняў школьнікаў — вусных ці пісьмовых. Гэтаму спрыяюць прапанаваныя тэксты, а таксама акрэсленыя тэмы для выказванняў.

Для фарміравання ўмення выкарыстоўваць у пісьмовым маўленні як толькі што вывучаныя правілы пунктуацыі, так і ўжо вядомыя прапануюцца заданні ў рубрыках «Працуем карэктарамі», «Рыхтуемся да дыктоўкі», а таксама «Правер сябе». Гэтыя заданні скіраваны на выпрацоўку пунктуацыйнай пільнасці, умення выбіраць неабходны знак прыпынку, аргументаваць яго пастаноўку.

У сістэме заданняў выкарыстоўваецца пераклад тэкстаў з рускай мовы на беларускую. Магчымасць пабыць у ролі перакладчыкаў дазваляе вучням развіваць уменне карыстацца літаратурнымі нормамі беларускай мовы, а таксама актывізуе цікавасць школьнікаў да асэнсавання роднай мовы, культуры ў кантэксце іншых моў і культур. Тэксты для перакладу вымагаюць ад школьнікаў не толькі рэалізацыі на практыцы ведання арфаграфічных, пунктуацыйных правілаў, але і ўмення падбіраць лексічныя адпаведнікі, а таксама неабходныя, часта адрозныя ад рускай мовы формы. Пераклад тэкстаў будзе спрыяць абуджэнню цікавасці да спасціжэння законаў роднай мовы і развіцця высокай культуры выказвання вучняў.

Дыдактычны матэрыял для факультатыўных заняткаў у 9 класе «Складаны сказ без складанасці» скіраваны на ўдасканаленне маўленчай і камунікацыйнай культуры школьнікаў, на развіццё інтэлектуальных, творчых здольнасцяў вучняў, на ўменне карыстацца роднай мовай у грамадстве, на выхаванне ўласнай годнасці і гонару за нацыянальную спадчыну.

# АД ПРОСТАГА СКАЗА ДА СКЛАДАНАГА

## Просты і складаны сказ: агульнае і адрознае

**Паўтараем**

**Складаным сказам** называецца такая сінтаксічная канструкцыя, у якой сэнсава, граматычна і інтанацыйна аб'яднаны некалькі састаўных частак, кожная з якіх мае сваю граматычную аснову (дзейнік і выказнік або толькі адзін галоўны член сказа), напрыклад: *Раднёю і мовай не грэбуй, ты — колас сярод каласоў* (*С. Законнікаў*).

**Сэнсава-граматычныя часткі складанага сказа нельга лічыць простымі сказамі**, таму што яны не характарызуюцца інтанацыйнай і сэнсавай закончанасцю, г. зн. не з'яўляюцца самастойнымі выказваннямі. Складаны сказ — гэта цэласнае выказванне, якое перадае складаную думку: *Родная мова — гэта кроў народа, пакуль жыве яна — жыве народ* (*Ядвігін Ш.*).

Паводле асноўных сродкаў сувязі сэнсава-граматычных частак складаныя сказы падзяляюцца на наступныя тыпы.

| Тып складанага сказа | Агульная характарыстыка | Прыклады |
|---|---|---|
| **Злучнікавы складаны сказ** | Прэдыкатыўныя часткі сказа звязваюцца пры дапамозе **злучнікаў** і **злучальных слоў** | Жыццё як прырода, і поры года ў ім часта мяняюцца (*В. Вярба*).<br>[ ], і [ ].<br>Не грэбуй старым ботам, пакуль новага не пашыў (*Прыказка*).<br>[— × —], (пакуль...). |
| **Складаназлучаны сказ** | Прэдыкатыўныя часткі адносна раўнапраўныя, звязваюцца **злучальнымі злучнікамі** | Гасподзь схіляецца да ўсіх, ды духам ніцых ён не чуе (*Н. Мацяш*).<br>[ ], ды [ ]. |
| **Складаназалежны сказ** | Адна з прэдыкатыўных частак падпарадкавана другой і звязваецца з ёй пры дапамозе **падпарадкавальнага злучніка** ці **злучальнага слова** | Калі мы не ўстанем самі — не падыме нас ніхто (*У. Караткевіч*).<br>(Калі...) — [— × —]. |

| Тып складанага сказа | Агульная характарыстыка | Прыклады |
|---|---|---|
| **Бяззлучнікавы сказ** | Прэдыкатыўныя часткі звязваюцца **інтанацыйна** і **па сэнсе** | Мінулае тоіцца ў змроку, будучыня — у светлыні (*А. Разанаў*).<br>[ ], [ ]. |
| **Складаны сказ з рознымі відамі сувязі** | Прэдыкатыўныя часткі аб'ядноўваюцца пры дапамозе розных відаў сінтаксічнай сувязі: **злучнікавай (злучальнай** і **падпарадкавальнай)** і **бяззлучнікавай** | Песня помніць: адступіся яна ад людской душы — і ўжо не ўберагчы анічым чалавека (*Н. Мацяш*).<br>[ ]: [ [ ] — і [ ] ]. |

**1.** Прачытайце выслоўі беларускіх пісьменнікаў. Вызначце, простымі ці складанымі сказамі яны з'яўляюцца. Абгрунтуйце свой адказ. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

1. Квяцістыя зоры, бы дыяменты, усыпаюць усё неба (*Я. Колас*). 2. Кабеты разрумяніліся, як бы тыя пірагі пад Вялікдзень у добрай гаспадыні (*Я. Колас*). 3. Здаецца, у руках Яна Самуэля Бекера пацяплеў камень Ружанскага палаца (*А. Бензярук*). 4. Вядома, што ў старажытнасці асновай стварэння свету лічыліся зямля, агонь, вада і паветра (*Я. Крук*). 5. Наступнае, XX стагоддзе, як гэта ўжо неаднойчы здаралася ў нашай гісторыі, прынесла новыя разбурэнні, выкліканыя дзвюма сусветнымі войнамі (*А. Бензярук*). 6. Штогод на Купалле а дванаццатай гадзіне, як думалі нашы продкі, у гушчары лесу зацвітае папараць-кветка (*А. Ліс*). 7. Толькі свет пакідаючы, не бярыце нічога, нават ключ ад дзвярэй пакідайце суседу (*М. Танк*).

**2.** Спішыце выслоўі беларускіх пісьменнікаў. Падкрэсліце граматычную аснову кожнай сэнсава-граматычнай часткі. Складзіце схемы сказаў.

1. Адна галавешка і ў печы не гарыць, а дзве і ў полі не гаснуць (*Прыказка*). 2. Але закон жыцця суровы: адзін затоміцца — другі займае месца важакова (*А. Бачыла*). 3. Даўно з бяссмерцем людзі ў поўнай згодзе, яно заўжды трымаецца на тым — мы каласамі ў гэты свет прыходзім, каб сілу даць зярнятам маладым (*С. Законнікаў*). 4. Калі ў душы ад сэрца цесна, то нараджаюцца радкі (*Я. Янішчыц*). 5. Каханне і веру не трэба ўсім выстаўляць напаказ — душу чуе толькі неба (*А. Лойка*). 6. Раны зажываюць — віры памяці ніколі не супакояцца (*А. Вялюгін*). 7. Гадуюцца дзеці ў любові — ратуецца вечнасць (*Л. Рублеўская*).

### Творчы практыкум

**3.** Пабудуйце складаныя сказы з прапанаваных простых. Адзначце, як змяняецца значэнне сказаў, якія ўключаюць розныя злучнікі.

| Я пачуў даўно забыты голас | і<br>калі<br>бо<br>хоць<br>але<br>таму што<br>таму<br>як толькі<br>быццам | Мяне ахапіла трывога |
|---|---|---|

**4.** Акрэсліце стылістычныя функцыі простых сказаў у тэкстах. Якія сэнсавыя і эмацыянальна-экспрэсіўныя адценні выяўляюцца пры іх ужыванні? Якія са сказаў можна аб'яднаць у складаныя і што губляецца пры такой замене?

I. Квецень асыпала вішня на росны гарод.
Певень заспаны ўзляцеў на паркан зухавата.
І над калодзежам рыпнуў стары калаўрот...
Гэта няспешна ступіла на вуліцу свята.
Зводдаль глядзяць вераб'і на памыты парог.
Ластаўка хоча бліжэй да акна прымасціцца.
Дыхае ў печы салодкі пшанічны пірог.
Пахнуць аерам пад ходнікам чыстым масніцы (*Г. Бураўкін*).

II. Спачатку грэбля ў балоцістым лесе. Зусім нечаканы і пералётны сонечны дождж. Потым лясное возера.

Спыняемся і выходзім з «газіка».

З нізкай хмарай вялікая роўнядзь вады цёпла павязана леным, рэдкім церушэннем. Сітнёг. Лазняк. Шчэбет птушак і зумканне камароў.

Гром пракаціўся па небе. Як заўсёды, з нейкім трывожным, палахліва-радасным абяцаннем чагосьці лепшага. Знаёмая, з маленства любімая музыка.

Няўжо так было таксама і тады, у дні вялікай фашысцкай блакады?

Такая краса — і забойства дзяцей?.. (*Я. Брыль*).

## Віды і сродкі сувязі частак у складаным сказе

**5.** Размяркуйце складаныя сказы па наступных групах: а) сказы, сэнсава-граматычныя часткі якіх звязаны злучальнымі злучнікамі; б) сказы, сэнсава-граматычныя часткі якіх звязаны падпарадкавальнымі злучнікамі ці злучальнымі словамі; в) сказы, сэнсава-граматычныя часткі якіх звязаны інтанацыяй; г) сказы, сэнсава-граматычныя часткі якіх звязаны рознымі відамі сувязі.

1. Каханне — гэта заземленая любоў, а любоў — завоблачнае каханне (*Р. Барадулін*). 2. Падчас і па чужых краях журуся, а хопіць і куточка Беларусі, каб цэлы век свой да яе ісці (*Н. Мацяш*). 3. Напісанае застаецца, а ненапісанае забываецца (*Г. Марчук*). 4. Бог чуе тых, хто даравання просіць (*Р. Барадулін*). 5. Хоць любоў на зямлі адна, паўтарыцца можа яна (*К. Цвірка*). 6. Хто можа адказаць на пытанне: дзеці — незаслужаная ўзнагарода ці заслужанае пакаранне? (*Р. Барадулін*). 7. Чалавекі як ліхтары — у кожнага свечка душы ўнутры (*Р. Барадулін*). 8. Жыццё зямное — непаўторны дар, дзе кожны дзень — і творчасць, і натхненне (*А. Звонак*). 9. Жыву, не трацячы надзей, бо веру ў дабро людзей (*С. Грахоўскі*). 10. Дзяды і бацькі нашу мову стварылі, каб звонка звінела, была як агонь, у сёлаў імёны, як гукі цымбалаў, — Блонь, Струнь, Звонь (*П. Броўка*).

**6.** Запоўніце табліцу паводле ўзору, прыведзенага ў першым радку. Ахарактарызуйце сродкі сувязі паміж часткамі складаназлучаных і складаназалежных сказаў.

| | | |
|---|---|---|
| 1. Мама прыехала, настрой мой узняўся. | Мама прыехала, і настрой мой узняўся. | Калі мама прыехала, настрой мой узняўся. |
| 2. Я так спадзяваўся на сябра — ён не падтрымаў мяне ў цяжкую хвіліну. | | |
| 3. Добра падумаеш — самая складаная задача будзе вырашана. | | |
| 4. Асенняе сонца хіляецца да гарызонту — мне не хочацца спаць. | | |

**7.** Дайце тэксту загаловак. Вызначце тып маўлення. Абгрунтуйце сваё меркаванне. Выпішыце складаныя сказы. Адзначце, у якіх сказах часткі звязаны пры дапамозе інтанацыі і злучнікаў, а ў якіх — пры дапамозе толькі інтанацыі. Падкрэсліце граматычныя асновы ў складаных сказах. Складзіце іх схемы.

Быў 1019 год ад Хрыстовага нараджэння. Князі Святаполк і Яраслаў забыліся пра братэрскую любоў: кожны хацеў уладарыць у Кіеве, але нельга княскую шапку напалам рассекчы. Таму біліся князі не на жыццё, а на смерць. Сышліся яны ў крывавай сечы — і быў разбіты Святаполк. Ягоная дружына вымушана была адыходзіць. Вось неяк увечары падышла яна да берасцейскіх сцен. Стомленыя ваяры неслі насілкі з цяжка хворым Святаполкам. Крыкнуў князь у забыцці:

— Не спыняйцеся ў Берасці, ідзіце далей!

Паслухаліся ваяры свайго князя, войска рушыла далей — у Польшчу і Чэхію. Але слова ўжо зляцела з вуснаў ды ў летапіс патрапіла. Так упершыню быў згаданы горад на рацэ Буг, таму 1019 год і лічыцца годам нараджэння Берасця (*А. Бензярук*).

**8.** Паспрабуйце змяніць парадак сэнсава-граматычных частак сказаў. У якіх сказах парадак больш устойлівы, а ў якіх можа змяняцца?

1. Дзівакі сіноптыкі! Няўжо яны не ведаюць, што няма надвор'я для ўсіх (*М. Танк*). 2. Выхаванне — такі хітры механізм, які павінен быць заўсёды схаваны і разам з тым ні на міг не спыняцца, не грымець, не ляскаць, не дыміць, не чадзіць, але працаваць безадказна (*І. Шамякін*). 3. Калі ж спакойна на душы, парожнім словам не грашы (*С. Грахоўскі*). 4. Патухне радзімае слова, калі перастанеш гарэць (*І. Ралько*). 5. Знайсці патрэбна кожнае зярнятка, і адагрэць рупліва, і засеяць, каб зашумела поле дабрыні, каб болей нараджалася шчаслівых (*Г. Дашкевіч*). 6. Прайсці нялёгка год за годам, бо шлях — то шоўк, а то асцё (*П. Броўка*).

## Злучнікавыя і бяззлучнікавыя складаныя сказы, складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак

☝ **Паслухаем навукоўцаў!**

А. М. Пяшкоўскі ў 1926 годзе, вызначаючы фармальнае адрозненне паміж злучэннем і падпарадкаваннем, звярнуў увагу на тое, што ***злучальныя злучнікі стаяць паміж прэдыкатыўнымі часткамі***, у той час як ***падпарадкавальныя злучнікі і злучальныя словы ўклю-***

***чаюцца ў дадаую частку***. Гэта даказваецца тым, што пры змене парадку частак (калі гэта магчыма) злучальныя злучнікі застаюцца на сваіх месцах, а падпарадкавальныя мяняюць месца разам з дадзенай часткай, напрыклад: *Смех хораша зблiжае людзей, а трапны жарт — найлепшы ўступ у сур'ёзную размову* (*І. Шамякін*). [ ], а [ ]. — *Трапны жарт — найлепшы ўступ у сур'ёзную размову, а смех хораша зблiжае людзей.* [ ], а [ ]; *Бацькі з магіл цяплом дыхнулі, каб дзецям жыць лягчэй было* (*У. Караткевіч*). [— × —], (каб). — *Каб дзецям жыць лягчэй было, бацькі з магіл цяплом дыхнулі.* (Каб), [— × —].

**9.** Адзначце, на якой падставе злучнікавыя сказы падзяляюцца на складаназлучаныя і складаназалежныя. Падкрэсліце граматычныя асновы ў сказах. Вызначце тып выказнікаў.

| | |
|---|---|
| 1. Прагне душа цішыні, каб слухаць маўчанне Бога (*Р. Барадулін*).<br>[— × —], (каб...). | 1. Крыгі суму зіхацяць згубленай падковаю, і даверліва трымцяць крыльцы матыльковыя (*С. Гаўрусёў*). [ ], і [ ]. |
| 2. Той, хто не мае сяброў, сапраўды адзінокі (*Ф. Бэкан*).<br>[Той, (хто...)]. | 2. І ад шчаслівай гінулі развязкі, і гора ўзнімае да вяршынь (*А. Грачанікаў*).<br>І [ ], і [ ]. |
| 3. Нічым на свеце, нават вышэйшымі меркаваннямі, нельга апраўдваць крыўду, якую наносяць жывому чалавеку (*У. Караткевіч*).<br>[...наз.], (якую...). | 3. Схавай выбуховае слова на ворага, а другу хай будзе адкрыта душа (*П. Макаль*).<br>[ ], а [ ]. |

**10.** Дайце тэксту загаловак. Вызначце тып тэксту. Выпішыце складаныя сказы, вызначце іх тып. Падкрэсліце граматычныя асновы складаных сказаў. Назавіце сродкі сінтаксічнай сувязі частак. Складзіце схемы складаных сказаў.

Беларусы называлі сябе і сваю мову па-рознаму. Найстаражытнейшая гістарычная назва нашага народа — крывічы. Вацлаў Ластоўскі лічыў, што яна роднасная словам *кроўны*, *сваяк па крыві*. Потым, з канца І тысячагоддзя па нараджэнні Хрыстовым, нашы продкі называлі сябе *Русь*, *русіны*. Слова *Русь* скандынаўскага паходжання, адно з магчымых пачатковых значэнняў — племя тых, хто плавае на чаўнах. Была Полацкая Русь, была і Кіеўская Русь. Калі ў XV стагоддзі на палітычнай сцэне з'явілася Масква, нашы продкі яе мову сталі называць маскоўскаю, сваю завучы рускаю. У Вялікім Княстве Літоўскім

пашырыліся назвы *Літва*, *ліцвіны*. Часам і чужаземцы, і самі беларусы называлі нашу мову літоўскай або літоўска-рускай.

Белай спачатку называлі ўсходнюю — Уладзіміра-Суздальскую Русь, але ўжо з XIII стагоддзя заходнія вандроўнікі звалі Белай Руссю менавіта беларускія тэрыторыі. Пазней найменне Беларусь замацавалася было за ўсходнебеларускімі землямі — Віцебшчынай, Смаленшчынай, Магілёўшчынай, а з XIX стагоддзя расейскія ўлады сталі называць Беларуссю ўсю краіну. Лідары беларускага руху пачатку XX стагоддзя — «нашаніўцы» — канчаткова выбралі і пачалі прапагандаваць назву *беларусы*, *беларуская мова* (*«100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі»*).

**Творчы практыкум**

**11.** Дайце тэксту загаловак. Вызначце стыль тэксту. Выпішыце складаныя сказы, растлумачце знакі прыпынку. Падкрэсліце граматычныя асновы складаных сказаў.

Хрэсьбіны — святкаванне з нагоды нараджэння дзіцяці — імкнуліся адзначыць у дзень хрышчэння дзіцяці ў царкве. Пакуль кумы з дзіцем былі ў дарозе, старэйшая дачка ці нябога хадзіла па вёсцы і запрашала на бяседу. Усе запрошаныя жанчыны неслі з сабой разнастайныя прадукты харчавання і сёе-тое дзіцяці, мужчыны — хлеб і дробныя грошы. Паступова госці збіраліся ў хату, вялі няспешную гутарку. Тут і кумы вярталіся.

Калі збіраліся ўсе запрошаныя, гаспадар запрашаў за стол. Спецыяльнай абрадавай стравай на хрэсьбінах была бабіна каша. Яе гатавала бабка з грэцкіх, ячных, прасяных і іншых круп з маслам, малаком, цукрам. У некаторых заходніх рэгіёнах Беларусі абрадавай стравай была яечня, упрыгожаная абаранкамі, у паўночных — разнастайныя мучныя вырабы: каржы, пірагі.

Вялікае значэнне меў абмен падарункамі. Дарылі ручнікі, наміткі, палатно, хлеб. Часта павітуха, атрымаўшы падарункі ад парадзіхі, выконвала магічныя дзеянні, якія павінны былі даць дзіцяці шчасце, здароўе, багацце, прынесці дабрабыт у хату яго бацькоў (*Т. Кухаронак*).

**12.** Вызначце стыль тэксту. Назавіце прыкметы, якія дапамагаюць гэта зрабіць. Выпішыце складаныя сказы, абазначыўшы ў іх граматычныя асновы і сродкі сувязі частак. Пакажыце розніцу паміж злучнікавай і бяззлучнікавай сувяззю.

Ластаўка — чыстая, святая птушка, надзеленая жаночай сімволікай. У песнях прыпадабняецца да Божай Маці. У легендзе аб укрыжа-

ванні Хрыста ластаўка старалася палегчыць яго пакуты, вымала калючыя таркі з вянца і падносіла ваду. Звітае гняздо ластаўкі ва ўяўленнях беларусаў забяспечвала шчасце ў доме — вялікі грэх яго разбураць. У беларусаў пашыраныя павер'і аб зімаванні ластаўкі ў вадзе. У гэтым уяўленні захавалася сімвалічнае ўзнаўленне карціны свету з усімі яе асноўнымі складнікамі: сярод вады камень, на ім знаходзіцца Сусветнае дрэва з пчоламі на вяршыні. Але ластаўцы адведзена месца на ніжнім полюсе светабудовы, што можа стасавацца з матывам вяртання казачнага героя з падземнага царства менавіта на птушцы (*Т. Валодзіна*).

## Выкарыстанне складаных сказаў у тэкстах розных тыпаў, стыляў і жанраў

**☝ Паслухаем навукоўцаў!**

Выбар таго ці іншага тыпу сказа: складанага ці простага, складаназалежнага ці складаназлучанага, злучнікавага ці бяззлучнікавага — вызначаецца ў першую чаргу сэнсавымі і стылістычнымі асаблівасцямі кантэксту.

Для размоўнага стылю больш характэрныя простыя сказы, часта няпоўныя. Выкарыстоўваюцца ў ім і складаныя сказы, але пераважна складаназлучаныя і бяззлучнікавыя, у якіх адсутнасць спецыяльных граматычных сродкаў сувязі паміж членамі сказаў дапаўняецца інтанацыяй, мімікай, жэстамі.

У навуковым і афіцыйным стылях часцей ужываюцца складаназалежныя злучнікавыя сказы, якія даюць магчымасць пры дапамозе злучнікаў і злучальных слоў выявіць і ўдакладніць адносіны паміж часткамі складанага цэлага — адносіны часу, умовы, прычыны і інш.

У мастацкай літаратуры і публіцыстыцы сустракаюцца ўсе віды сказаў. Выбар таго ці іншага тыпу сказа можа тлумачыцца не толькі характарам зместу, але і асаблівасцямі стылю пісьменніка. Адны пісьменнікі карыстаюцца пераважна простымі сказамі, другія — складанымі. А. М. Гвоздзеў параўноўвае манеру ўжываць простыя або складаныя сказы з рознымі прыёмамі ў жывапісе, калі даюцца, з аднаго боку, яркія, каляровыя мазкі, а з другога — паступовы пераход, спалучэнне фарбаў (*Паводле М. Я. Цікоцкага*).

**13.** Прачытайце тэкст, вызначце стыль маўлення. Знайдзіце сказы, якія перадаюць асноўны сэнс паведамлення і якія гэты сэнс развіваюць.

Назавіце складаныя сказы, абгрунтуйце мэтазгоднасць іх ужывання. Дапоўніце апошні абзац інфармацыяй пра пераноснае ўжыванне слоў.

Пісьменнікі ў пошуках слоў дакладных ідуць рознымі шляхамі.

У першую чаргу гэта пошукі слова свежага, экспрэсіўнага, у якім яшчэ прасвечваецца сувязь з канкрэтнасцю першакораня. Беларуская народная мова, якая яшчэ моцна захавала даўнюю канкрэтную вобразнасць і да таго ж мае маладую літаратурную традыцыю, дае нашым пісьменнікам магчымасць шырока карыстацца вобразным лексічным матэрыялам.

Але галоўнае ў сённяшняй пісьменніцкай практыцы — майстэрства збліжэння слоў: нават у сцёртым, прывычным, экспрэсіўна нейтральным слове можна адкрыць новы, нечаканы сэнс, таленавітай канкрэтызацыяй стварыць дакладныя малюнкі і вобразы.

Ёсць і яшчэ адзін сродак канкрэтызацыі слова — пераноснае ўжыванне яго (*Паводле А. Яскевіч*).

**14.** Спішыце тэкст, ставячы патрэбныя знакі прыпынку. Зачытайце складаныя сказы, вызначце іх тып. Акрэсліце, з якой мэтай яны ўжываюцца ў тэксце. Пабудуйце схемы складаных сказаў.

Напярэдадні Раства Хрыстовага Новага года Богаяўлення народ святкуе куццю. Гэта назва паходзіць ад вядомага роду ежы якая падаецца ў гэтыя дні. Куцця напярэдадні Раства называецца поснаю таму што гатуецца з рознага роду зернявога хлеба гароху пшаніцы ячменных і грэцкіх круп напярэдадні ж Новага года мясною таму што ў ліку страў падаюць мясныя. Напярэдадні Раства пасля захаду сонца не толькі сярод простага народу але і ў вышэйшым і сярэднім класе засцілаюць стол сенам накрываюць настольнікам на які расстаўлены стравы. Потым садзяцца за стол. У прамежках выцягваюць з-пад настольніка сцяблінку сена і па даўжыні яе мяркуюць пра будучы рост ільну (*А. Кіркор*).

**Творчы практыкум**

**15.** Вызначце тып маўлення, кампазіцыйную структуру тэксту (тэзіс, доказы, вывады). Назавіце тыпы сказаў. Пабудуйце схемы складаных сказаў.

Каханне — таямніца, растлумачыць якую бярэцца толькі той, хто сам не быў ніколі закаханы. Яно прыходзіць ніадкуль і знянацку. Як кожны дар нябёсаў, як кожны талент. І яно можа знікнуць невядома куды і з невядомай прычыны. І былая каханая асоба становіцца мізэр-

най і шэрай, і ўсё, што раней выклікала замілаванне, цяпер стала дражніць. І няма на гэта рады. Мёртвае каханне нельга ўваскрасіць. Яго можна толькі замяніць новым (*А. Аблажэй*).

**16.** Вызначце стыль тэксту. Якія сказы (простыя ці складаныя) пераважаюць у ім? Чаму? Перакажыце тэкст, дапоўніўшы яго сваімі аргументамі пра важнасць умення канспектаваць. Выкарыстайце ў пераказе розныя віды складаных сказаў.

Змест навуковай, навукова-папулярнай, вучэбнай літаратуры засвойваецца лепш, калі чытанне суправаджаецца канспектаваннем.

Канспект — гэта кароткі пісьмовы выклад, запіс пэўнага сачынення, лекцыі, твора. Канспект можа мець выгляд разгорнутага плана (план-канспект). У канспекце адзначаюцца не толькі асноўныя палажэнні, у ім фіксуюцца найважнейшыя лічбы, цытаты, факты, прыклады.

Карысна канспектаваць лекцыі, даклады, параграфы падручнікаў. Неабходнасць запісаць галоўнае, асноўнае ў змесце твора прымушае з большай увагай чытаць кнігу, канспектаванне дапамагае таксама выпрацоўваць навыкі ўважлівага слухання. Стварэнне канспекта спрыяе лепшаму засваенню зместу тэксту. Канспектаванне выкарыстоўваецца і тады, калі неабходна падрыхтаваць уласнае пісьмовае ці вуснае выказванне.

**Правяраем сябе**

**17.** Напішыце канспект вучэбнага паведамлення на тэму «Складаны сказ» паводле прапанаваных пытанняў. Падрыхтуйце вуснае паведамленне на аснове напісанага канспекта.

1. Які сказ называецца складаным?
2. Чым складаны сказ адрозніваецца ад простага?
3. Як інтанацыя складанага сказа перадаецца на пісьме?
4. Якім чынам могуць быць звязаны часткі складанага сказа?
5. На якія тыпы падзяляюцца складаныя сказы ў залежнасці ад віду сувязі паміж іх сэнсава-граматычнымі часткамі?

# СІНТАКСІЧНЫЯ ЛАБІРЫНТЫ СКЛАДАНАГА СКАЗА

## Правілы пабудовы складаназлучанага сказа

**Паўтараем**

**Складаназлучаны сказ** — гэта сказ, у якім сэнсава-граматычныя часткі, звязаныя злучальнымі злучнікамі, выступаюць сінтаксічна раўнапраўнымі і самастойнымі паводле сэнсу.

**18.** Раскажыце пра віды складаназлучаных сказаў, карыстаючыся табліцай.

| Віды складаназлучаных сказаў | Сродкі сувязі (злучнікі, злучальныя словы) | Значэнне | Прыклады |
|---|---|---|---|
| **Сказы са спалучальнымі адносінамі** | ***і***, ***ды*** (у значэнні ***і***), ***і-і***, ***ні-ні***, ***потым***, ***затым*** | Адначасовасць ці паслядоўнасць, прычына і вынік падзей, з'яў, дзеянняў | Бліснула маланка, **і** з грукатлівым абвалам грому секануў лівень (*Б. Сачанка*). |
| **Сказы з супраціўнымі адносінамі** | ***а***, ***але***, ***ды*** (у значэнні ***але***), ***аднак***, ***затое***, ***ж*** (***жа***), ***аж***, ***толькі***, ***адно*** | Супастаўленне, супрацьпастаўленне, абмежаванне, замяшчэнне пэўных дзеянняў, падзей | Міця чакае, **але** ніхто з хаты не выходзіць (*І. Навуменка*). |
| **Сказы з размеркавальнымі адносінамі** | ***ці***, ***ці-ці***, ***або-або***, ***то-то***, ***не то-не то***, ***ці то-ці то*** | Чаргаванне падзей або магчымасць адной з'явы з ліку названых | **То** мільганула палянка, **то** прыступіў аж да самай дарогі бор (*Я. Скрыган*). |
| **Сказы з далучальнымі адносінамі** | ***ды***, ***ды і***, ***ды і то***, ***а то***, ***а***, ***і то***, ***тым больш што***, ***і таму*** | Дадатковыя звесткі, заўвагі | Ён гатоў быў зрабіць прыпынак у любым месцы, **тым больш што** сонца ўжо звярнула з поўдня (*А. Якімовіч*). |

**19.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Вызначце яго стыль. Абгрунтуйце сваю думку.

Сложносочинённое предложение представляло собой развитую синтаксическую категорию уже в древнерусском языке. Вместе с тем существовал ряд особенностей в употреблении древнерусского сложносочинённого предложения по сравнению с современным русским языком.

Во-первых, отличия были связаны с неразвитостью сложноподчинённых предложений, в силу чего отсутствовало чёткое противопоставление сочинения подчинению и сочинительные конструкции использовались для передачи подчинительных отношений.

Во-вторых, со временем произошли изменения в системе сочинительных союзов: часть союзов ушла из употребления, у некоторых союзов развились новые значения.

В-третьих, для древнерусского сложносочинённого предложения была типична многочленная конструкция. Со временем многочленные конструкции сменяются конструкцией из двух предикативных частей, которая в современном русском языке является наиболее распространённой (*По Д. В. Рудневу*).

**20.** Выпішыце з тэксту складаназлучаныя сказы. Вызначце іх сэнсавую і структурную адметнасць, падкрэсліце граматычныя асновы. Зрабіце сінтаксічны аналіз простага сказа.

Цудатворны абраз Божай Маці з'явіўся на рацэ Свіслач, ля самага горада Менска. Здарылася гэта 13 жніўня 1500 года. Людзей здзівіла і прывабіла нязвыклае святло і ззянне, што сыходзіла з вады. Прыгледзеўшыся, распазналі абраз, паднялі яго, і святыня была перанесена ў замкавую царкву Раства Прасвятое Багародзіцы. Там абраз ушаноўвалі і атрымлівалі збаўленне ад розных бед. На пачатку Вялікай Айчыннай вайны ікона апынулася на складзе непатрэбных рэчаў паблізу Дома афіцэраў у Мінску, аднак адна з набожных кабет знайшла яе. Абраз адрэстаўравалі і змясцілі ў Петрапаўлаўскай царкве. Пасля вайны святыня была перанесена ў кафедральны Свята-Духаў сабор, і там яна знаходзіцца да гэтага часу. Як пакутная вандроўніца, Мінская ікона Божай Маці разам са сваімі вернікамі спазнала горыч страт і нястач, радасць пастаяннага вяртання да жыцця. Святыня стала ахоўніцай лёсу жыхароў беларускай сталіцы, і нездарма вобраз Багародзіцы змешчаны на сённяшнім гербе стражытнага Мінска (*Паводле А. Бутэвіча*).

**21.** Выдзеліце граматычныя асновы ў сказах. Вызначце сродкі сувязі і сэнсавыя адносіны паміж часткамі сказаў.

1. То ўсё вакол было застылае, аднастайнае, пакрытае снегавой беллю, а то раптам і рака, і яе ўзбярэжжа заблішчалі, заіскрыліся ад сонечнай ласкі (*Т. Хадкевіч*). 2. Я жорсткасці зазнаў урокі, ды больш вучылі дабратой (*С. Законнікаў*). 3. Зямля без сонца — прах, а не зямля, а без любові чалавек — што камень... (*М. Рудкоўскі*). 4. Дваццаты век. Бары і курганы. Радзінны спеў і пошум Белавежы (*Я. Янішчыц*). 5. Ці багацця бракуе табе, ці ўпартасці сціплае мала? (*У. Дубоўка*).

**22.** Прачытайце, вызначце віды сэнсавых адносін паміж часткамі складаных сказаў і сродкі сувязі сэнсава-граматычных частак. Зрабіце поўны сінтаксічны разбор выдзеленага сказа.

1. *Тры гадзіны дарогі з Мінска на аўтамабілі — і ўпершыню ў жыцці я пяшчотна трымаю ў руках акальцаванага сімпатычнага куліка-случка* (*У. Ягоўдзік*). 2. Зарастаюць сляды нават доўгага веку, а жыве праз гады толькі след чалавека (*Е. Лось*). 3. Над возерам перакінула сваё каляровае каромысла вясёлка, але радасны, бліскучы грыбны дожджык яшчэ ішоў (*В. Вольскі*). 4. І плача вада, і смяецца вада. Ні слёзаў, ні смеху сабе не шкада (*Р. Барадулін*). 5. Надвор'е на возеры няўстойлівае. Яно часта змяняецца. То цёпла, то холадна. То свеціць сонца, то пахмурна. То ціха, то рэзкі вецер (*В. Вольскі*). 6. Дзеці леглі даўно, толькі маці не спіць (*Я. Колас*). 7. Ці то птушкі пяюць, ці то журчаць ручаі пад вузлаватымі карэннямі соснаў (*М. Лынькоў*). 8. Сонца было на поўдні, ды і то зямля нагрэлася яшчэ слаба (*З. Бядуля*).

### Творчы практыкум

**23.** Прачытайце сказы. Вызначце чацвёртае «лішняе». Падмацуйце сваё меркаванне доказамі.

1. Ой, даўно б я ўсё пакінуў, толькі ж многа слёз я лінуў (*Я. Колас*). 2. Падарунак аддаць не змагла ты, я ж не здолеў любоў зберагчы (*А. Звонак*). 3. Ці то стогне бура, ці віхор гуляе (*Я. Купала*). 4. Насця звычайна выходзіла на спатканне яму, цяпер жа яе тут не відаць было (*Я. Колас*).

**24.** Складзіце і запішыце сказы, будова якіх адпавядае прыведзеным схемам, падкрэсліце граматычныя асновы.

1. [ ], аднак [ ]. 2. Не то [ ], не то [ ]. 3. [ ], затое [ ].

### Лінгвістычны эксперымент

**25.** Перабудуйце складаназалежныя сказы ў складаназлучаныя, а складаназлучаныя — у складаназалежныя. Вызначце, што змянілася ў змесце сказаў.

1. Хоць вада ў рэчцы была вельмі чыстая, але з-за глыбіні дно не праглядвалася (*М. Чарняўскі*). 2. Калі стары Бязручка скупы на словы, то сын гаворыць і за сябе і за бацьку (*Я. Колас*). 3. Шэўчык хадзіў і чакаў жаданай сустрэчы на новым месцы, аднак і туды ніхто не прыйшоў (*А. Кулакоўскі*). 4. Лёгкае пяро, а на страху не закінеш (*Прыказка*). 5. На дварэ было холадна, хоць стаяла яшчэ лета (*Я. Колас*).

**26.** Акрэсліце тэму тэксту. Запішыце складаныя сказы, вызначце іх будову. Ахарактарызуйце складаназлучаныя сказы.

Нам добра вядома яшчэ з часоў летапісца Нестара, што саманазвы «драўляне» і «паляне» паходзяць ад характару мясцовасці, якую дадзеныя плямёны засялілі, прыйшоўшы з земляў Заходняй Еўропы ў нашы. Драўляне пасяліліся «в деревах», гэта значыць, у густых лясах, а паляне — у чыстых палях Прыдняпроўя. Наконт севяран таксама ўсё зразумела — яны жылі паўночней за іншыя ўсходнеславянскія плямёны. Больш складаная справа з русамі і крывічамі. Назва «русы» сапраўды можа быць вытворнай ад імя ўласнага. У славянскіх летапісах і візантыйскіх крыніцах часам сустракаецца імя Рус, і гэта не адзін і той жа чалавек, а розныя. Значыць, імя такое было ў славянскім асяроддзі даволі папулярным. Племя русаў магло атрымаць сваю назву і ад колеру валасоў, хоць мы, прызнаемся, у гэта менш верым, бо сярод славян вельмі многія былі русявымі і асаблівасцю аднаго нейкага племені гэта не з'яўлялася. Даследчыкамі вылучаецца яшчэ адна версія: русы менаваліся русамі (росамі) па назве ракі Рось, на якой асела гэтае племя, прыйшоўшы з захаду на нашы тэрыторыі (*І. Масляніцына, М. Багадзяж*).

**27.** Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў тэксце. Запішыце складаназлучаныя сказы, зрабіце іх сінтаксічны разбор.

Наперадзе, над лесам, вісела шызая смуга, і ў той смузе, за ёю, прасвечваўся збляклы авал сонца. Яно ўсё роўна як не ведала, куды рушыць, уніз ці ўгару, за лес схавацца ці выскачыць на неба? І быў ад сонца слуп святла ўніз, на шлях падобны. Той шлях паказваў сонцу садзіцца нанач, але, магчыма, тым шляхам свяціла шукала дзень? Ападала ніжэй смуга — як узвышала сонца. Смуга сцякла з ягонай макаўкі,

і белы твар свяціла апынуўся пад плямай, як пад шапкаю, густой вячэрняй чырвані (*В. Карамазаў*).

**Працуем перакладчыкамі**

**28.** Вызначце стыль і тып тэксту. Перакладзіце яго на беларускую мову. Выпішыце складаназлучаны сказ, зрабіце яго сінтаксічны разбор.

В воздухе незамкнутых пространств всегда имеются практически в равном количестве (точнее, примерно 5 : 4) положительно и отрицательно заряженные аэроионы. Образуются они за счёт ионизации молекул воздуха космическим и солнечным излучением, а также естественным радиационным излучением Земли. Эффективными ионизаторами являются грозовые облака и другие природные явления, трение частиц о твёрдую поверхность вследствие пылевых и снежных бурь, разнообразные химические реакции. Одним из основных источников ионизации в естественной природе являются деревья, особенно хвойных пород. В сосновом или еловом лесу нам дышится лучше всего. Также аэроионы вырабатываются в местах дробления воды, например у водопадов или во время дождя.

Ионизацией воздуха занимались ещё в Средневековье для повышения урожайности культур и исцеления болезней. Но предшественники не поняли самого главного. Лечат не всякие аэроионы, а только отрицательно заряженные.

Сегодня доказано, что аэроионизация продлевает жизненный цикл отдельных клеток. Аналогичные результаты получил ещё в 30-е годы теперь уже прошлого века русский биофизик Александр Чижевский. Суть его открытия такова: для существования и нормального развития всех живых организмов необходимо, чтобы часть кислорода была ионизирована, т. е. определённое количество молекул кислорода должно иметь отрицательный электрический заряд. При недостатке отрицательных ионов жизнь ухудшается, а функции организма угнетаются (*Е. Алпатов*).

**29.** Разгледзьце складаназлучаныя сказы са злучнікам *і*. Вызначце від адносін (адначасовасці ці паслядоўнасці) паміж сэнсава-граматычнымі часткамі сказаў. Адзначце наяўнасць прычынна-выніковых адносін.

1. Лес не прыхапілі яшчэ замаразкі, і ў цёплых сховах яго лезлі па імшаніках розныя грыбы (*К. Кірэенка*). 2. На некаторых дрэвах рабілі падсечку, і там застыла белая нарасць смалы (*Я. Радкевіч*). 3. Мінулася яшчэ дзве гадзіны — і з жалезных латакоў, з дахаў дамоў зацурчэ-

ла, палілася, весела пераззвоньваючы струменямі, талая вада (*В. Вітка*). 4. Цяпер сакавік, пярэдадзень вясны, і лес ахінае намітка ледзь прыкметнай сінечы (*І. Навуменка*). 5. Міне яшчэ момант — і ўся гэтая чорная аграмадзіна абваліцца на зямлю нястрымным ліўнем, ахіне сабой усё наваколле (*Т. Хадкевіч*). 6. Маленькая палянка ў гушчары абгароджана старым парканам, і над ёй, над суседнімі дубамі, клёнамі, ясенямі, бярозамі ўзняўся вялізны і стройны дуб (*Т. Хадкевіч*).

**30.** Разгледзьце складаназлучаныя сказы з супраціўнымі злучнікамі. Вызначце наяўнасць прыватных значэнняў супастаўлення ці супрацьпастаўлення паміж сэнсава-граматычнымі часткамі сказаў. Укажыце дадатковыя сэнсавыя адценні абмежавання ці замяшчэння, што падкрэсліваюцца злучнікамі.

1. Над хатамі — вясёлыя шпакоўні, а ў хатах — аржанога хлеба пах (*Г. Бураўкін*). 2. Сонца свяціла ўжо не вельмі ярка, быццам з-за туманнай паваолокі, але ўсё роўна было яшчэ горача (*У. Рубанаў*). 3. На абагрэтай сонцам палянцы пах грыбніцы аслаб, затое ў нос шыбануў моцны водар сасны (*Я. Радкевіч*). 4. Яшчэ канькоў не навастрылі дзеці, а восені ўжо як і не было (*Г. Бураўкін*). 5. Вогненным колам пракаціліся войны, але вёска не загінула (*Л. Левановіч*). 6. Дарога была пустэльная і ціхая, затое лес поўніўся птушыным рознагалоссем (*Т. Хадкевіч*). 7. Не навечна снягі на палях, а рака — пад скляпеннямі лёду (*У. Дубоўка*). 8. Лашчыць і лечыць чалавечую душу часіна згоды ў прыродзе, але найлепшая згода для чалавека — згода з самім сабою, са сваім сумленнем (*М. Стральцоў*). 9. Горка часам праца, ды хлеб ад яе салодкі (*Прыказка*).

**31.** Вызначце структуру прыказак. Абгрунтуйце мэтазгоднасць выкарыстання ў выслоўях супраціўных злучнікаў. Паразважайце, у якой маўленчай сітуацыі яны могуць быць ужыты.

1. Хараство прыгледзіцца, а розум згодзіцца. 2. Рада людзей гуртуе, а крык і свіст разганяе. 3. Без шчасця не будзе багацця, а за грошы шчасця не купіш. 4. Вясну хваляць за дажджы і сонца, а лета — за снапы і вазы. 5. Дождж вымачыць, а сонейка высушыць.

**32.** Паразважайце над сэнсам сказаў. Вызначце сродкі сувязі і адносіны паміж сэнсава-граматычнымі часткамі. Абгрунтуйце пастаноўку знакаў прыпынку. Зрабіце поўны сінтаксічны разбор выдзеленага сказа.

1. Гісторыі дастаюцца падзеі, а мастацтву — людзі (*А. Разанаў*). 2. Паэт уласны ў кожнага народа, і ў кожнага паэта свой Дантэс (*П. Ма-*

*каль*). 3. *Ды радасцю нягоды не спатоліш, і цішынёю зваблівай ніколі трывогі свету нам не заглушыць* (*Я. Сіпакоў*). 4. І ў чалавека раны зарастуць, але рубцы навечна застануцца (*Ю. Свірка*).

**33.** Вызначце адносіны паміж сэнсава-граматычнымі часткамі сказаў. Выкарыстайце ў іх патрэбныя злучнікі.

1. Усе дрэвы апрануліся ў зялёнае ўбранне, (?) дуб стаіць голы (*А. Бадак*). 2. Мова — гэта ключ ад дзвярэй у свет, (?) кожны павінен выйсці праз свае дзверы (*В. Каваленка*). 3. Кветкі хутка завянуць, (?) пра чалавека трэба памятаць заўсёды (*З. Дудзюк*). 4. Лёс, жыццё — гэта шматпакаёвая кватэра, (?) у кожным пакоі па чарзе чалавек вымушаны жыць (*В. Каваленка*). 5. Карані дапамагаюць раслінам замацавацца ў глебе, (?) гэта не адзіная іх функцыя (*А. Бадак*). 6. Яго паэтычную натуру агортвае радасць, (?) зноў з'яўляецца пяшчота да ўсяго на свеце — жывога і нежывога (*Н. Маеўская*).

**34.** Вызначце, што супастаўляецца ў складаназлучаных сказах: прадметы, прыметы прадметаў, дзеянні, станы, прыметы дзеянняў. Свае меркаванні падмацуйце доказамі.

1. Нёман паводзіў сябе, як шчыры і дужы хлопец, а Лоша — як ціхая і хітраватая дзяўчына (*З падання*). 2. На языку мядок, а на сэрцы лядок (*Прыказка*). 3. З таго часу так і ляціць, спяшаецца магутны і шырокі Нёман, а Лоша плыве ціха, хаваецца ды туляецца па кустах і нізінах (*З падання*). 4. Працавітаму лёгка перайсці праз гару, а гультаю цяжка паварушыць пальцам (*Прыказка*).

**Творчы практыкум**

**35.** Параўнайце сказы з аднолькавай сэнсава-граматычнай часткай. Чым яны адрозніваюцца? Якія сэнсавыя суадносіны назіраюцца паміж часткамі?

1. Са стрэх капала, і снег пад нагамі рыпеў мокра і panыла. Са стрэх капала, але стылі ногі і рукі. 2. Падзьмуў снежань марознымі вятрамі, аднак не зацягнулася лёдам лясная крыніца. Падзьмуў снежань марознымі вятрамі, і схаваліся рэкі пад тоўсты блакітны лёд.

**36.** «Разгарніце» простыя сказы ў складаназлучаныя з рознымі сэнсавымі адносінамі. Параўнайце сродкі сувязі частак сказаў.

*Узор*: Сонца села, і зорка загарэлася ў агністым моры захаду. Сонца села, ды зара не ўспыхвала пажарам.

1. Шумяць лясы... 2. Надышла вясна... 3. Неба сіняе-сіняе...

**Рыхтуемся да дыктоўкі**

**37.** Прачытайце тэкст. Вызначце структуру сказаў, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Зрабіце сінтаксічны разбор складаназлучанага сказа.

Так, так, не здзіўляйцеся — мы жывём на зямлі, унікальнай у многіх адносінах. Займаючы па еўрапейскіх памерах не такую ўжо і вялікую плошчу — прыблізна ў сем разоў больш за Бельгію (з тым жа насельніцтвам), Беларусь тым не менш валодае багатым наборам прыродных ландшафтаў — ад шматлікіх верхавых балот з сапраўднымі тундравымі жыхарамі накшталт чорнаваллёвай гагары, белай курапаткі, сяўца ў Беларускім Паазер'і на Віцебшчыне да шыракалістых лясоў з дубамі ў два-тры абхваты ў пойме Прыпяці на поўдні і велічнага ляснога масіву з плошчай аж 900 квадратных кіламетраў — старажытнай Белавежскай пушчы, унікальнай тэрыторыі на паўднёвым захадзе рэспублікі. Увогуле ў Беларусі налічваецца больш за 20 тысяч рэчак — вялікіх і малых, каля 10 тысяч азёр, а лясы займаюць аж 35 % тэрыторыі краіны! Вялізныя нізінныя балоты, якія захаваліся на Палессі, у Еўропе ўжо амаль знішчаны, а верхавыя балоты накшталт азёрнабалотнага комплексу «Ельня» агульнай плошчай каля 200 квадратных кіламетраў і ўвогуле не маюць аналагаў ва ўсім свеце. Вось і паспрабуй пасля гэтага не называць Беларусь краінай лясоў і балот! (*С. Зуёнак*).

## Ці толькі коска: знакі прыпынку ў складаназлучаным сказе

**Паўтараем**

**38.** Раскажыце пра знакі прыпынку ў складаназлучаным сказе, выкарыстоўваючы табліцу. Запішыце на кожны пункт правіла свае прыклады.

| Знакі прыпынку | Умова пастаноўкі | Прыклады |
|---|---|---|
| **Коска** | Перад злучальнымі злучнікамі, што звязваюць часткі сказа | Хораша свяціла сонца, і вока цешыла золата збажыны навокал (*А. Жук*). |
| **Кропка з коскай** | Адна з частак або ўсе часткі развітыя, маюць свае знакі прыпынку | Рыбак быў дзядзька, наш Антоні, як і работнік, адмысловы; а Уладзік пасвіў дзесь каровы, травіў чужыя сенажаці; а дома з дзецьмі была маці (*Я. Колас*). |

| Знакі прыпынку | Умова пастаноўкі | Прыклады |
|---|---|---|
| **Працяжнік** | У другой частцы паказваецца вынік або хуткая змена падзей | Раздаўся зычны гук — і сухая галінка разляцелася на кавалкі (*Я. Маўр*). |
| **Коска не ставіцца** | • калі ёсць агульнае слова (агульны член сказа, пабочнае слова, часціца), якое аднолькава адносіцца да кожнай з частак;<br>• калі часткі з'яўляюцца назыўнымі сказамі;<br>• калі часткі з'яўляюцца безасабовымі сказамі;<br>• калі часткі маюць аднатыпную будову | Тут, каля акна, малінаўка пяе і стукае жаўна (*М. Багдановіч*).<br>Дваццаты век. Бары і курганы. Радзінны спеў і пошум Белавежы (*Я. Янішчыц*).<br>Холадна і змрочна (*Я. Брыль*).<br>Ёсць маці і ёсць мачыха. |

**39.** Вызначце сэнсавыя адносіны і сродкі сувязі паміж структурнымі часткамі складаназлучаных сказаў. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку на мяжы частак.

1. Згубіўся ключ — і страціліся сэнсы паветра і зямлі, вады й агню (*Н. Мацяш*). 2. Дабро мы можам ацаніць самі, а зло часцей за ўсё ацэньваюць на нашым горкім вопыце другія (*Г. Марчук*). 3. За акном зімовы вечар і трашчыць мароз (*Л. Геніюш*). 4. Сям'я ўратаваная — і ўратаваны народ (*Л. Рублеўская*). 5. Неўзабаве дарога вужом вільнула між старых камлюкаватых ялін, і позіркам адкрылася невялікае круглае лясное возера (*Л. Дайнека*). 6. Калі ж нарэшце вылюднее свет і скончацца ваенныя пагрозы? Калі ж дашчэнту згіне яд і тля і станецца любоў невыпадковай? (*Я. Янішчыц*). 7. Зірні на ліст бярозавы зялёны, духмяны вецер вуснамі крані — і праясніцца твой пагляд замглёны ад чыстага блакіту ў вышыні (*Г. Бураўкін*).

**Пунктуацыйны трэнінг**

**40.** Спішыце, расстаўляючы знакі прыпынку, растлумачце іх.

1. І забудуцца змрочныя сны і скрозь цемень бяссонных начэй будуць мне ўсміхацца яны дабратой вашых мілых вачэй (*А. Бачыла*). 2. У гаях пажаўцела трава і лісты ападаюць нясмела (*Г. Бураўкін*). 3. І характарам яна добрая і гаспадыня неблагая і маці кла-

патлівая (*В. Кадзетава*). 4. Невядома праз колькі часу стала віднець і ён схамянуўся (*М. Стральцоў*). 5. Зноў выблісну ў месяц і расхінулася далеч (*М. Стральцоў*). 6. І мяняюцца песні і мінаюць гады (*Л. Геніюш*). 7. А ў вадзе адбіваецца неба блакітам і палошчуць аблокі пушаную бель (*Л. Геніюш*). 8. Вясковы дом. Тут зруб звычайны і сіла бацькавай рукі (*Л. Геніюш*). 9. Яшчэ хвіліна і яны прайшлі б міма яе (*Т. Мушынская*). 10. Дождж без ветру і пранізліва-белыя камлі бяроз (*М. Навіш*).

**41.** Аб'яднайце простыя сказы ў складаназлучаныя, запішыце іх. Вызначце сэнсавыя адносіны паміж структурнымі часткамі. Які сказ выступае шостым «лішнім» праз знак прыпынку, што раздзяляе часткі?

1. Грыбы трапляліся ўсё часцей. Усе маладыя, здаровыя. 2. Лета ў той год стаяла доўга. Усё ніяк не хацела яно развітвацца з зямлёй і саступаць сваё месца восені. 3. У твары жанчыны штосьці падалося мне знаёмым. Памяць нічога не адказала на маўклівы запыт. 4. Некалькі дзён да нядзелі міналіся адносна спакойна. У нядзелю я не знаходзіў сабе месца. 5. І недзе ўжо сініца цінькае. Салавей канцэрт пачаў. 6. Зграбаю пажоўклую траву. І неўзабаве на старым агнішчы нараджаецца новае цяпельца.

**42.** Параўнайце пунктуацыйнае афармленне сказаў, вызначце тып сказаў. Паразважайце пра магчымыя варыянтныя знакі прыпынку паміж сэнсава-граматычнымі часткамі канструкцый.

1. Над вадой ля берага ціха спіць асока, ды лаза зялёная жаліцца-шуміць (*М. Багдановіч*). 2. У вадзе паволі пагойдваўся маўклівы цень і адсвечвалася цёмная бясконцасць неба (*Я. Скрыган*). 3. Толькі верхавіны соснаў гудзелі ледзь чутна, ды шалясцелі няўмоўчныя трапяткія асіны (*М. Лынькоў*).

**43.** Запішыце складаназлучаныя сказы: 1) з адным дзеясловам-выказнікам; 2) з антанімічнымі словамі; 3) з семантычна блізкімі словамі. Паразважайце, ці ўплывае слоўнае напаўненне частак на выражэнне ў сказах значэнняў супастаўлення, супрацьпастаўлення, абмежавання.

1. Праца адступіла, але сілы не вярталіся. 2. Восенню неба робіцца звонкім, ядраным, а лес і поле — глухімі і маўклівымі. 3. Маладая стройная бярозка дрэмле пад серабрыстым інеем, а побач з ёю — елачка, прыгажуня лясная. 4. Ноч прылегла хутка на зямлю, аднак доўга яшчэ гарэла неба над лесам. 5. Свяціла б сонейка, а месячык не сагрэе. 6. Зіма адступае, а вясна паўсюль усё забірае. 7. Дрэннае ў чалавеку хутчэй убачыцца, а добрае пашукаць трэба.

**44.** **Спішыце, расстаўляючы знакі прыпынку, растлумачце іх. Вызначце сэнсавыя адносіны паміж часткамі складаназлучанага сказа.**

1. Нічога мерацць не хачу на грошы і сквапным быць ніколі не змагу (*М. Шабовіч*). 2. Нечакана шчымліва-адчайна за туманамі, за асакой ці то кнігаўка ці то чайка пракрычала над соннай ракой (*Г. Бураўкін*). 3. На дварэ — ужо канец верасня а яшчэ ціха цёпла (*Т. Мушынская*). 4. Сорам жыць па-панску і цурацца маці і выпрошваць ласку ў суседскай хаце (*Г. Бураўкін*). 5. То сядзіць задумліва з кнігай ля акна то на танцы тлумныя бегае яна. То да маці лашчыцца, ціхая як цень то імклівай ластаўкай хоча паляцець. То ўсіх аспрэчвае то маўчыць паўдня... Таямніца вечная — сэрца глыбіня (*С. Законнікаў*).

**45.** **Вызначце тып маўлення і кампазіцыйную структуру тэксту. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў сказах. Запішыце складаназлучаныя сказы і ахарактарызуйце іх.**

Ёсць у Гаўрылы Вашчанкі карціна «Сакавік».

Вясна.

Яшчэ ні зелянінкі, ні ставочка вады. Вясна святла — найпершая ў прыродзе. Вёска пад снегам, а снег — шарпак вясновы, да бляску зацалаваны сонцам. Па гэтым бляску — шэсце вясельнае. Вароты ў двор адчыненыя. Бацькі чакаюць маладую ды маладога з хлебам-соллю на ручніку. Тут і сарока-белабока — разносіць навіну па вёсцы. Усё — сама ўрачыстасць, але не яна найбольш прываблівае вока. Здаецца, што гэта мастаку нават не трэба. Ён прымушае нас заўважыць іншае свята вясны, свята самой прыроды: блакітна-залацісты тон сакавіцкага снегу, такое ж неба, яшчэ нясмелую цяплынь паветра, абновы ў колерах і тоне. Вясна яшчэ не разгулялася, але яна ўжо сочыцца ў блакітным небе, ужо грэе і людзей, вясковае жыццё. Тут сакавік — не толькі слова, назва месяца ды карціны, а сам сок, падобны на бярозавік, кляновік, які і адчыняе вароты вяселлю маладых, жыццю (*Паводле В. Карамазава*).

## Выкарыстанне складаназлучаных сказаў у тэкстах розных тыпаў, стыляў і жанраў

**46.** Карыстаючыся табліцай, раскажыце пра тэкстаўтваральную і сэнсава-стылістычную ролю складаных сказаў у тэкстах розных функцыянальных стыляў.

| Мастацкі стыль | Навуковы стыль | Публіцыстычны стыль | Афіцыйны стыль |
|---|---|---|---|
| З'яўляюцца сродкам стварэння вобразнай, канкрэтна-пачуццёвай карціны, эстэтычнага ўздзеяння на чытача, выражэння пачуццяў, ацэнак | Ужываюцца для выражэння складанай думкі, абгрунтавання той ці іншай з'явы, падзеі, абагульнення навуковых паняццяў | Выкарыстоўваюцца ў выяўленчых мэтах — для выражэння эмацыянальнасці і экспрэсіўнасці. Іх ужываюць і для перадачы інфармацыі, аналітычнай думкі, аўтарскай ацэнкі, пазіцыі | Дазваляюць выразна, сцісла выкласці афіцыйнае паведамленне або расказаць пра падзеі, звязаныя з асабістым жыццём людзей |

(*Паводле В. У. Протчанкі*).

**Паўтараем**

**47.** Запомніце адпаведнасць паміж злучнікамі і тымі маўленчымі сітуацыямі, у якіх яны ўжываюцца паміж часткамі складаназлучанага сказа.

| Злучнік | Маўленчая сітуацыя |
|---|---|
| **і** | З'яўляецца стылістычна нейтральным і найбольш ужывальным для выражэння адносін адначасовасці ці паслядоўнасці |
| **ды** | Сказы з ім маюць афарбоўку вуснага маўлення ва ўсіх значэннях — спалучальных, супраціўных, далучальных |
| **і-і** | Паказвае на пералічэнне аднолькава магчымых з'яў і падзей |
| **ні-ні** | Афармляе пералічэнне аднолькава немагчымых з'яў і падзей |
| **а** | З'яўляецца найбольш ужывальным. Пры дапамозе яго супастаўляльныя адносіны выяўляюцца ў самым чыстым выглядзе |

| Злучнік | Маўленчая сітуацыя |
|---|---|
| **ж** | Набліжаецца паводле значэння да злучніка **а** і афармляе супастаўляльныя і супраціўныя адносіны паміж часткамі сказаў |
| **але** | Аб'ядноўвае часткі, паміж якімі выражаюцца супраціўныя адносіны або адносіны неадпаведнасці, ускладненыя дадатковым узмацняльным адценнем. З'яўляецца паказчыкам нейтральнага і кніжнага стылю |
| **аднак, толькі** | Звязваюць часткі, паміж якімі выражаюцца супраціўныя адносіны, ускладненыя дадатковым адценнем абмежавання. Першы з іх характэрны для навуковага і афіцыйна-справавога стыляў, а другі — для размоўнага і мастацкага |
| **затое** | Служыць для сувязі частак сказа, паміж якімі выражаюцца супраціўныя адносіны, ускладненыя дадатковым адценнем замяшчэння |
| **то-то** | Служыць для аб'яднання частак, у якіх выражаецца значэнне папераменнасці або чаргавання з'яў і падзей |
| **ці-ці, або-або** | Аб'ядноўваюць часткі, у якіх гаворыцца пра з'явы і падзеі, што выключаюць адна адну |
| **ці то-ці то** | Паказваюць на пералічэнне ўзаемна выключальных з'яў і падзей з дадатковым адценнем меркавання ці развагі |
| **не то-не то** | Перадае пералічэнне ўзаемна выключальных з'яў і падзей з дадатковым адценнем няпэўнасці або сумнення (*Паводле Л. Бурака*) |

У сучаснай беларускай мове сярод злучнікаў, што выкарыстоўваюцца для сувязі сэнсава-граматычных частак складанага сказа, назіраюцца і такія, якія не маюць міжмоўных эквівалентаў. Такімі з'яўляюцца супастаўляльныя **дык**, **аж**, **ажно**, **адно**: *Я думаў Анатоля за доктара выводзіць, **аж** не выйшла* (*К. Чорны*). *Хацеў выспацца, **дык** не даюць* (*З. Бядуля*). *Спіць мой край, **адно** не дрэмле варта яго надзейна ўзброеных сыноў* (*П. Броўка*). *Думаў, сам зраблю, **ажно** не атрымалася* (*З. Бядуля*).

Нацыянальную адметнасць беларускай мовы ствараюць і злучнікі **ды**, **ці**, **альбо**, якім у рускай мове адпавядаюць **да**, **либо**, **или**. Параўнайце: *Прыпякала сонца, **ды** веяў лёгкі ветрык* (*К. Чорны*). *Только иволги кричат **да** кукушки наперебой отсчитывают кому-то непрожитые годы* (*М. Шолохов*).

### Творчы практыкум

**48.** Складзіце па два сказы паводле дадзенага пачатку: просты з аднароднымі членамі і складаназлучаны.

1. З неба сыпаліся белыя крупінкі снегу... 2. Радасць свяцілася на кожным твары... 3. Здаецца, неба пасвятлела... 4. Дні прамільгнулі хутка... 5. А музыка гучала... 6. Але сон Аўхіма не змарыў... 7. Хлопчык павесялеў... 8. Мой аўтобус прыехаў першы... 9. Цэлы дзень бацька ўвіхаўся каля хаты... 10. Рачулка была хуткаплынная... 11. Уначы выпаў снег...

**49.** Дапішыце сказы так, каб яны сталі складаназлучанымі. Вызначце сэнсавыя адносіны паміж часткамі.

1. Прайшоў нейкі месяц, і... 2. Усё праяснілася нечакана, і... 3. Тыдзень прабег хутка, аднак... 4. За абедам Таня і Марыя Максімаўна амаль не размаўлялі, затое... 5. Сонца заліло святлом хату, і... 6. Наваколле ўжо ахутаў густы змрок, і... 7. Неўзабаве падышла чарга, і...

**50.** Складзіце і запішыце складаназлучаныя сказы па дадзенай сэнсава-граматычнай частцы. Абазначце злучнікі, вызначце адносіны паміж часткамі.

1. ..., і госці разышліся рана. 2. ..., але лад у сям'і быў нядоўгі. 3. ... — і наступіла цішыня. 4. ..., і работы мелася багата. 5. ..., і наваколле ўжо ахутаў густы змрок.

**51.** Запішыце складаназлучаныя сказы, у аснове якіх ляжыць супастаўленне назваў: 1) прадметаў (*дождж* / *сухмень*, *дабрыня* / *зло*); 2) дзеянняў (*бегчы* / *ісці*, *смяяцца* / *плакаць*); 3) прымет прадметаў (*панурры* / *вясёлы*, *горкі* / *салодкі*); 4) прымет дзеянняў (*ціха* / *марудна*, *лёгка* / *цяжка*); 5) прасторавых ці часавых характарыстык з'яў (*летась* / *сёння*, *уверсе* / *нізам*).

Паразважайце, ці могуць назвы прадметаў і дзеянняў (*лета* / *зіма*, *мароз* / *адліга*, *узгоркі* / *раўніны*, *вёска* / *горад*, *універсітэт* / *школа*, *настаўнік* / *вучань*, *радасць* / *смутак*, *ісці* / *спыняцца*, *сцішыцца* / *гаманіць*) у складзе складаназлучаных сказаў стаць асновай для выражэння адносін чаргавання. Падмацуйце свае меркаванні прыкладамі сказаў.

### Лінгвістычны эксперымент

**52.** Абгрунтуйце, чаму ў першых сэнсава-граматычных частках прыведзеных сказаў нельга змяніць час дзеясловаў. Паразважайце пра прычыны немагчымай замены.

1. Сонца хаваецца за небасхіл, і цені гусцеюць. 2. Сонца схавалася за небасхіл, але яшчэ гадзіну трымаецца шэры змрок.

### Працуем карэктарамі

**53.** Вызначце адносіны паміж сэнсава-граматычнымі часткамі сказаў, выпраўце памылкі.

1. Сонца апускалася ўсё ніжэй і ніжэй, і надышоў вечар. 2. Прысела за работу, затое яна не ішла ў голаў. 3. Песню дружна падхапілі, і яна раскацілася над паўнаводнай ракой. 4. Берагі прыбраліся ў малахіт травы, і рэчка зіхацела, сляпіла вочы. 5. Па-ранейшаму ў небе ззяла сонца, ды паўсюль угадваўся жывы рух ручаёў. 6. То па начах прымарожвала, то днём было вельмі цёпла. 7. Даверліва прыпадае да зямлі вёска, і за ёй устае лес. 8. Падзьмуў сіберны вецер, і становіцца вельмі холадна. 9. Згусціліся хмары, і ідзе спорны дождж.

### Працуем перакладчыкамі

**54.** Перакладзіце сказы на беларускую мову. Вызначце, у якіх сказах змянілася будова. Акрэсліце сэнсавыя адносіны паміж часткамі сказаў. Зрабіце поўны сінтаксічны разбор аднаго складаназлучанага сказа.

1. Мама, отлично знавшая языки, занималась со мною очень усердно, и я хорошо читала по-французски. 2. Я покорно уступила было моё место, но Нина, подоспевшая вовремя, накинулась на Бельскую. 3. Мне было неловко от замечания Нины, сделанного при всех, но в то же время я была бесконечно благодарна милой девочке, взявшей себе обязанность защищать меня. 4. Она ушла, а я ещё чувствовала её около себя — милую, добрую, великодушную Нину! (*Л. Чарская*).

**55.** Прачытайце тэкст, сфармулюйце яго асноўную думку, выкажыце свае адносіны да прачытанага. Запішыце складаныя сказы, ахарактарызуйце іх будову. Зрабіце поўны сінтаксічны разбор складаназлучаных сказаў.

Выхаванне як мора, якое абточвае вострыя грані каменьчыкаў. Але структура каменю застаецца нязменнай.

Чалавечая натура як клубок, што разматваецца, выцягваючыся ў адзіную лінію жыцця. І можна перафарбаваць пражу, вымыць яе ці забрудзіць, але нельга змяніць яе якасці.

І няма ніякіх «пераходных узростаў» — усё гэта выдумкі педагогаў-тэарэтыкаў. Дакладней, кожны ўзрост ёсць пераходны, кожны дзень з'яўляецца прыступкай да іншага жыццёвага этапу. Проста кожны ўзрост акцэнтуе розныя якасці асобы — якасці, якія ў сваёй сутнас-

ці застаюцца нязменнымі ўсё жыццё. Час і досвед могуць толькі «адшліфаваць» пэўныя рысы.

Жыццё змяшчае нас, бы вадкасць, у самыя розныя пасудзіны — і, хочаш ці не, мусіш дастасоўвацца да іх формы.

Адзінае, што можа — і абавязаны — выхаваўца, — дапамагчы чалавеку развіць тыя добрыя якасці, якія ў ім закладзены. А не старацца ўкласці нейкія іншыя, хай сабе і найлепшыя, але не ўласцівыя гэтаму чалавеку.

Дарэмна намагацца выкаваць меч з волава. Але і волава, калі яно патрэбна, нічым не заменіш.

Твой шлях, твае магчымасці вызначаюцца «матэрыялам», з якога створаная твая асоба (*А. Аблажэй*).

**Правяраем сябе**

1. Які сказ называецца складаназлучаным?
2. Якія сэнсавыя адносіны выражаюцца паміж часткамі складаназлучанага сказа?
3. Якія злучнікі ўдзельнічаюць у выражэнні сэнсавых адносін паміж часткамі ў складаназлучаных сказах?
4. Якімі знакамі прыпынку могуць раздзяляцца часткі ў складаназлучаных сказах?
5. Калі на мяжы частак у складаназлучаных сказах коска не ставіцца?

## Правілы пабудовы складаназалежнага сказа. Злучальнае слова — не злучнік

**Паўтараем**

**Складаназалежным** называецца сказ, што ўключае дзве і больш сэнсава-граматычныя часткі, якія звязаны паміж сабой пры дапамозе падпарадкавальных злучнікаў ці злучальных слоў. У такім сказе адна частка з'яўляецца сэнсава і граматычна незалежнай. Яна называецца ***галоўнай***. Другая частка — граматычна залежная, падпарадкаваная галоўнай, называецца ***даданай***. Злучнік ці злучальнае слова знаходзіцца ў даданай частцы.

| Злучнікі | Злучальныя словы | |
|---|---|---|
| | Адносныя займеннікі | Займеннікавыя прыслоўі |
| **Што, як, калі, каб, нібы, таму што, так што, раз, хоць, пакуль, ледзь, ледзь толькі, абы** | **Хто, што, які, чый, колькі** | **Дзе, куды, адкуль, чаму, навошта, нашто, як, калі** |

| Злучнікі | Злучальныя словы | |
|---|---|---|
| | **Адносныя займеннікі** | **Займеннікавыя прыслоўі** |
| Злучнікі з'яўляюцца службовымі часцінамі мовы і не могуць быць членамі сказа | Злучальныя словы — гэта самастойныя часціны мовы, і таму яны з'яўляюцца членамі сказа | |
| Замена злучніка паўназначным словам немагчымая. Яго можна замяніць іншым злучнікам або ўвогуле апусціць | Злучальнае слова можна замяніць паўназначным словам | |
| Да злучніка нельга паставіць пытанне | Да злучальнага слова можна паставіць пытанне | |
| Злучнік не выдзяляецца лагічным націскам. Аднаскладовыя злучнікі зліваюцца ў вымаўленні з наступным словам | Злучальнае слова мае, як правіла, лагічны націск | |

**56.** Дайце тэксту загаловак. Вызначце тып маўлення, абгрунтуйце свой адказ. Складзіце план тэксту. Перакажыце тэкст паводле плана. Выпішыце складаназалежныя сказы. Ахарактарызуйце сродкі сувязі паміж часткамі.

Беларусы карысталіся і карыстаюцца двума алфавітамі — кірыліцай і лацінкай. Акрамя таго, беларускія татары, што жывуць на гэтай зямлі ўжо 600 гадоў, свае кнігі пісалі па-беларуску арабскімі літарамі. Асабліва вялікі ўклад зрабілі беларусы ў развіццё кірыліцы. Гэтую азбуку, якую стварылі ў 863 годзе хрысціянскія прапаведнікі Кірыла і Мяфодзій для тагачаснай мовы паўднёвых славян, удасканалілі і спрацілі беларускія перапісчыкі. Яны адкінулі лішняе і стварылі тыя літары, якіх не было ў пачатковай кірыліцы: **э**, **й**, а таксама адмысловую літару **ґ** (ґанак, мазґі).

Францішак Скарына стварыў прыгожы друкарскі шрыфт, а канчаткова наблізіў формы літар да сучасных Галляш Капіевіч (родам з Мсціслава), выпускнік Слуцкай гімназіі, кнігавыдавец і перакладчык. У 1700 годзе ў Амстэрдаме Капіевіч заснаваў друкарню, там ім былі створаны акругленыя, падобныя да лацінскіх, літары кірыліцы для тытульных аркушаў кніг. Шрыфты Капіевіча ўпадабаў расейскі цар Пётр I, калі быў у Нідэрландах. Новыя літары яшчэ доўга называлі «амстердамские литеры», або «белорусская азбука», бо Пётр I стварыў

і зацвердзіў новы шрыфт на аснове Капіевічавага. Менавіта гэтымі літарамі цяпер карыстаюцца беларусы, расейцы, украінцы, македонцы, балгары, сербы ды іншыя народы, што ўжываюць кірыліцу. Мовазнавец Ян Станкевіч назваў гэты шрыфт капіеўкаю (*«100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі»*).

**57.** Вызначце, чым звязаны дадания часткі з галоўнымі ў складаназалежных сказах: злучальнымі словамі ці злучнікамі. Якімі часцінамі мовы і членамі сказа з'яўляюцца злучальныя словы? Складзіце схемы сказаў.

1. Верны будзь слову, якое ўпала з матчыных вуснаў, як з неба, у душу (*Л. Геніюш*). 2. Мудрыя ўсіх вякоў лічылі, што ў кожнай дзяржаве пачціваму чалавеку няма нічога даражэйшага за волю (*Л. Сапега*). 3. І варта жыць, каб неба ўсё ад Месяца да самых дробных зорак — прачытаць (*Ю. Свірка*). 4. Шчаслівы той, хто не зайздросціць поспеху іншага, а дапамагае яму (*Г. Марчук*). 5. Калі ў чалавека ёсць адданы сябар, у такога чалавека ёсць два жыцці для ажыццяўлення сваіх жаданняў (*Ф. Бэкан*). 6. Мінулае вучыць нас, як жыць сёння (*Я. Баршчэўскі*).

**58.** Адзначце сказы, адпаведныя схемам. Ахарактарызуйце сродкі сувязі паміж галоўнай і даданай часткамі.

1. Жыві, шукай, усё рабі як след, каб на Радзіме твой свяціўся след (*С. Грахоўскі*). 2. Той, хто зняверыўся, іншым не прыклад (*Н. Гілевіч*). 3. Калі слязы не знала вока, цаны не ведаеш слязам (*П. Броўка*). 4. Да самай глыбіні чалавечай душы і таго, што прымусіла яе рабіць тое ці іншае, не дакапаецца ніводзін суд (*У. Караткевіч*). 5. Нібы маці, беражы працаўніцу нашу — мову, бо яна жыцця зачын і пачатак песні новай (*Я. Сіпакоў*). 6. Калі неба згаджаецца ўзяць чалавека, зямля згаджаецца яго адпусціць (*А. Разанаў*).

[...таго, (што...), ...].
[— × —], (бо...).
(Калі...), [— × —].
[— × —], (каб...).
[Той, (хто...), ...].

**Рыхтуемся да дыктоўкі**

**59.** Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі. Размяжуйце аманімічныя злучнікі і злучальныя словы. Вызначце сінтаксічную функцыю злучальных слоў. Складзіце схемы сказаў.

1. І н..колі не ўзыдзе зерне, што ўпала ў бя..плодны пясок (*В. Вітка*). 2. Калі ты камус..ці хоць трошкі патрэбен, дык хочацца шчодра

і радасна жыць (*С. Грахоўскі*). 3. Не суцяшайся траскучай фразай, што з мілым і ў шалашы рай. Шлюб не толькі духоўны, але і мат..рыяльны саюз. Збіраючыся стварыць сям'ю, падумай, як ты (не)залежны матэрыяльна (*В. Сухамлінскі*). 4. Сумна, калі галава вучня напоўнена большай ці меншай колькасцю ведаў, але ён не навучыўся іх выкарыстоўваць (*А. Дыстэрвег*). 5. Лес, і рэчку, і клёкат буслоўы, чалавечую ўсмешку ўраз можна знішчыць адным толькі словам, што бяздумна вырвецца ў нас (*В. Вітка*).

**60.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі. Падкрэсліце сродкі сувязі ў складаназалежных сказах. Да якіх часцін мовы адносяцца ўказальныя словы? Складзіце схемы сказаў.

1. Тады ты ў лепшае паверыш, калі на сэрцы згода, (не)руш (*Г. Каржанеўская*). 2. Дае..а толькі тым жывучасць, хто здольны ў муках сцвердзіць сваё «я» (*Н. Мацяш*). 3. Трэба жыць так, каб кожны пражыты дзень здаваўся новым (*С. Канёнкаў*). 4. Чалавек толькі тады чагос..ці дасягае, калі верыць у свае сілы (*Л. Феербах*). 5. Там, дзе не хапае разумных доказаў, іх замяняе крык (*Леанарда да Вінчы*). 6. Колькі ў чалавека дабрыні, столькі ў ім і жыцця (*Р. Эмерсан*). 7. Усе, хто змагаецца за праўду, імкну..а да адной мэты (*А. Барбюс*).

**Творчы практыкум**

**61.** Утварыце з прыведзеных частак складаныя сказы. Адзначце, да чаго ў галоўнай частцы (да апорнага слова, словазлучэння ці да сэнсава-граматычнай часткі ў цэлым) адносіцца дадзеная частка. Складзіце схемы сказаў.

| Лялечны тэатр нашай школы возьме ўдзел у міжнародным тэатральным фестывалі... | што адбудзецца ў жніўні. |
|---|---|
| | якія перамог у абласным конкурсе школьных тэатральных калектываў. |
| | хоць у калектыве акцёраў адбыліся значныя змены. |
| | які будзе арганізаваны ў Авіньёне. |
| | калі пройдзе адборачны тур творчага конкурсу. |
| | таму што журы абвясціла наш спектакль лепшым. |
| | так што творчая задача акцёраў і рэжысёра можа лічыцца выкананай. |

### ✍ Правяраем сябе

**62.** Падрыхтуйце вучэбнае паведамленне на тэму «Складаназлучаны і складаназалежны сказы», адказаўшы на наступныя пытанні.

1. Якія сродкі выкарыстоўваюцца для сувязі паміж часткамі складаназалежнага і складаназлучанага сказаў?
2. Якія сэнсавыя адносіны выражаюцца паміж часткамі складаназлучанага і складаназалежнага сказаў?

# ДАДАНАЯ ЧАСТКА Ў СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫМ СКАЗЕ: ШТО ДАДАЕЦЦА?

## Складаназалежныя сказы з даданымі азначальнымі часткамі

**Паўтараем**

Складаназалежныя сказы з даданымі азначальнымі часткамі ўяўляюць сабой канструкцыі, даданая частка якіх адносіцца, як правіла, да назоўніка галоўнай часткі. Даданая частка характарызуе прымету прадмета, канкрэтызуе значэнне назоўніка і адказвае на пытанне ***які? якая? якое? якія?***: *Мова ў паэзіі згушчаецца, насычаецца* ***энергіяй***, (***якой?***) *якая, як магніт жалезнае пілавінне, размяшчае словы па сваіх магнітных лініях* (*А. Разанаў*). Азначальныя адносіны ў складаназалежным сказе падобныя да азначальных адносін у словазлучэннях, напрыклад: *Мова ў паэзіі згушчаецца, насычаецца* ***гарманізуючай энергіяй***. Праўда, даданая частка з'яўляецца больш разгорнутым, сэнсава насычаным азначэннем, змест якога нельга перадаць адным словам. Для сувязі галоўнай часткі з даданай ужываюцца злучальныя словы ***які***, ***хто***, ***што***, ***дзе***, ***куды***, ***адкуль***, ***чый*** і злучнікі ***што***, ***нібыта***, ***быццам***, ***каб***: *Дабрыня — гэта* ***Бог***, *які пасяліўся ў сэрцы чалавека* (*А. Рахматаў*). *Маршчыны — гэта проста ўказанне на* ***месца***, *дзе часта бывае ўсмешка* (*М. Твэн*).

Галоўная частка такіх сказаў часта змяшчае ўказальныя займеннікі ***той***, ***такі*** і інш., якія знаходзяцца перад апорным назоўнікам. Такая галоўная частка не заўсёды перадае закончаную думку, патрабуючы азначэння даданай часткай: *Дарослым ты становішся ў* ***той дзень***, *калі ўпершыню па-сапраўднаму пасмяяўся з самога сябе* (*Э. Барымор*). — *Дарослым ты становішся ў той дзень...*

Даданыя азначальныя часткі могуць адносіцца непасрэдна да ўказальных ці азначальных займеннікаў ***той***, ***такі***, ***усякі***, ***кожны***, ***усе*** і інш., канкрэтызуючы і раскрываючы іх змест. Указальныя словы галоўнай часткі такіх сказаў са злучальнымі словамі даданай часткі часта ўтвараюць суадносныя пары тыпу ***той — хто***, ***той — чый***, ***той — які***, ***тое — што***, ***кожны — хто*** і інш.: *Самы шчаслівы чалавек* ***той***, ***хто*** *дорыць шчасце найбольшай колькасці людзей* (*Д. Дзідро*). *Нам дорыць радасць не* ***тое***, ***што*** *вакол нас, а нашы адносіны да яго* (*Ф. Ларошфуко*). *Чалавек* ***такі***, ***якое*** *яго ўяўленне пра шчасце* (*В. Сухамлінскі*).

**63.** Спішыце сказы, падкрэсліце ў галоўнай частцы назоўнікі, займеннікі і спалучэнні назоўнікаў з указальнымі словамі, якія паясняюцца дадатнай часткай. Размяжуйце злучнікі і злучальныя словы. Зрабіце сінтаксічны аналіз трох сказаў.

1. Прыгажосць — гэта вечнасць, якая доўжыцца імгненне (*А. Камю*). 2. Дружба павінна быць трывалай, перажываючы ўсе штуршкі на дарозе, дзе здзяйсняюць сваю жыццёвую вандроўку людзі (*А. Герцэн*). 3. Дзень, калі вы не папоўнілі сваёй адукацыі хаця б маленькім, але новым для вас кавалкам ведаў, лічыце марна і беззваротна для сябе страчаным (*К. Станіслаўскі*). 4. Дабрыня, Розум і Воля — тры кіты, што трымаюць свет чалавека (*І. Шавялёў*). 5. Заспявай жа мне песню такую, каб маланкай жахала яна (*Я. Колас*). 6. Сапраўдным з'яўляецца тое мастацтва, якое ператварае ў казку простыя з'явы штодзённасці (*К. Паўстоўскі*). 7. У свеце пачуцця ёсць толькі адзін закон — зрабіць шчаслівым таго чалавека, якога кахаеш (*Ф. Стэндаль*). 8. Тыя людзі, якім няма чаго сказаць, ніколі не лезуць па слова ў кішэню (*Г. У. Шоу*).

**64.** Запішыце сказы, расстаўляючы знакі прыпынку. Пабудуйце схемы сказаў. Займеннікі якіх разрадаў выступаюць у ролі ўказальных слоў? Вызначце іх сінтаксічную функцыю.

1. Хто не забыўся на мінуўшчыну той беражэ і будучыню (*В. Рагаўцоў*). 2. Што ў душы тое будзе і ў слове (*С. Законнікаў*). 3. Надзея — гэта тое чым дыхае каханне (*А. Рахматаў*). 4. Якая птушка такое і гняздзечка (*Прыказка*). 5. Усё добра што добры канец мае (*Прыказка*). 6. Якая Беларусь такі й народ (*В. Аколава*). 7. Па-сапраўднаму верыць у Бога той хто ўмее тварыць карысныя для грамадства справы (*У. Калеснік*).

**Працуем перакладчыкамі**

**65.** Перакладзіце на беларускую мову. Адзначце, якія сродкі выкарысталі пры перакладзе нехарактэрных для беларускай мовы дзеепрыметнікаў.

1. Книга — памятник ушедшим в вечность умам (*У. Дэвенант*). 2. Книги подобны пчёлам, переносящим пыльцу от одного ума к другому (*Д. Лоуэлл*). 3. Книги делают нас наследниками минувших веков (*У. Кэннинг*). 4. Язык —кремень, слова — искры. Они могут сделать пожар, — будь осторожен, разговаривающий! (*Э. Капиев*). 5. Слова подобны листьям: дерево, производящее их очень много, приносит очень мало плодов (*А. Поп*). 6. Нет силы более могучей, чем знание: человек, вооружённый знанием, непобедим (*М. Горький*).

### Творчы практыкум

**66.** Складзіце сказы з прыведзеных кампанентаў. Якімі адценнямі значэння адрозніваюцца простыя і складаныя сказы? Якія сказы часцей ужываюцца ў кніжных стылях маўлення?

| | | |
|---|---|---|
| **Андарак** | складзены «ў гармонік» | адпарвалі гарачым хлебам |
| | які складвалі «ў гармонік» | |
| | «у гармонік» | |
| | складвалі «ў гармонік» | |
| | (яго складвалі ў гармонік) | |

### Працуем карэктарамі

**67.** Выпраўце граматычныя і стылістычныя памылкі ў сказах.

1. У бібліятэцы з'явіліся новыя даведнікі, якія ніхто са студэнтаў не чытаў. 2. Навуковец прачытаў ліст, дзе паведамлялася пра паходжанне назваў вёсак Пінскага раёна. 3. Човен, выдзеўбаны з цэльнага ствала дрэва і які рухаўся з дапамогай аднаго вясла, шырока выкарыстоўваўся ў рыбалоўстве. 4. Тадэвуш Касцюшка, названы народным героем Амерыкі і Польшчы і імя якога шануюць французы і англічане, не адзін дзясятак гадоў пражыў далёка ад радзімы.

### Правяраем сябе

**68.** Напішыце канспект на тэму «Складаназалежны сказ з даданай азначальнай часткай», адказаўшы на пытанні.

1. Якія сэнсавыя адносіны складваюцца паміж галоўнай і даданай азначальнай часткамі складаназалежнага сказа?

2. Якія часціны мовы з'яўляюцца апорнымі словамі ў галоўнай частцы?

3. Якія злучнікі і злучальныя словы з'яўляюцца сродкамі сувязі паміж галоўнай і даданай азначальнай часткамі?

4. Ахарактарызуйце сінанімію паміж дзеепрыметнікавым зваротам і даданай азначальнай часткай складаназалежнага сказа.

## Складаназалежныя сказы з даданымі дапаўняльнымі часткамі

**Паўтараем**

Даданая дапаўняльная частка раскрывае, дапаўняе, канкрэтызуе сваім зместам пэўны член галоўнай часткі складаназалежнага сказа. У кола апорных слоў, якія тлумачыць даданая дапаўняльная частка, уключаюцца дзеясловы (дзеепрыметнікі, дзеепрыслоўі), прыметнікі, прыслоўі, прэдыкатыўныя прыслоўі, назоўнікі, несвабодныя словазлучэнні са значэннем маўлення, думкі, успрымання, стану, розных пачуццяў, пабуджэнняў, ацэнак: ***сказаць***, ***гаварыць***, ***размова***, ***думка***, ***рады***, ***шчаслівы***, ***паведаміць***, ***расказваць***, ***падумаць***, ***адказаць***, ***бачыць***, ***здзіўляцца***, ***вядома***, ***ясна***, ***шкада***, ***рабіць выгляд***, ***звярнуць увагу*** і інш. Даданыя дапаўняльныя адказваюць на склонавыя пытанні, далучаючыся да галоўнай часткі пры дапамозе злучнікаў ***што***, ***як***, ***каб***, ***нібыта***, ***быццам***, ***ці*** і злучальных слоў ***хто***, ***што***, ***дзе***, ***куды***, ***адкуль***, ***чаму***, ***які*** і інш.: *Памылкова думаць,* ***што*** *многа ведаць — гэта заслуга. Важная не колькасць, а якасць* (*Л. Талстой*). *Прыслухайся да таго,* ***што*** *раіць сябар* (*Гарацый*).

Даданая дапаўняльная частка можа паясняць у галоўнай указальнае слова, якое выконвае ролю дапаўнення: *Мяркуйце пра сваё здароўе па тым,* ***як*** *вы радуецеся раніцы і вясне* (*Г. Тора*).

**69.** Спішыце сказы. У галоўных частках падкрэсліце апорныя словы. Складзіце схемы сказаў.

1. Чалавеку ўявіць няўзмогу, як па дзецях баліць душа Бацьку Богу (*Р. Барадулін*). 2. Добра, калі ёсць запас на ліхі час (*Прыказка*). 3. Заўсёды будзь гатовы выказаць, што думаеш. І нягоднік будзе пазбягаць цябе (*Марк Аўрэлій*). 4. Каб ведаў чалавек, дзе спатыкнецца, то пераступіў бы тое месца (*Прыказка*). 5. Добра, калі ў цябе ёсць сябар. Цудоўна, калі сябар прыняты як родны ў тваёй сям'і (*Ю. Нагібін*). 6. Калі вы хочаце, каб жыццё ўсміхалася вам, падарыце яму спачатку свой добры настрой (*Б. Спіноза*). 7. Сёння часта я сябе пытаю, чаго так стараўся прабегчы міма вогнішча матчыных казак, міма сосен буслiных надрэчных, міма столькіх парогаў знаёмых, салаўіных світанняў, лістападаў, дажджоў, снегападаў, і юнацтва свайго і кахання? (*М. Танк*). 8. Захавалася паданне, што на месцы возера Свіцязь быў цудоўны палац. 9. Чалавек створаны для шчасця. Але хто сказаў, нібыта шчасце створана для чалавека? (*М. Твэн*).

**70.** Прачытайце ўрывак з «10 загадаў для памяці», надрукаваных у «Беларускім календары» за 1922 год. Акрэсліце ідэю твора. Выпішыце складаназалежныя сказы з даданымі дапаўняльнымі часткамі. Складзіце іх схемы. Вызначце сінтаксічную функцыю злучальных слоў.

Кожны праваслаўны беларус павінен ведаць, што ён не расеец; а католік, што ён не паляк. Памятайце, што вы не проста «тутэйшыя людзі», а беларусы.

Богу маліцца трэба толькі па-свойму. Тады вы добра зразумееце тое, што кажаце. Дзяцей трэба вучыць толькі ў роднай мове, тады навука прынясе шмат карысці.

Толькі тады цябе ўсе будуць шанаваць як чалавека, калі сам сябе будзеш шанаваць, калі не адкінеш свайго нацыянальнага ўласнага багацця. А першы скарб нацыянальны — гэта родная мова.

Культура кожнай нацыі паасобку прыносіць карысць агульначалавечай культуры — усяму свету. Таксама і мы, беларусы, прынясём карысць усім людзям на зямлі толькі тады, калі яны ў нас угледзяць нашае асобнае, вытваранае намі, а не пазычанае. Фундаментам гэтага ёсць толькі родная мова.

**71.** Да прыведзеных сказаў з пабочнымі словамі падбярыце сінанімічныя сказы з даданай дапаўняльнай часткай.

1. Паводле падання, гаспадар паселішча надаў гораду імёны сваіх дачок — Ружы і Ганны. Пачалі навакольцы клікаць месца Ружанай, часам ласкава — Ружаначкай, а цяпер — Ружанамі. 2. Паводле ўспамінаў сучаснікаў, каралева Бона называла Пружаны маленькім Міланам. Таму і гербы гэтых гарадоў падобныя. 3. Паводле расказаў старажылаў, некалі паселішча заснаваў лунінец — выхадзец з вёскі Лунін. Гэтак у 1449 годзе ўзнік Малы Лунін, пазней названы Лунінцам. 4. На думку пінчукоў, іх горад — сапраўдная сталіца Палесся. 5. Паводле летапісных звестак, князь Давыд загадаў у 1100 годзе пабудаваць на рацэ Гарыні Гарадок. У гонар заснавальніка паселішча носіць імя Давыд-Гарадок.

**72.** Карыстаючыся табліцай, раскажыце пра пастаноўку знакаў прыпынку ў складаназалежным сказе з даданай часткай, якая перадае ўскоснае пытанне. Дапоўніце табліцу прыкладамі.

| У складаназалежным сказе з даданай дапаўняльнай часткай пытанне заключаецца: | | |
|---|---|---|
| у даданай частцы | у галоўнай частцы | у галоўнай і даданай частках |
| ***Прыклад*** | ***Прыклад*** | ***Прыклад*** |

**73.** Вызначце часцінамоўную прыналежнасць слова *ці* ў кожным сказе. Перакладзіце сказы на рускую мову. Звярніце ўвагу на рускамоўныя адпаведнікі слова *ці* ў кожным кантэксце.

1. Настаўнік спытаўся, ці выканаў Андрэй дамашняе заданне. 2. Дзяўчаты ці хлопцы перамаглі ў спаборніцтве?

**Правяраем сябе**

**74.** Падрыхтуйце лінгвістычнае паведамленне «Складаназалежны сказ з даданай дапаўняльнай часткай», асвятліўшы прыведзеныя пытанні. Тэарэтычныя палажэнні праілюструйце прыкладамі.

1. Акрэсліце сэнсавыя адносіны паміж галоўнай і даданай дапаўняльнай часткамі складаназалежнага сказа.
2. Якімі часцінамі мовы выражаюцца апорныя словы ў галоўнай частцы?
3. Якія злучнікі і злучальныя словы звязваюць з галоўнай часткай даданую дапаўняльную? Ад чаго залежыць выбар злучніка ці злучальнага слова?

## Складаназалежныя сказы з даданымі акалічнаснымі часткамі

**Паўтараем**

**75.** Спішыце сказы. Ахарактарызуйце сродкі сувязі паміж прэдыкатыўнымі часткамі, вызначце тыпы даданых частак. Пабудуйце схемы сказаў.

1. Там, дзе пачынаецца абыякавасць, там недалёка гібель (*К. Чорны*). 2. Чалавек створаны для шчасця, як птушка для палёту (*В. Караленка*). 3. Што б ні здарылася, не губляй бадзёрасці (*Л. Талстой*). 4. Праграма навучання ў Кракаўскім універсітэце складалася такім чынам, каб студэнты атрымалі энцыклапедычныя веды (*А. Марціновіч*). 5. Ёсць Беларусь і будзе, пакуль ёсць мы (*Е. Лось*). 6. Як дуб за жвір трымаецца карэннем, так Беларусь стаіць на курганах (*В. Шніп*). 7. У маладосці мы жывём для таго, каб любіць. А ў сталым узросце мы любім для таго, каб жыць (*Ш. Сэнт-Эўрэмон*). 8. Дубы былі выносныя, стройныя, бы точаныя, і такія тоўстыя, што тры чалавекі не маглі абняць камель рукамі (*Я. Колас*).

**76.** Пабудуйце сказы паводле прыведзеных схем. Да якога тыпу адносяцца дададныя часткі гэтых сказаў?

1. [...туды], (дзе...).

2. [...наз.], (дзе...).

3. [...там], (куды...).

4. [...той + наз.], (куды...).

5. [...тады], (калі...).

6. [...той + наз.], (калі...).

7. [— × —], (каб...).

8. [...прэд. прысл.], (каб...).

**Пунктуацыйны трэнінг**

**77.** Спішыце сказы, расстаўляючы знакі прыпынку. Назавіце галоўную і дададную часткі ў сказах. Вызначце, да чаго адносяцца дададныя акалічнасныя часткі. Ахарактарызуйце сродкі сувязі паміж сэнсава-граматычнымі часткамі. Складзіце схемы сказаў. Зрабіце сінтаксічны аналіз трох сказаў.

1. Як толькі выходны дзянёк настае ён вуды і снасці збірае свае і досвіткам ранні на бераг ідзе і ціха спускаецца к цёмнай вадзе (*П. Глебка*). 2. Некаторыя выводзяць назву Ружаны ад слова «ружа» бо было гэта месца чароўна-прыгожым (*А. Бензярук*). 3. А далей дзе ручаёк рабіў завоіны у балотнай лагчыне парослай алешнікам яшчэ адну плаціну даўным-даўно паставілі бабры (*А. Жук*). 4. Жыццё было б пустым і вартым спачування калі б на свеце не было кахання (*Г. Бураўкін*). 5. Развітальным сумным пасланцом сонечны прамень упаў у садзе. І на шыбе так зазіхацеў што міжволі жмурыліся вочы (*В. Вітка*). 6. Гандляры не паспявалі за дзень прадаць усю жывую рыбу таму ўвечары яе выпускалі ў Нямігу (*С. Тарасаў*). 7. Надзею майце як якар душы каб не захлынулі вас хвалі жыццёвыя (*Р. Барадулін*). 8. Адкрытае сэрца каму б яно ні адкрывалася нельга зневажаць (*В. Іпатава*). 9. Рабі так як загадвае абавязак чалавека (*Цыцэрон*).

**78.** Перабудуйце простыя сказы з адасобленымі азначэннямі і акалічнасцямі ў складаназалежныя з дададнымі акалічнаснымі часткамі. Ахарактарызуйце сродкі сувязі паміж часткамі. Складзіце схемы сказаў.

1. Не кажы гоп, не пераскочыўшы (*Прыказка*). 2. Толькі страціўшы радзіму, будзеш, як камель, сляпы і глухі (*М. Танк*). 3. Уражаны гераізмам савецкага маёра Пятра Гаўрылава, нямецкі афіцэр загадаў сваім салдатам аддаць яму чэсць (*А. Бензярук*). 4. Разбураныя часам, замкі і зараз з годнасцю паглядаюць на нас праз вежавыя байніцы (*С. Тарасаў*).

## Паўтараем

| Дадaная параўнальная частка | Параўнальны зварот |
|---|---|
| 1. Мае граматычную аснову — дзейнік і выказнік. Пры адсутнасці выказніка ёсць дадаПыя члены з яго саставу.<br>2. Сказ, у склад якога ўваходзіць гэтая частка, з'яўляецца складаназалежным | 1. Адсутнічае састаў дзейніка ці састаў выказніка.<br><br>2. Сказ, у склад якога ўваходзіць параўнальны зварот, з'яўляецца простым ускладненым |

**79.** Спішыце сказы, падзяліўшы іх на тры групы: 1) складаназалежныя сказы з дадaнымі параўнальнымі часткамі; 2) простыя сказы, ускладненыя параўнальнымі зваротамі; 3) складаназалежныя сказы з дадaнымі спосабу дзеяння. Пабудуйце схемы складаназалежных сказаў.

1. Няма стабільнасці ў жыцці, як і ў прыродзе (*Л. Геніюш*). 2. А там крыжуюцца зарніцы, бы косяць неба-сенажаць (*Я. Колас*). 3. Блакіт нябёс тады празрысты, нібы ў маі. Асеннія сады, як вогнішчы, палаюць (*П. Панчанка*). 4. Памылка адносіцца да ісціны, як сон да абуджэння. Абуджаючыся ад памылкі, чалавек з новай сілай звяртаецца да ісціны (*І. Гётэ*). 5. Як гукаюць, так і адгукаюцца (*Прыказка*). 6. Як хто хоча, так па сваім бацьку і плача (*Прыказка*). 7. У глыбі двара стаяла хата і выглядала зухавата паміж запушчанай будовы, як бы шляхцянка засцянкова (*Я. Колас*). 8. Ад першае вясновае паводкі, ад самых першых памятлівых дзён свайго жыцця пахіслівую лодку на плынь выводжу, быццам плытагон (*У. Паўлаў*).

**80.** Спішыце сказы, размеркаваўшы іх на дзве групы: 1) складаназалежныя сказы з дадaнымі дапаўняльнымі або азначальнымі часткамі, ускладненымі акалічнаснымі адценнямі; 2) складаназалежныя сказы з дадaнымі акалічнаснымі часткамі. Складзіце схемы сказаў.

1. Люблю наш край — старонку гэту, дзе я радзілася, расла (*К. Буйло*). 2. Дзе этыкету многа, там шчырасці мала (*В. Галавач*). 3. Калі паэт сваёй эпохай дыша — паэзію яго ўхваляць пакаленні (*М. Чарот*). 4. У XIII стагоддзі для Полацка настал і цяжкія часы, калі з Поўначы прыйшлі драпежныя крыжакі-мечаносцы (*С. Тарасаў*). 5. Як умею, так і пяю (*Прыказка*). 6. Раскажы, як нашыя продкі змагаліся з крыжакамі на Грунвальдскім полі (*А. Бензярук*).

## Слова пра словы

**Нататка** — газетны жанр, кароткае паведамленне, у якім апісваецца які-небудзь факт ці ставіцца канкрэтнае пытанне. Нататкай на-

зываецца таксама жанр публіцыстычнага ці навуковага твора, у якім падаецца кароткая інфармацыя пра падзею, даецца ўяўленне аб прадмеце.

**81.** Падрыхтуйце нататку пра цікавую для вас падзею, з'яву, аб'ект.

**Правяраем сябе**

1. Ахарактарызуйце будову складаназалежных сказаў. Пакажыце, што агульнага паміж складаназалежнымі і складаназлучанымі сказамі і чым яны адрозніваюцца.

2. Дайце характарыстыку галоўнай і даданай часткам складаназалежнага сказа. Акрэсліце сродкі сувязі частак (злучнікі, злучальныя словы, указальныя словы). Пакажыце, чым адрозніваюцца злучальныя словы ад злучнікаў.

3. Назавіце віды даданых частак у складаназалежных сказах. Адзначце, што трэба ўлічваць пры вызначэнні тыпу даданай часткі.

4. Прывядзіце прыклады, калі аднолькавыя злучнікі ці злучальныя словы звязваюць з галоўнай часткай розныя тыпы даданых.

## Складаназалежныя сказы з некалькімі даданымі часткамі

**Паўтараем**

У залежнасці ад адносін паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаназалежных сказаў з некалькімі даданымі выдзяляюцца сказы:

1) з паслядоўным падпарадкаваннем;
2) з сузалежным падпарадкаваннем;
3) са змешаным падпарадкаваннем.

**Памятайце:**

• Аднародныя даданыя часткі могуць быць звязаны злучнікамі **і**, **ці**, **або**.

• Злучнік ці злучальнае слова перад другой даданай часткай і астатнімі часткамі можа быць прапушчана: *Калі вы ўдала выбераце працу і ў яе будзе ўкладзена ўся ваша душа, то шчасце само вас знойдзе* (*К. Ушынскі*).

*Каб ярка свяціла перлінка-слова, каб людзям зіхцела на ўсе бакі, яго шліфавалі як след адмыслова найлепшыя ў свеце тачылы-вякі* (*К. Цвірка*).

**82.** Карыстаючыся табліцай, акрэсліце адметнасць сказаў з сузалежным, паслядоўным і змешаным падпарадкаваннем.

| | | |
|---|---|---|
| Складаназалежны сказ з паслядоўным падпарадкаваннем | [прэд. прысл.], (каб... наз.), (якое...). | Як хораша было б, **каб** вырасла пакаленне людзей, **якое** нічога не баялася б! (*І. Шамякін*). |
| Складаназалежны сказ з сузалежным аднародным падпарадкаваннем | (Каб...), а (...) — [— × —]! | **Каб** радасць біла ў цымбалы, бубен, **а** ўсім жылося шчасліва, люба — падайце кубак! (*М. Танк*). |
| Складаназалежны сказ з сузалежным неаднародным падпарадкаваннем | (Калі...), [...дзеясл.], (што...). | **Калі** чалавек залішне высока ставіць сябе, яму ўвесь час здаецца, **што** другія хочуць прынізіць яго (*І. Шамякін*). |
| Складаназалежны сказ са змешаным падпарадкаваннем | [ ], (бы...), (бо... наз.), (што...). | Не вырвеш з нас жывую нашу душу, **бы** з дзяснаў слабых набалелы зуб, **бо** мы народ вялікі, непарушны, народ, **што** да зямлі прырос, як дуб (*У. Караткевіч*). |

**Пунктуацыйны трэнінг**

**83.** Спішыце сказы, расстаўляючы знакі прыпынку. Ахарактарызуйце тып сувязі ў складаных сказах з некалькімі даданымі часткамі. Складзіце схемы сказаў.

1. Заспявай ты мне песню такую каб душу мне паліла яна каб у ёй ты нядолю людскую і ўсё вычарпаў гора да дна (*Я. Колас*). 2. Сябры не набываюцца гадамі. Іх ніколі не бывае так многа каб сказаць што сяброў ужо досыць (*Я. Скрыган*). 3. Ва ўсім цывілізаваным свеце родная мова — аснова якая лучыць усе прадметы школьнага курса якая праходзіць праз усе яго часткі (*Р. Шырма*). 4. Жыццё кожны раз падводзіць чалавека да краю жыцця нагадваючы што яно не самамэта

што жыць каб адно толькі жыць нельга (*А. Разанаў*). 5. Талент — нешта настолькі таямнічае што калі усё будуць ведаць пра Зямлю пра яе мінулае і будучае у апошнюю чаргу даведаюцца пра яго сутнасць (*Р. Гамзатаў*). 6. Калі закончыў Бог сваю работу і збіраўся ўжо на адпачынак да яго прыйшоў Адам са скаргай што сонца зусім не грэе (*М. Танк*).

**84.** Пабудуйце з кожнай групы простых сказаў складаныя сказы з некалькімі дадзенымі часткамі. Складзіце схемы сказаў. Ахарактарызуйце тыпы дадзеных частак. Вызначце від сінтаксічнай сувязі.

1. Лінгвісты здаўна вывучалі імёны ўласныя. Яны ўзніклі на ранніх этапах гісторыі чалавечага грамадства. Тады імя служыла для індывідуалізацыі кожнага асобнага члена соцыуму. 2. Некаторыя народы верылі ў магічныя ўласцівасці імя. З імем можна было перадаць чалавеку пэўныя якасці і нават прадвызначыць яго лёс. З'явілася традыцыя надання немаўляці імя шчаслівага і багатага чалавека. Традыцыя гэтая захавалася і ў нашы дні. 3. Старажытныя людзі імкнуліся падмануць злых духаў. Была створана складаная сістэма звычаяў, абрадаў, рытуалаў — магія. Яна стала важным элементам жыцця першабытнага чалавека.

**85.** Складзіце складаназалежныя сказы з некалькімі дадзенымі часткамі паводле прыведзеных схем. Ахарактарызуйце від сувязі ў складзеных сказах. Вызначце тыпы дадзеных частак.

[...наз.], (дзе...), (дзе...), (дзе...).

(Пакуль...), [...прым.], (што...).

(Каб...), (каб...), [...дзеясл.], (які...).

(Калі...), [...туды], (куды...), (куды...).

[...той], (хто... тады), (калі...).

(Хоць...), [...там], (дзе... наз.), (які...).

## Ці заўсёды патрэбна коска: знакі прыпынку ў складаназалежным сказе

**Паўтараем**

1. У складаназалежных сказах даданая частка аддзяляецца ад галоўнай коскай ці выдзяляецца коскамі з абодвух бакоў, калі знаходзіцца ўнутры галоўнай часткі: *Я не спяшаюся зіму сустрэць, пакуль гасцюе лета ў сэрцах нашых* (*Р. Баравікова*). *Хто не любіць роднай мовы, той любіць толькі сам сябе* (*С. Грахоўскі*). *Той, хто ўсіх слухае, не навучыцца і дровы калоць* (*Прыказка*).

2. Коска не ставіцца:

1) паміж аднароднымі даданымі часткамі, калі яны аб’яднаны злучальным злучнікам, які не паўтараецца: *Шчасце, калі доўга яго чакаеш і калі яно ў нейкі дзень прыходзіць, здаецца неспадзяваным* (*М. Танк*). Калі злучальны злучнік паўтараецца, то коска (як і пры аднародных членах сказа) не ставіцца толькі перад першай даданай часткай сказа: *Яна ўспамінала і як яны сустрэліся, і як хадзілі гуляць па ціхіх гарадскіх вуліцах, і як віталі ўзыход сонца*;

2) паміж аднароднымі даданымі часткамі, калі падпарадкавальны злучнік не паўтараецца, а толькі падразумяваецца: *У канцы сакавіка, калі сонца пачало прыграваць і снег пастудова сышоў, мядзведзіца пакінула свой бярлог* (*В. Вольскі*);

3) калі перад падпарадкавальным злучнікам ці злучальным словам стаіць адмоўе **не**: *Важна высветліць не што адбылося, а хто вінаваты*;

4) калі даданая частка ў структурным плане ўяўляе сабой адно злучальнае слова — адносны займеннік ці займеннікавае прыслоўе: *Ён абяцаў прыехаць, але не сказаў калі*;

5) перад падпарадкавальным злучнікам, калі яму папярэднічае слова з далучальным значэннем (**асабліва**, **у прыватнасці**, **а іменна**, **а менавіта**): *На гарадскіх вуліцах няўтульна ў канцы лютага, асабліва калі вецер чапляецца за дахі дамоў, нема вые ў комінах* (*С. Тарасаў*);

6) перад фразеалагізмамі, знешне падобнымі на даданыя сказы: *Як слова сказаць падбягае да майго каня нейкі чорны, хударлявы, малады яшчэ хлопец* (*Ядвігін Ш.*).

3. У складаназалежным сказе з некалькімі даданымі можа ўтварыцца збег злучнікаў (злучніка і злучальнага слова). Пры збегу падпарадкавальных злучнікаў коска паміж імі ставіцца, калі пропуск даданай часткі, якая пачынаецца другім злучнікам, не парушае структуры сказа, а іменна: калі пасля даданай часткі няма другой часткі

злучніка **то** ці **так**: *Мы, вясковыя дзеці, ведалі, што, калі да парэзанага пальца ці падрапанага калена прыкласці лісцік крываўніка, кроў неўзабаве сапраўды спыняецца, а пякучы боль сціхае* (*У. Ягоўдзік*). Коска не ставіцца, калі ўжываецца парны злучнік **калі — то**, **калі — дык**. У такім сказе пропуск другой часткі, якая пачынаецца другім злучнікам, немагчымы, бо парушае структуру сказа, напрыклад: *Але ж праўду кажуць, што калі хто няўважлівы, дык ніякія замкі яму не дапамогуць* (*П. Галавач*).

**Пунктуацыйны трэнінг**

**86.** Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары і расстаўляючы знакі прыпынку. Сфармулюйце арфаграфічныя і пунктуацыйныя правілы, якімі вы кіраваліся.

1. Дзень што без дружбы й любові пражыты знікне бя..следна навекі забыты (*А. Зарыцкі*). 2. Калі мне сказалі што ліст мой парвала я ўбачыў што поўнач настала (*М. Танк*). 3. Хто адрокся мовы бацькоў, хто ўздзеў чужую апратку той ад..шоў ад народу далёка-далёка (*Цётка*). 4. Каб вясне прабіць дарогу каб калісь в..рнуўся рай слова праўды слова (Б,б)ога мусіш слухаць родны край (*У. Караткевіч*). 5. Пра сталасць і вартасць народа нацыі све..чыць не тое якіх талентаў якіх геніяў нарадзіў народ а тое як ставіцца народ нацыя да народжаных сваіх талентаў геніяў як народ нацыя з імі аб..шліся і аб..ходзяцца (*Ф. Янкоўскі*). 6. Пэўна неабходна для паэта нават і ў касмічныя вякі каб звінела птушкамі паветра і цвілі ля сцежак васількі (*Г. Бураўкін*). 7. А хто вецер пасее той буру пажне (*М. Танк*). 8. Мяне ўжо радуе і тое што ночка стала ўбываць і што ад мёртвага спакою пачне прырода ажываць што з кожным днём бліжэй к вясне мы, калі абудзяцца гаі і сон палёў, спакой іх немы пабудзяць з шумам ручаі (*Я. Колас*). 9. Людзі верылі што калі на (Д,д)абравешчанне будзе дождж будзе ўраджай на жыта (*У. Васілевіч*). 10. Лічы ня..часным той дзень і час у які ты не засвоіў нічога новага і нічога не дадаў да сваёй адукацыі (*Я. Каменскі*).

**87.** Спішыце сказы, расстаўляючы знакі прыпынку, растлумачце іх.

1. Цяжка як без паветра людзям жыць без паэта з ненацягнутым імем — прарок (*В. Жуковіч*). 2. Радзіма стой як горды ўцёс (*У. Караткевіч*). 3. Кожны чалавек імкнецца да шчасця. Шукае як шукальнік залатую жылу (*І. Грамовіч*). 4. Мудрасць крылатая як насенне дуба ляціць і ўкараняецца ўжо на вечнасць (*Л. Геніюш*). 5. Каб завеі жыццёвая замець не завеяла нашых слядоў гімнасцёрку як бацькаву па-

мяць я збярог для сваіх сыноў (*М. Хведаровіч*). 6. Дождж ліў як з вядра а жанчына і хлапчук стаялі і моклі (*Б. Сачанка*). 7. Час ляціць як птушка. 8. Здавалася ўжо назаўсёды «адцвіце ружа-кветка» як у песні пяецца (*А. Бензярук*). 9. Велічны ружанскі палац як абветраны стагоддзямі казачны птах (*Я. Буяк*). 10. Тады дзяцей вучаць як каля лаўкі ходзяць (*Прыказка*). 11. Як асоба яркая шматгранная генерал Аляксандр Вітмер шмат што паспеў зрабіць за сваё жыццё (*А. Карлюкевіч*). 12. Рамонкі зусім як дзяўчаткі-дашкаляткі (*У. Ягоўдзік*). 13. Чыстае сумленне ёсць не што іншае як радасць з нагоды радасці прынесенай іншаму чалавеку (*Антычны афарызм*).

**88.** Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль, абгрунтуйце свой адказ. Дайце тэксту загаловак. Выпішыце складаназалежныя сказы. Вызначце тып дадзеных частак. Складзіце схемы сказаў. Спішыце, расстаўляючы знакі прыпынку.

Рэчка Ружанка як тонкі блакітны паясок. Вельмі няспешная роўная яе вадзіца. На берагах гэтай ціхай рэчкі і жыццё здавён плыве як песня спакойнае быццам водар летніх палявых кветак.

У старадаўнія часы Ружанка як змейка-вужык абвівала ўзвышша. Тут як гамоняць людцы калісь быў мураваны палацык а вакол яго множыліся драўляныя хаткі. Тутэйшы гаспадар надаў новаму паселішчу імёны сваіх любых дачок Ружы ды Ганны. Дзяўчынкі кажуць былі блізняткамі падобнымі як дзве кроплі вады. Таму і злучыліся ў адной назве. Пачалі навакольцы клікаць селішча Ружанай.

Назва Ружаны выводзіцца і ад слова «ружа». Той гаспадар-пан так шанаваў кветкі што і дачушку сваю назваў Ружай і вёсачку сваю «ахрысціў» Ружанамі. Ды нядобры быў той век войны хвалямі па зямлі каціліся. Каб уберагчы сваё месца ад спусташэнняў загадаў уладар будаваць навокал грозныя муры а ружанцаў вучыць трымаць зброю. Бо нездарма кажуць што ўсялякая ружа калючкі мае для таго каб прыгажосць сваю бараніць.

Калі мястэчка займела права на ўласны герб дык жыхары выбралі за свой знак чырвоныя ружы на срэбраным полі а ў цэнтры шчыта змясцілі мужчынскую постаць з крыжам і лілеяй у руках. Адбылося гэта ў далёкім 1637 годзе.

Нельга яшчэ не заўважыць як блізка стаяць назвы Ружаны і Пружаны. Абодва населеныя пункты месцяцца ў Пружанскім раёне Брэсцкай вобласці. Таямнічасць назвы Пружанаў даследчыкі паспрабавалі «расшыфраваць». Вучоныя лічаць што паходзіць слова ад назвы

няшчаснага балцкага племені прусаў якое ўшчэнт да апошняга дзіцяці было вынішчана крыжаносцамі. Тыя воіны як жалезныя павукі на памежжы XII і XIII стагоддзяў звілі «павуцінне» на балцкіх землях агнём і мячом прымушалі да хросту язычніцкія народы ў славу каталіцтва.

Прусы ў напамін пакінулі назву Прусія сучасная Калінінградская вобласць у Расіі ды Памор’е ў Польшчы. Ды на нашых землях пра даўняе племя нагадваюць Пружаны (*А. Бензярук*).

**Рыхтуемся да дыктоўкі**

**89.** Прачытайце тэкст, дайце яму загаловак. Вызначце асноўную думку тэксту. Спішыце, захоўваючы арфаграфічныя і пунктуацыйныя нормы беларускай мовы.

Святыні вечныя бо яны для ўсіх пакаленняў што былі ёсць і будуць. Падчас апошняй вайны знікла бясследна ці не самая дарагая для Беларусі святыня (К,к)рыж Еўфрасінні Полацкай зроблены славутым майстрам Лазарам Богшам яшчэ ў 1161 годзе.

Гэта ..нікальны помнік (старажытна)беларускага эмал..ернага мастацтва які быў створаны выдатным юв..лірам па просьбе (П,п)олацкай асветніцы. Крыж быў зроблены з кіпарысавага дрэва майстар абклаў яго залатымі пласцінамі аздобіў каштоўнымі камянямі і змяшчаў у сабе кроплю кр..ві Хрыста і часцінку Крыжа Гасподня. Паводле запавету (К,к)рыж полацкай ігуменні ажыўляе душы народа сцеражэ абараняе краіну.

У час Вялікай Айчыннай вайны (К,к)рыж бясследна знік хоць надпіс-закляцце зроблены на ім абяцаў кожнаму хто яго скрадзе страшэннае пакаранне.

Мастак Мікола Кузьміч не пашкадаваў пяці гадоў цяжкай працы каб узнавіць жыватворны (К,к)рыж святой Еўфрасінні. Працу па стварэнні (К,к)рыжа блаславіў (М,м)ітрапаліт (М,м)інскі і (С,л)уцкі Філарэт які зрабіў паломні..тва ў святыя мясціны адкуль былі дастаўлены ў нашу краіну для копіі (К,к)рыжа часцінкі Крыві Хрыстовай і мошчаў пакутнікаў а таксама камень ад Труны Гасподняй і Маці Божай (*Паводле Я. Сіпакова*).

**Слова пра словы**

**Нарыс** — адзін з відаў эпічнай, апавядальнай літаратуры, які адрозніваецца ад іншых яе відаў (раман, аповесць, апавяданне) тым, што ў нарысе дакладна адлюстроўваюцца рэальныя падзеі. Удзельнікі іх жылі на самай справе. Параўнаем: у апавяданні пісьменнік,

вывучыўшы шэраг жыццёвых фактаў і выбраўшы з іх ліку істотнае і характэрнае, стварае пры дапамозе творчага ўяўлення абагульненую карціну, г. зн. адлюстроўвае падзеі, якіх на самай справе не было або якія маглі адбывацца не так, як ён іх адлюстраваў.

Нарысіст, перадаючы жыццёвыя факты, так, як і кожны мастак, выбірае з жыцця толькі самыя істотныя з іх, адзначае ў падзеях і паводзінах чалавека толькі характэрнае, тое, што выражае думку аўтара, яго адносіны да жыцця. Аднак аўтар нарыса не можа змяняць жыццёвыя падзеі і факты, выкарыстоўваць элементы вымыслу.

**Творчы практыкум**

**90.** Напішыце партрэтны нарыс пра вядомага земляка.

**Правяраем сябе**

1. У чым асаблівасць будовы складаназалежных сказаў з некалькімі даданымі часткамі?

2. Раскажыце пра пастаноўку знакаў прыпынку ў складаназалежных сказах.

## Выкарыстанне складаназалежных сказаў у тэкстах розных тыпаў, стыляў і жанраў

**Слова пра словы**

**91.** Прачытайце. Выпішыце з тэксту азначэнне анатацыі. Дайце разгорнуты адказ на пытанне: «Што такое анатацыя?»

У пачатку ці ў канцы большасці выданняў змяшчаецца некалькі радкоў, на якія абавязкова звяртае ўвагу вопытны чытач. Гэта **анатацыя** — сціслая характарыстыка друкаванага выдання, якая дае самае агульнае ўяўленне пра яго прызначэнне, змест і іншыя асаблівасці. Напрыклад: «Кніга ў займальнай і даступнай форме раскрывае сэнсавы бок напісанняў слоў разам, асобна, праз злучок. Змяшчае свежы і арыгінальны ілюстрацыйны матэрыял».

Слова **анатацыя** ў лацінскай мове азначае «заўвага», «нататка». Аднакаранёвым да яго з’яўлялася калісьці слова **нота** — умоўны знак для перадачы гукаў музыкі. Першапачатковае значэнне паняцця **анатацыя** падкрэслівае, што сцісласць (як і змястоўнасць і зразумеласць) — найважнейшая яе ўласцівасць.

Паводле падлікаў спецыялістаў, чытач, выбіраючы кнігу па бібліятэчных картках без анатацый, у 30—50 % памыляецца ў сваім выбары. Па-за ўвагай такога чытача застаюцца патрэбныя выданні, а лішні час і намаганні трацяцца на пошук і прагляд непатрэбных.

Як відаць, маленькая анатацыя прыносіць вялікую карысць (*Паводле М. Качынскага, В. Лявонава*).

**92.** Прачытайце анатацыю на раман В. Коўтун «Пакліканыя». Зрабіце выснову, чым ён адрозніваецца ад іншых твораў, прысвечаных жыццю вялікай беларускай асветніцы. Выпішыце з анатацыі складаныя сказы, пабудуйце іх схемы.

Валянціна Коўтун адзначыла, што жанр яе новага твора — раман-жыціе. Твор прысвечаны жыццю Нябеснай Апякункі беларускага народа Еўфрасінні Полацкай. Літаратуразнаўцы высветлілі, што сам жанр жыція ўзнік яшчэ ў Рымскай імперыі ў першыя стагоддзі хрысціянства. Адзін з першых вядомых помнікаў беларускай жыційнай літаратуры — «Жыціе Еўфрасінні Полацкай» (XII—XIII стст.). Шмат стагоддзяў прайшло з таго часу — жанр зведаў шмат змен, але застаўся. Ён будзе актуальны столькі, колькі будзе жыць у чалавеку Вера. І вось перад намі — новы твор пра полацкую ігуменню, паўнавартасны сучасны раман, напісаны даступным займальным стылем, напоўнены вострымі сюжэтнымі калізіямі. Але твор не пазбаўлены прыцягальнага сюжэтнага каларыту. Факты жыцця Еўфрасінні, вядомыя са старажытных крыніц і пазнейшых даследаванняў, пісьменніца дапоўніла сваёй фантазіяй і інтуіцыяй, уласным асэнсаваннем катэгорыі сакральнага, місіянерскай ролі ў гісторыі хрысціянства.

**93.** Прачытайце тэкст, вызначце яго стылістычную прыналежнасць. Абгрунтуйце свой адказ. Вусна перакажыце тэкст. Выпішыце складаныя сказы з дадзенымі азначальнымі часткамі. Ахарактарызуйце сродкі сувязі паміж часткамі. Зрабіце сінтаксічны аналіз сказаў, складзіце іх схемы.

**Рэцэнзія** — артыкул, у якім даецца крытычны аналіз і ацэнка літаратурнага, мастацкага, навуковага, навукова-папулярнага твора, пераважна новага, з пункту погляду вартасцяў і недахопаў яго зместу і формы. Гэта жанр літаратурнай, мастацкай, навуковай і газетна-часопіснай публікацыі.

Вылучаюць некалькі асноўных відаў рэцэнзіі. Яна можа быць невялікім крытычным або публіцыстычным артыкулам, у якім рэцэнзаваны твор — падстава для абмеркавання мастацкага або сацыяльнага пытання. Рэцэнзія можа ўяўляць сабой разгорнутую анатацыю, што

раскрывае змест твора. Рэцэнзіяй можа быць эсэ, лірычны роздум, навеяны знаёмствам з творам. Вылучаюць таксама аўтарэцэнзію, у якой выкладаецца погляд аўтара на свой твор або вядзецца палеміка з тлумачэннем яго ў крытыцы (*Паводле М. Мікуліча*).

**94.** Прачытайце рэцэнзію А. Марціновіча на кнігу У. Ліпскага «Мы: Аповесць пра нашы прозвішчы» (Мінск, 2006). Да якога стылю адносіцца тэкст? Назавіце характэрныя прыметы гэтага стылю. Выпішыце складаназалежныя сказы з дадамымі дапаўняльнымі часткамі. Ахарактарызуйце сродкі сувязі паміж часткамі сказаў. Складзіце іх схемы.

### ПРОЗВІШЧЫ — АСНОВА РАДАВОДУ

Бадай, многія чыталі кнігу Уладзіміра Ліпскага «Я: Праўдзівы аповед пра мой і твой радавод». Гэтаксама добра знаёмы і яшчэ з дзвюма: «Мама: Малітва сына» і «Бацька». У іх, асабліва ў першай, вядомы пісьменнік выступае сапраўдным даследчыкам. Ён прасочвае, як на працягу многіх стагоддзяў фарміраваліся дынастыі звычайных людзей. Нямала папрацаваўшы ў архівах, аўтар адшукаў фамільны герб Ліпскіх, што называецца «Граблі».

Ёсць раздзел «Сямейныя гербы» і ў новай кнізе У. Ліпскага «Мы: Аповесць пра нашы прозвішчы», якая з'яўляецца нібы працягам папярэдняй. У кнізе аўтар тлумачыць, што прозвішчы не што іншае, як аснова нашага радаводу. У. Ліпскі ўзяўся расшыфроўваць родавыя найменні на прыкладзе прозвішчаў Рэчыцкага раёна, у якім, у вёсцы Шоўкавічы, і нарадзіўся.

Такім чынам, пісьменнік самастойна падступіўся да вырашэння некаторых пытанняў, якімі займаецца антрапаніміка. Аўтар кнігі тлумачыць, што гэта «навука пра наш старажытны і сучасны іменаслоў, пра нашы старажытныя і сучасныя імёны, пра іх сэнс, грамадскае і культурнае прызначэнне». Антрапаніміку У. Ліпскі набліжае да шырокага чытача, усведамляючы, што «прозвішчы — гэта люстэрка і нашай сівой гісторыі, і геаграфіі краю, і фальклору. Гэта гістарычны, культурны ген пэўнага чалавечага роду».

Кампазіцыя кнігі вырашана арыгінальна. Прозвішчы згрупаваны паводле паходжання («Чые вы, адкуль?», «Партрэт», «Характар», «На ўсе рукі майстры», «Ад сяброў чацвераногіх», «Лясныя мелодыі», «Людзі-птушкі», «Хата»). А перад гэтымі раздзеламі ідуць яшчэ два — «Святыя ад А да Я» і «Маміна чыстае імя». У іх разглядаюцца прозвішчы, утвораныя ад мужчынскіх і жаночых імёнаў тых, каго праваслаўная царква ўшаноўвае як святых.

Застаецца толькі дадаць, што твор У. Ліпскага хораша ўпісваецца ў шэраг кніг гістарычна-краязнаўчай тэматыкі. Пазначылася тэндэнцыя, якая не можа не радаваць. Узнікла яна з разумення, што на зямлі ёсць МЫ — беларусы, народ, нацыя. Каб такое ўсведамленне яшчэ больш замацавалася і набыло сваю духоўную рэальнасць, неабходна часцей звяртацца да ўласных першавытокаў. Настаўніку ж трэба падштурхоўваць да гэтага вучняў. Маладым трэба зразумець, што толькі любячы сваю сінявокую Беларусь, можна быць сапраўдным грамадзянінам.

**Творчы практыкум**

**95.** Напішыце рэцэнзію на твор, які вас зацікавіў. Выкарыстайце для выражэння ўласнага меркавання складаназалежныя сказы з дадзенымі дапаўняльнымі часткамі (Лічу, што…; Добра, што…; Важна, што…; Здзіўляе, што…; Цікава, як…; Я прыйшоў да высновы, што…).

**Працуем перакладчыкамі**

**96.** Вызначце стыль тэксту, адзначце адметныя рысы гэтага стылю. Запішыце складаназалежныя сказы ў перакладзе на беларускую мову, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Складзіце схемы сказаў. Перакажыце тэкст па-беларуску.

ФЁДОР = ИВАН

Странноватое равенство. Как может Ваня означать Федю? Прежде чем возмущаться, разберёмся в происхождении этих имён.

Слово Фёдор раньше писали как Феодор. Тогда оно в точности походило на западноевропейское имя Теодор. Это естественно, потому что оба имени взяты из греческого языка. У греков их буква Θ в разные времена читалась по-разному: в древности как «тх», позднее как «ф». Мы, через Византию, взяли её в звучании «ф», западные народы стали изображать её на латинский лад, как «th». Поэтому наше Феодор и заграничное Theodor — просто два различных произношения греческого слова-имени. Присмотревшись, можно понять, что оно состоит из двух частей: Тео + дор.

Что может означать Тео? Это легко уразуметь, если сравнить с ним такие слова, как «тео + логия» (наука о Боге), «тео + кратия» (божье правление), «а + теизм» (безбожие). А Теодор (Феодор) — это «дар Бога». Имена, содержащие в себе слоги «тео» или «фео», связаны с понятием Бога, божества. Их у нас очень много: Тимофей (богобоязненный), Феофил (боголюб), Феодосий (Богом данный) и т. д.

Значит, Феодор — «божий дар» по-гречески. А Иван (точнее, Йоханаан) тот же «божий дар», если перевести это слово с древнееврейского языка.

Это требует разъяснения. В древнееврейском языке нет слова Иван. Но имя это, которое у всех европейских народов звучит сейчас по-разному (у немцев — Иоганн, у французов — Жан, у англичан — Джон, у финнов и эстонцев — Юхан, у поляков — Ян), когда-то в древней Иудее произносилось как Йэхоханан или Йоханаан. Означало это слово «божья благодать», «божий дар», поэтому имя Иван совпадает по значению с именем Фёдор (*По Л. В. Успенскому*).

**Творчы практыкум**

**Слова пра словы**

**Рэпартаж** у журналістыцы — аператыўнае, з падрабязнасцямі, паведамленне пра якія-небудзь падзеі, здарэнні, сведкам ці ўдзельнікам якіх быў аўтар.

**97.** Абгрунтуйце назву тэксту. Вызначце стыль тэксту, назавіце прыметы гэтага стылю. Выпішыце складаназалежныя сказы. Вызначце тыпы дадзеных частак, ахарактарызуйце сродкі сувязі паміж часткамі, складзіце схемы сказаў. Напішыце рэпартаж пра цікавую падзею ў вашай школе.

СВЯТЫЯ ЗЯРНЯТЫ НАРОДНАЙ КУЦЦІ

Абрад цяпер прызнаны сапраўдным правадзейным аб'ектам нематэрыяльнай духоўнай спадчыны. Менавіта з клопатам пра захаванне традыцый і абрадаў каляндарных святаў у Інстытуце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь адбыўся семінар «Рэгіянальныя фальклорныя традыцыі каляндарных святаў і абрадаў беларусаў і іх выкарыстанне ў сацыякультурнай дзейнасці».

Задача семінара — абмеркаваць, якія існуюць шляхі адаптацыі традыцыйных форм святаў у нашым жыцці, наколькі, прыходзячы з глыбіні стагоддзяў, каляндарныя святы могуць захоўваць сваю самабытнасць. Менавіта святы фарміруюць ідэнтычнасць беларускай нацыі і ўяўленні пра нас, таму што з'яўляюцца адметнымі толькі ў нас.

Удзельнікі семінара прывялі цікавыя прыклады, якія сведчаць пра тое, як у іншых краінах народы шануюць сваю культуру. Напрыклад, у Карэі людзі — карэнныя носьбіты традыцый — нават атрымліваюць дзяржаўную стыпендыю і годна выконваюць сваю місію, перадаючы веды наступнікам.

Складанасць у тым, што шмат традыцый захоўваецца ў так званых неперспектыўных маленькіх вёсачках, дзе ўсяго 10—12 дамоў.

«Страчаныя традыцыі святкавання цяжка адраджаць, асабліва цяжка для гарадоў. Я жыхарка вялікага горада, таму была адарваная ад гэтых традыцый. Далучылася да іх стыхійна», — расказвае Ларыса Мятлеўская, вядучы навуковы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту. Л. Мятлеўская стварыла калекцыю рэканструкцый народных строяў па матывах абрадавых святаў. Навукоўца ўспамінае: «Я трапіла ў згуртаванне моладзі, якая цікавілася народнай культурай, у канцы 1980-х. І мы пачалі стыхійна абуджаць цікавасць да народных традыцый. Так хацелася вывучаць тое, што было да нас. Мы слухалі запісы аўтэнтычных спеваў і на слых вучылі палескія песні. Хадзілі на спеўкі вывучаць калядныя песні, гуканні вясны. У агульную канву ўпляталася вывучэнне народных гульняў, карагодаў, танцаў. Я набыла веды, якія трапілі ў маю душу зернем, як з той Куцці. І гэта тыя зярняты з кашы, якія выраслі пасля ў творчыя праекты і далі мне смеласць» (*Паводле І. Тулупавай*).

**98.** Напішыце рэпартаж пра цікавую падзею ў вашай школе. Выкарыстайце ў рэпартажы цытаты з навуковых ці літаратурных крыніц, статыстычныя звесткі. Уключыце ў свой твор складаназалежныя сказы з некалькімі дадзенымі часткамі.

## Са злучнікам ці без яго: адрозненне бяззлучнікавых сказаў ад іншых складаных сказаў

**Паўтараем**

**99.** Паводле спосабу сувязі частак складаныя сказы падзяляюцца на злучнікавыя і бяззлучнікавыя. Раскрыйце сэнс гэтых гаваркіх тэрмінаў. Успомніце віды складаных злучнікавых сказаў. Падбярыце адпаведныя прыклады з прапанаваных выслоўяў Р. Барадуліна.

1. А голас мамін будзе мне гучаць, нібы малітва ў храме. 2. Мама — мая небадарная Біблія, якая мяне да жыцця прыручыла. 3. Маці не нараджаюцца, іх пасылае Бог кожнаму, каб чалавекам застацца мог. 4. Маці не стала — сонца зайшло. 5. Мы ўсе жывём пад зоркамі матуль, і гэты свет сагрэлі нам матулі.

**100.** Вызначце тып сказаў. Спішыце сказы, паставіўшы неабходныя знакі прыпынку. Зрабіце поўны сінтаксічны разбор простых сказаў. Пабудуйце схемы складаных сказаў.

1. Адзін Гасподзь — надзейная апора ўсяму што Ім задумана, усяму (*Р. Барадулін*). 2. Чалавек адно датуль шчаслівы покуль сам умее шчасце даць (*Н. Мацяш*). 3. Заспявай мне на матчынай мове незабыўную песню пра сярпочак дзявочыя рукі васільковы на скронях вянок (*Л. Геніюш*). 4. Толькі той край блаславёны ў Бога дзе шануюцца продкі і іхняе далей доўжаць нашчадкі (*Г. Далідовіч*).

**Пунктуацыйны трэнінг**

**101.** Сэнсавыя адносіны паміж часткамі ў бяззлучнікавым сказе абумоўліваюць выбар знака прыпынку. Праілюструйце сэнсавыя адносіны паміж часткамі бяззлучнікавага сказа, выбраўшы з прапанаваных адпаведны сказ.

| | | |
|---|---|---|
| I | , ; | пералічэнне; адносіны адначасовасці ці паслядоўнасці |
| II | : | прычына, тлумачэнне, дапаўненне, абагульненне |
| III | — | супастаўленне, супрацьпастаўленне, вынік |

1. Так ужо наканавана небам: маці дзеляцца з дзецьмі душою сваёй, як хлебам (*Р. Барадулін*).

2. Агонь — ганец новага часу, новага сягоння, ён гоіць жыццё ад багны і ганьбы (*А. Разанаў*).

3. Самае-самае я давяраю мору і лесу: толькі яны ўмеюць хаваць таямніцу (*М. Рудкоўскі*).

4. Усё мінае — Гонар не мінае (*У. Караткевіч*).

5. З трох крыніц я вады паспытала — наталіла адна Беларусь (*Я. Янішчыц*).

6. Тканіна нашага жыцця выткана з пераблытаных нітак: дабро і зло суседнічае ў ім (*А. Бальзак*).

7. Дарога — найдаражэйшая госця: яна нясе людзям навіны, нясе дары, нясе радасць (*А. Разанаў*).

**102.** Прачытайце, захоўваючы адпаведную інтанацыю. Выпішыце, бяззлучнікавыя складаныя сказы, акрэсліце сэнсавыя адносіны паміж часткамі. Пабудуйце схемы. Часткі, звязаныя паміж сабою больш цесна, аб'яднайце ў блок.

*Узор*: Лічу я: жорсткасць — гэта ночы, дабрата — высокі дзень (*С. Законнікаў*). [ ]: [[ ], [ ]].

1. Неспасціжнымі бываюць загадкі чалавечага сэрца, і не падпарадкоўваецца яно ні загадам, ні ўгаворам (*В. Іпатава*). 2. Ёсць лагода на боль, на скруху: адрачэцца радня па крыві — адагрэе радня па духу (*Н. Мацяш*). 3. Дае прырода зноў урокі нам: не верце цішыні, салодкім снам, бяда і радасць ходзяць разам вечна, людзей ратуе толькі чалавечнасць (*П. Панчанка*).

### Працуем карэктарамі

**103.** Пастаўце неабходныя знакі прыпынку, растлумачце іх. Зрабіце поўны сінтаксічны разбор складанага сказа.

I.

Шумі хвалюйся мой народ
Ты жыў у страху столькі год!
І столькі зяблі ў зняменні
Твой добры дух і добры геній!
Але не зніклі! Дух зноў бродзіць.
Жыві хвалюйся мой народзе! (*М. Рудкоўскі*).

II.

Як радасна мой дружа разумець
Што мой народ не пагражаў нікому
Не нападаў не гнаў нікога з дому
І ў дом чужы не нёс ніколі смерці.
Зямля і воля мараю былі.
І на вайне ён спавядаўся полю
Як птушку грэў заўжды пад сэрцам волю
Каб зноў араць і сеяць на зямлі (*Я. Сіпакоў*).

### Працуем перакладчыкамі

**104.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Ахарактарызуйце структуру сказаў, вызначце іх ролю ў выказванні аўтара.

Я стою и расту — я растение.

Я стою и расту, и хожу — я животное.

Я стою, и расту, и хожу, и мыслю — я человек.

Я стою и чувствую: земля под моими ногами, вся земля.

Опираясь на землю, я поднимаюсь: и надо мною небо — всё небо моё.

И начинается симфония Бетховена, и тема её: всё небо — моё (*М. Пришвин*).

**105**. Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Запішыце, захоўваючы правілы арфаграфіі і пунктуацыі. Сфармулюйце асноўную думку тэксту.

Во многих странах и во многие эпохи художники составляли особую касту с собственными обычаями и привилегиями. Они пользовались языком, отличным от разговорного, и этому языку надо было учиться. Именно в такой атмосфере возник санскрит — утончённый язык молитв и поэзии. Молитва и поэзия были явлениями одного и того же порядка, потому что поэт в каком-то смысле являлся и жрецом и его творчество было связано с религией. Бывало оно связано и с магией, и тогда поэт превращался в чародея. Стихи обретали силу магических заклинаний: «Carmina veb caelo possunt deducere lunam» — «Стихи могут даже луну заставить с неба спуститься». Некоторые разновидности древнегреческой лирики навсегда сохранили в себе напоминание об их религиозном происхождении (*Я. Парандовский*).

**Рыхтуемся да дыктоўкі**

**106**. Прачытайце верш Р. Барадуліна, растлумачце знакі прыпынку. Паразважайце над выслоўем паэта: «Мы ўсе жывём пад зоркамі матуль...»

Выпусціць птушку,
Апусціць галаву,
Выпусціць шчасце,
Вядро таксама...
Лічуся,
Пакуль тапчу мураву,
Выпускніком той школы,
Дзе навучала мама.
Хоць, праўда,
Вырас я недавучам,
Бо слухаў усё
Не душою, а вухам.

Пераросткам
У школу пайшоў,
Ды застаўся
Недаросткам,
І ў гэтым мая бяда ўся:
Да ісціны не дарос,
Што мама вачыма,
Святымі ад слёз,
У Бога
Выпрасіла мой лёс.

# ЗАДУМАЕМСЯ НАД СЭНСАМ І ІНТАНАЦЫЯЙ: ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ Ў БЯЗЗЛУЧНІКАВЫХ СКЛАДАНЫХ СКАЗАХ

## Коска і кропка з коскай у бяззлучнікавым складаным сказе

**Паўтараем**

**107.** Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў тэкстах. Выпішыце складаныя сказы, вызначце іх тып. Як адрознілі складаныя сказы ад простых з аднароднымі членамі?

І. Груша цвіла апошні год. Усе галіны яе, усе вялікія расохі да апошняга пруціка былі ўсыпаны бела-ружовым цветам. Яна кіпела млела і раскашавалася ў пчаліным звоне цягнула да сонца свае лапы і распасцірала ў яго ззянні маленькія кволыя пальцы новых парасткаў. І была яна такая магутная і свежая так утрапёна спрачаліся ў яе ружовым раі пчолы што здавалася не будзе ёй зводу і не будзе канца (*У. Караткевіч*).

ІІ. Людзей яднаюць ці раны і боль ці дабрата і любоў. Нашы раны наш боль наша любоў яднаюць нас з усім параненым светам, як і са светам які любіць і спадзяецца (*Паводле В. Карамазава*).

ІІІ.
Я атрымаў у спадчыну
Спалены Полацкі летапіс
Клёкат буслоў над Начаю
Магілы дзядоў пад Лепелем.

Я атрымаў у спадчыну
Слёзы руін на замчышчах
І песні як боль гарачыя
Святыя як вочы матчыны (*С. Сокалаў-Воюш*).

**108.** Падрыхтуйце паведамленне пра пастаноўку коскі ў бяззлучнікавым сказе. Абгрунтуйце пастаноўку знакаў прыпынку ў сказах.

1. Падаюць сняжынкі, дыяменты-росы падаюць бялюткі за маім акном расчасалі вішні шоўкавыя косы і ўранілі долу снегавы ўбор (*П. Трус*). 2. Зноў пайшла раўней мая дарога зноў вачам адкрываюцца новыя абразы свету іншыя галасы чуе маё вуха іншыя думкі родзяцца ў маім сэрцы (*Я. Колас*). 3. Над лесам бліскаюць ясныя бліскавіцы над лесам ляскаюць бязлітасныя перуны (*А. Разанаў*). 4. Ад вясенняй расы

травы зелянеюць ад асенняй — заўжды вянуць ды сівеюць. Ад вясенняй расы граюць птушкі шчыра ад асенняй — лятуць у далёкі вырай (*М. Танк*).

**Слова пра словы**

**109.** Вызначце стыль тэксту, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Падрыхтуйцеся да напісання папераджальнай дыктоўкі.

КОСКА

Надрадковыя знакі, падобныя па абрысах на коску, сустракаюцца ўжо ў самых старажытных славянскіх тэкстах. Яўхім Карскі адзначаў іх наяўнасць, напрыклад, у такіх помніках, як Астрамірава Евангелле, Савіна кніга, Супрасльскі рукапіс і іншых, дзе яны ўжываліся, як правіла, над галоснымі, хутчэй за ўсё па традыцыі на месцы прыдыханняў і апострафаў, характэрных для грэцкай мовы.

Як радковы (уласна пунктуацыйны) знак коска ў славян пачала сустракацца толькі ў XIV стагоддзі. Знешні выгляд радковай коскі фактычна не адрозніваўся ад сучаснага (*І. Гапоненка*).

**Пунктуацыйны трэнінг**

**110.** Паразважайце над сэнсам выслоўяў Р. Барадуліна. Запішыце, абгрунтуйце знакі прыпынку. Падкрэсліце граматычныя асновы. Паразважайце пра магчымыя варыянтныя знакі прыпынку.

1. Родны край ніхто не выбірае, выбірае родны край цябе. 2. Без радзімы народа няма, без народа няма радзімы. 3. Радзіма будзе жыць без мяне, мяне без Радзімы не будзе. 4. Дома суха і ў багне, на чужыне й на ўзгор'і гразка. 5. Не цяплее душа ля цяпельца чужога, каласіцца туга на чужой араллі. 6. Не шукай сваіх сярод чужых, роднымі не зробяцца чужыя. 7. Песня вольная вольную мае душу, не пяецца ў няволі ніколі.

**111.** Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў сказах. Пабудуйце схемы сказаў, зрабіце сінтаксічны разбор складаных сказаў.

1. Ёсць куток на зямлі: дзень адзін пражывеш — назаўсёды цябе зачаруе (*М. Танк*). 2. Перад чалавекам да розуму тры шляхі: шлях роздуму — гэта самы высакародны; шлях пераймання — гэта самы лёгкі; шлях асабістага вопыту — самы цяжкі (*Канфуцый*). 3. Усё знікае, праходзіць, як дым, светлы ж след будзе вечна жывым (*М. Багдановіч*). 4. Ад прадзедаў спакон вякоў мне засталася спадчына; паміж сваіх і чужакоў яна мне ласкай матчынай (*Я. Купала*).

**112.** Вызначце структуру сказаў у тэкстах М. Танка. Растлумачце знакі прыпынку. Запішыце тэксты ў выглядзе графічных схем складанага сказа.

I.

Голас незнаёмага можа здзівіць,
Голас друга — на хвіліну спыніць,
Голас любай — сагрэць сонцам лета,
Голас маці — вярнуць з таго свету.

II.

Праўда бывае часцей непрыгожая,
Недагледжаная, бегае басанож,
Гэта толькі крыўда вяльможная
Блішчыць, як забойцы нож.

**113.** Абгрунтуйце пастаноўку знакаў прыпынку ў выказваннях Н. Мацяш. Выпішыце бяззлучнікавыя сказы. Зрабіце сінтаксічны разбор складанага бяззлучнікавага і складаназалежнага сказаў.

1. Зернейку трэба загінуць у чорнай раллі каб выжыць. 2. Узросту не мае гармонія не ведае межаў краса. 3. Жыццё заўжды — іспыт на мужнасць яе ж не возьмеш напракат. 4. Быць шыпшынаю шыпшыне пакуль зямлі трымаецца карэнне. 5. Знячэўку ўсхліпне вецер і заціхне утоіць жаль і свой і мой і ўсіхны схавае ў слотнай заўтрашняй струне.

**Працуем карэктарамі**

**114.** Паразважайце над сэнсам выказванняў Р. Барадуліна. Спішыце, паставіўшы знакі прыпынку, растлумачце іх.

1. Сумленне як ласку матчыну не купіш і ў складчыну. 2. Чалавек не памірае зямныя адбыўшы дні ён вяртаецца да цішыні. 3. І дзе б ні жыў душа вядзе туды дзе родныя нябёсы і клады. 4. Душа беларуса вечная каня якая адводзіць бяду ад гнязда. 5. І ў цямніцы ружа зацвітае толькі ўсмешка ўжо ў яе не тая. 6. Да слова бруд не прыстае бо слова незямнога кшталту. 7. Я да скону заручаны з той стараною дзе мама як зорка стаіць нада мною...

**Творчы практыкум**

**115.** Прачытайце выказванні А. Разанава, захоўваючы правільную інтанацыю. Выпішыце бяззлучнікавыя сказы, растлумачце знакі прыпынку. Падрыхтуйце невялікае паведамленне, узяўшы ў якасці загалоўка адно з прапанаваных выказванняў.

1. Кожны народ стварыў хоць бы адзін геніяльны твор, і твор гэты — мова. 2. Размова — мова думак, маўчанне — мова ісціны. 3. Ас-

нова мовы — маўчанне, гучанне — уток. 4. У кожным слове жыве дух усёй мовы. 5. Мора — возера, альбо нават мора, у якім плаваюць сэнсы. У тым ліку і неаб'яўленыя. 6. Паэтычная мова — мова разумення і паразумення: у ёй выказанае адным вымаўляецца другімі. Калі вымаўляецца.

**116.** Паразважайце пра вобраз Беларусі, створаны ў вершы Д. Бічэль. Вызначце структуру сказаў, запішыце верш у выглядзе графічных схем сказаў.

БЕЛАРУСЬ – ДЗЯЎЧЫНКА

Беларусь — ты дзяўчынка-падлетак,
вытры з вочак зялёныя слёзы
ды бяжы праз квяцісты палетак,
кліча Божа цябе на нябёсы.

Зачыні свае даўнія страхі,
хай халоднымі курчацца ў склепе.
Панясуць цябе вольныя птахі,
груганы цябе тут не зачэпяць.

Будзеш правіць сваёю зямелькай,
шанаваць цябе будуць сястрычкі.
Будзеш Богу святою нядзелькай
шнураваць на нагах чаравічкі.

**Рыхтуемся да дыктоўкі**

**117.** Прачытайце тэкст А. Скуратовіча, дапоўніце яго сваёй інфармацыяй пра верас (вусна). Спішыце тэкст, паставіўшы знакі прыпынку.

У сухім сасновым лесе амаль на кожным кроку можна сустрэць верас. Усю вясну і большую частку лета расце гэты невялікі кусцік сярод розных траў зусім непрыкметна і толькі ў другой палове жніўня пакрываюцца яго кусцікі дробненькімі, але вельмі прыгожымі ліловымі кветачкамі знешне падобнымі на маленькія званочкі. Нібыта звініць званок — заканчваецца лета, пара збірацца ў школу, на парозе верасень. Дарэчы і назву сваю гэты месяц атрымаў як ты правільна здагадваешся менавіта па назве верасу. Не толькі знешнім выглядам вабіць чалавека гэты кусцік. Ён вельмі добры меданос а верасовы мёд — цёмны цягучы духмяны і вельмі смачны.

**118.** Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў тэксце. Зрабіце поўны сінтаксічны разбор апошняга сказа.

Гэта нармальна, што ў мяне яно ёсць, было і будзе — адчуванне роднай зямлі, народа, мовы, — нягледзячы ні на што.

Я быў рады, знайшоўшы гэтую сцежку ў юнацтве, яна мяне вядзе і сёння, даволі часта грэючы, адаграваючы запаветным цяплом (*Я. Брыль*).

**Працуем перакладчыкамі**

**119.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Растлумачце, як вы разумееце апошнія радкі выказвання.

Человек растёт, конечно, как и всё в природе, костями, телом и в то же время, как бы отступая от жизни роста, спрашивает постоянно сам себя: «Ну, что же это со мной произошло?» И, осмыслив происшедшее, надбавляет к жизни роста своего рост мысли: мыслью растёт. Но и этот рост ещё не совсем человеческий: щенок тоже растёт, расширяя рост своего собачьего сознания.

Человек собственно начинается там, где в природе останавливается жизнь роста: тут начинается рост духовный, чисто человеческий, и продолжает у достойных расти до последней минуты. И в духе этого человека растут люди после него (*М. Пришвин*).

## Двукроп'е ў бяззлучнікавым складаным сказе

**Паўтараем**

**120.** Падрыхтуйце на аснове схем паведамленне «Двукроп'е ў бяззлучнікавым складаным сказе». Праілюструйце адказ прыкладамі з прапанаваных выказванняў. Прыдумайце сказы-ілюстрацыі, якіх тут не хапае. Які сказ «лішні»?

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | [ ] | *а іменна*<br>: | [раскрывае, паясняе, дапаўняе змест першай] |
| 2 | [ ] | *і ўбачыў, што; і адчуў, што; і падумаў, што*<br>: | [дапаўняе змест першай] |
| 3 | [ ] | *што*<br>: | [дапаўняе першую, у якой выказнік выражаны дзеясловамі *заўважыў, пачуў, адчуў, зразумеў, успомніў* і інш.] |

| 4 | [ ] | *бо, таму што*<br>: | [прычына] |
|---|---|---|---|
| 5 | [ ] | : | [прамое пытанне] |

1. І хоць у кожнага творцы ёсць свае папярэднікі, свае Вергілііі, заўсёды, самы першы і самы відушчы папярэднік — сама творчасць (*А. Разанаў*).

2. Такому краю — век стаяць: ён так трывала скроены (*М. Рудкоўскі*).

3. Паэзія, умоўна кажучы, пачынаецца на ўзроўні гіпотэзы: паэты заўсёды дарэшты не даказаныя, недаказальныя (*А. Разанаў*).

4. Марыў калісьці славуты Скарына, «цiснучы» кнігі на мове бацькоў: простаму люду ў роднай краіне зробіць даступнай ён мудрасць вякоў (*Н. Гілевіч*).

**121.** Прачытайце выслоўі Я. Янішчыц, захоўваючы адпаведную інтанацыю. Успомніце правілы пастаноўкі двукроп'я паміж часткамі бяззлучнікавага сказа. Паразважайце над сэнсам выслоўяў.

1. Паэзія — агонь і лёд: сто раз згараць і ўздымацца. 2. Не заграбайце жар чужой рукою: застацца можа іскра для пажару. 3. Чорны воран над белаю ружай: о, які фантастычны кантраст!

**122.** Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў вершаваных радках Н. Мацяш. Зрабіце сінтаксічны разбор бяззлучнікавага сказа.

1. Душа, як зорачка вячэрняя, усходзіць радасці настрэчу. 2. Як ні рыхтуй сябе загодзь — ніхто не можа да самоты быць гатовы. 3. Пяе крынічка, ды не дападае да мітуслівых спеўная вада. 4. Я знаю, мець сяброў адданых проста: умеў бы толькі сам быць шчодрым ты.

### Пунктуацыйны трэнінг

**123.** Вызначце структуру сказаў, іх тып. Запішыце, пастаўце знакі прыпынку. Пабудуйце схемы сказаў. Зрабіце поўны сінтаксічны разбор бяззлучнікавага сказа.

1. Бясконцае мноства разоў вясло спрабуе ўсяліцца ў падводную святліцу і гэтулькі ж разоў высяляецца адтуль яно пасол чоўна і чуйна слухаецца яго загадаў (*А. Разанаў*). 2. Вось апошні раз мільганула праз дрэвы хатка вось схаваўся за ўзгоркам былы фальварак але доўга яшчэ з цягніка відаць сосны што акружаюць Вязынку (*У. Караткевіч*). 3. Белавежская пушча і Браслаўскія азёры Палессе і Свіцязь Налібокі і На-

рач Бярэзінскі запаведнік і маленькая рэчка Проня усё гэта наш родны край наша спадчына якая аднойчы і назаўсёды даецца кожнаму чалавеку разам з жыццём (*Я. Сіпакоў*). 4. Той краёчак далягляду і дагэтуль прад вачыма дзве ляцелі аблачыны па краёчку далягляду (*Н. Мацяш*).

**124.** Акрэсліце асаблівасці сінтаксічнай арганізацыі верша М. Танка. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

ТВОЙ ЦЕНЬ

Я пытаўся ў сустрэчных:
Можа, яны цябе бачылі?
Пытаўся ў дрэў:
Можа, віталася з імі?
Пытаўся ў прыдарожных валуноў:
Можа, адпачывала ля іх?
Пытаўся ў крыніц:
Можа, прыхарошвалася
Ў іх люстры
Ці чэрпала прыгаршчамі з іх
Весні звон? Ды ніхто мне нічога
Не змог адказаць.
Але скуль жа тады
Дотык ценю твайго?
Значыць, недзе ты блізка прайшла
Паміж маім быццём і небыццём,
Паміж мінулым і будучым,
Паміж сумам і радасцю,
Паміж маім сэрцам
І сонцам.

**Творчы практыкум**

**125.** Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў сказах. Вызначце тыпы сказаў, пабудуйце іх схемы. Паразважайце над сэнсам выказванняў.

1. Ты толькі раз з дарогі збоч паселіцца ў сэрцы ноч. Ад праўды раз адкруцішся няпраўдаю атруцішся (*П. Панчанка*). 2. Зялёны сад ён стане жоўтым заўтра але нальецца тайнай сілай плод (*Я. Янішчыц*). 3. Бываюць мясціны да якіх прывыкаеш за кароткія хвіліны так што не хочацца расставацца і калі пакідаеш іх здаецца што пакінуў там частку самога сябе (*У. Караткевіч*). 4. Камень камель часу усё іншае ў параўнанні з ім зменлівае і нетрывалае (*А. Разанаў*). 5. Любоў глядзіць праз

тэлескоп зайздрасць праз мікраскоп (*Б. Шоу*). 6. Зграбае лісце ў скверыку юнак дзяўчаты грады кветак парадкуюць рабінавыя гронкі правакуюць пакаштаваць спякоту іх на смак (*Н. Мацяш*).

**126.** Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў сказах. Пабудуйце схемы сказаў. Якія тыпы складаных сказаў тут адсутнічаюць? Праілюструйце сваімі прыкладамі.

1. Дотык да роднае зямлі патрэбны не толькі чалавеку, расліне, усяму жывому, але і гуку, фарбе, слову (*Р. Барадулін*). 2. Пакуль не мірыцца душа з асыцеласцю і прыніжэннем — чалавек не знае паражэння (*Н. Мацяш*). 3. Мы ўжо не просім міласці ў прыроды — прырода просіць літасці ў нас (*С. Грахоўскі*). 4. Мастацтва — гаючы дождж грамадства, якое без яго крытычнага ўздзеяння непазбежна пакрываецца цвіллю і загнівае (*В. Быкаў*). 5. Болем на свет прыходзіць жыццё, болем яно адкупляецца (*Л. Геніюш*).

### Працуем перакладчыкамі

**127.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Перакажыце і прадоўжыце яго інфармацыяй пра ўзнікненне беларускага пісьма, беларускай графікі.

На свете много систем письма. Одни пишут слева направо, другие справа налево. Не знаю, сохранился ли где способ, известный нам по памятникам древней Греции: письмо «бустрофедон», то есть в порядке, в каком движутся волы, вспахивая поле, — конец строчки служит началом следующей. Где-то ещё пишут сверху вниз, но как будто бы нигде — снизу вверх. Арабское письмо напоминает рассыпанный размельчённый табак, в индийское вступаешь, как в гущу тоненьких веточек, китайское легко принять за орнамент, рождённый прихотливой фантазией художника. Польская письменность происходит от греческой, возникшей из финикийских знаков, но только римляне придали ей чёткую и простую форму (*Я. Парандовский*).

**128.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову, запішыце, захоўваючы нормы беларускай літаратурнай мовы.

Чувство природы есть чувство жизни личной, отражаемое в природе: природа — это я. Труднее всего говорить о себе, оттого так и трудно говорить о природе, если найдёшь и поймёшь себя самого как нечто небывалое (*М. Пришвин*).

## Працяжнік у бяззлучнікавым складаным сказе

**Паўтараем**

**129.** Падрыхтуйце паведамленне «Працяжнік у бяззлучнікавым складаным сказе» на аснове схемы. Падбярыце адпаведныя ілюстрацыі з прыведзеных сказаў.

| 1 | [ ] — [ ]. | супрацьпастаўленне |
|---|---|---|
| 2 | [ ] — [ ]. | хуткая змена падзей |
| 3 | [ ] — [ ]. | вынік |
| 4 | [час] — [ ]. | |
| 5 | [умова] — [ ]. | |
| 6 | [ ] — [ ]. | параўнанне |

1. Сноп апошні залатога жыта застаецца ў памяці палос... Гэтак і цябе не скосіць лёс — мною ты не можаш быць забыта (*А. Куляшоў*).
2. Спакойна ў свеце — на душы спакой (*М. Рудкоўскі*).
3. Ёсць куток на зямлі: дзень адзін пражывеш — назаўсёды цябе зачаруе (*М. Танк*).
4. Прыйшоў Пятрок — апаў лісток, прыйшоў Ілля — апала два, прыйшла Прачыстая — увесь лес ачысціла (*Прыказка*).
5. Хтось палюе на сініцу — нехта ловіць жураўля (*Г. Бураўкін*).

**130.** Прачытайце ўрыўкі з твораў М. Танка, захоўваючы правільную інтанацыю. Выпішыце бяззлучнікавыя складаныя сказы, растлумачце знакі прыпынку.

1. Амаль над самаю зямлёй плыве ключ жураўліны. Зіма, відаць, не за гарой — гараць агнём рабіны.
2. Айсбергі — гэта алмазы Палярнага ззяння, сны, што пад сіверам сняцца грэнландскім кітам. Айсбергі — гэта застылыя горы маўчання, помнікі шхунам разбітым і іх маракам.
3. Можа, і ўсе колеры ўжо адкрыты — мне засталіся яшчэ спалучэнні. Можа, і ўсе людзі маюць імёны — толькі памылкі яшчэ трэба выправіць.

**Творчы практыкум**

**131.** Прачытайце выслоўі Р. Барадуліна. Вызначце тып сказаў, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Пераатварыце бяззлучнікавыя сказы

ў складаныя. Паразважайце, ці залежыць сэнсава-эмацыянальнае напаўненне выказвання ад змены структуры сказа.

1. Маці не стала — сонца зайшло. 2. А багатая душа маладая, бо старэць ёй няма калі. А багатая душа галадае — не пякуць ёй хлеб на зямлі. 3. Свабодны толькі дух — душа не мае волі.

**132.** Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў сказе. Паразважайце, ці магчымы варыянтныя знакі прыпынку паміж часткамі сказа. Спішыце, зрабіце сінтаксічны разбор сказа.

Гэта невынішчальная асаблівасць беларусаў і выхадцаў з Беларусі — за межамі краю, на чужыне пачынаюць любіць, паважаць, помніць усё беларускае (*Р. Барадулін*).

**133.** Выпішыце бяззлучнікавыя складаныя сказы, растлумачце знакі прыпынку. Падрыхтуйце паведамленне, узяўшы ў якасці загалоўка адно з прапанаваных выказванняў.

1. Ды калі ты не бязродны сын — гавары са мной па-беларуску (*Я. Янішчыц*). 2. Што чакае за крутой гарой — выявіцца толькі на вяршыні (*Н. Мацяш*). 3. Няма народаў малых, бываюць малыя паэты (*Р. Барадулін*). 4. Род немагчыма вынішчыць дазвання, што мову продкаў здолеў захаваць (*Э. Акулін*). 5. Шукаць дарэмна броду — лепш ракою ў незнаёмым месцы плыць без жаху (*Я. Янішчыц*).

**Лінгвістычны эксперымент**

**134.** Вызначце тып сказаў, абгрунтуйце пастаноўку знакаў прыпынку. Ператварыце бяззлучнікавыя сказы ў злучнікавыя. Паразважайце, з якой мэтай выкарыстоўваюцца ў маўленні сінанімічныя канструкцыі.

1. Дождж рэдка бывае — у вуллі мёд прыбывае. 2. Прыляцелі снегіры — будзе снежна на двары. 3. Прыйшоў першы Спас — пайшло лета ад нас, трэці Спас — бяры рукавіцы ў запас.

**Рыхтуемся да дыктоўкі**

**135.** Спішыце, расстаўляючы знакі прыпынку, растлумачце іх. Зрабіце поўны сінтаксічны разбор сказа.

Той дзень лічы завянуў пустацветам
Калі ты пяць хвілін пашкадаваў
Каб дзецям паказаць куточак свету
І хараство людзей і дрэў і траў (*П. Панчанка*).

**136.** Растлумачце правапіс прапушчаных літар. Спішыце, паставіўшы неабходныя знакі прыпынку.

Амаль кожны ведае надзвычай прыгожыя і пя..чотныя кветкі ландыша майскага. Многія ставяць букецік ландышаў ля ло..ка а потым раніцай прачынаюцца і пачынаюць: «Штос..ці галава баліць, не спалася». Потым лечацца п..юць розныя таблеткі іншыя лекі. А на самай справе трэба было толькі перанесці букецік з любімымі ландышамі ў іншы пакой, як мага далей ад спальні.

Асабліва атрутнымі з'яўляюцца ягады ландыша якія нібы невялічкія сонечныя кругленькія цукерачкі вісяць гронкамі між буйнога лісця. Але гора таму хто імі паласуецца. Таму лепш абысці іх ці палюбавацца імі здалёк. У той жа час ландыш вельмі карысная лекавая расліна. А з яго духмяных кветак вырабляюць цудоўную парфуму. Ландышы часта сустракаюцца і на нашых сядзібах (*А. Скуратовіч*).

### Працуем перакладчыкамі

**137.** Перакладзіце тэксты на беларускую мову, запішыце, захоўваючы нормы беларускай літаратурнай мовы.

I. Чудесно наше искусство слова, и нет ничего, по-моему, прекраснее, как работать в лесу, где-нибудь сидя на пне. Теперь у меня в лесу уже многие пни насижены, и собака моя Жулька, добежав впереди меня до знакомого пня, останавливается и ждёт, и я её понимаю: «Дальше пойдём, — спрашивает она меня, — или будем писать?»

— Будем писать! — сказал я в этот раз. И устроился (*М. Пришвин*).

II. Литературный язык не должен быть ни мёртвым, ни архаическим, ни искусственным, как язык Гомера, и тем не менее он резко отличается от языка разговорного. Не только орфография, пунктуация, но и сам синтаксис, употребление определённых наклонений, падежей, времён, порядка слов — вся освящённая система слова писаного отличает его от слова произносимого, потому что у последнего нет времени на исправление неточностей и ошибок. Какая огромная разница между фразой в разговоре и отрывком из диалога пусть даже самого реалистического романа! Кроме того, язык литературный един, язык разговорный разнороден (*Я. Парандовский*).

III. Дневник писателя я понимаю как источник, вытекающий из самой души человека.

Я пишу для тех, кто чувствует поэзию пролетающих мгновений повседневной жизни и страдает, что сам не в силах схватить их (*М. Пришвин*).

**138.** Вызначце структуру сказаў, сэнсавыя адносіны паміж часткамі складаных сказаў. Запішыце, расстаўляючы знакі прыпынку, растлумачце іх.

1. Агонь ганец новага часу новага сягоння ён гоіць жыццё ад багны і ганьбы (*А. Разанаў*). 2. Лечыцца трава ад спёкі ліўнем людзі ласкай лечацца людской (*П. Панчанка*). 3. Слоў і клятваў не трэба лішніх шлях да волі навек абраны (*А. Сыс*). 4. Шануем мы бацькоў імёны навука й прыклад нам яны (*У. Жылка*).

**139.** Прачытайце ўрыўкі з твораў Д. Бічэль. Вызначце структуру сказаў, іх тып. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку, запішыце складаныя сказы, пабудуйце іх схемы.

1. Я адаб'юся ў крыніцы — крыніца пяе. Людзі паўсюль чужаніцы, азёры свае. 2. Дзве баразёнкі ў лес — нехта праз лес паехаў. 3. У Сафійцы граюць арганы, слухае край курганны. Рвецца музыка ў неба з акоў — з высокіх святых муроў. 4. Лятуць з нябёсаў зорачкі-знічкі, спаткі кладуцца ў стог. Пайду на луг пазбіраць медунічкі — іх жа пасеяў Бог. Збіраю гэтыя Божыя слёзкі, шнурочкам вяжу ў снапок. І хай кладуцца дні, як пялёсткі, у нагрэты зоркамі стог.

**140.** Акрэсліце стылістычную функцыю складаных сказаў, абгрунтуйце пастаноўку знакаў прыпынку.

Была раніца, і выгоністыя спакойныя хвоі з грабняком ды арэшнікам уперамешку, што шчыльнай сцяной падступалі з аднаго боку стаянкі, і раскідзістыя харашуны-дубы, якія, невядома адкуль прыблытаўшыся сюды, на святло, разышліся хто куды па паляне, ужо скінулі з сябе цёмную посцілку ночы і нерухома, нібыта яшчэ ў сне, стаялі, адкрытыя воку, у рэдзенькім сяйве туману, нікуды не спяшаючыся, нікуды, апрача неба, не імкнучыся: тут жа даўно і назаўсёды знайшлі яны сабе на зямлі месца, даўно абжылі гэты куток.

З-за шырокіх камлёў застылых у сваёй нерухомасці дубоў, з-за іх навіслага над зямлёй вецця адразу ж заяснела перад намі шырокая, як акінуць вокам, пространь святла, што зусім невядома дзе злівалася з небам. Свіцязь!

Зялёным грудом, густа ўсыпаным яшчэ не пабурэлымі жалудамі, прайшлі пад шатамі дубоў да берага. Туман ужо развеяўся, і возера ляжала перад намі ва ўсёй сваёй красе. Чыстае, празрыстае (*К. Цвірка*).

**Слова пра словы**

**141.** Вызначце стыль тэксту, абгрунтуйце сваю думку. Прадоўжыце тэкст інфармацыяй пра ўжыванне кропкі з коскай у сучаснай беларускай мове.

КРОПКА З КОСКАЙ

Кропка з коскай фіксуецца ў славянскіх пісьмовых тэкстах прыкладна з XV стагоддзя. Знешні выгляд і месцазнаходжанне ў радку гэтага знака вызначыліся адразу і захаваліся да сёння, а вось функцыянальныя характарыстыкі з часам кардынальна змяніліся.

Першапачаткова кропка з коскай служыла для абазначэння пытальнага зместу сказа. Пра гэта сведчаць самі старажытныя тэксты, а таксама звесткі са старажытных граматык (*І. Гапоненка*).

**Творчы практыкум**

**142.** Акрэсліце асаблівасці сінтаксічнай арганізацыі твора, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Як вы разумееце заключныя радкі?

Парог, вычасаны з успамінаў,
Астаўся за мной;
Дзверы, на завесах цвыркуновай песні,
Асталіся за мной;
Вокны, зашклёныя вачамі блізкіх,
Асталіся за мной;
Хата, пакрытая крыламі ластавак,
Асталася за мной, —
Як жа мне не азірнуцца назад,
Нават калі б я застыў
Слупом солі? (*М. Танк*).

**Працуем карэктарамі**

**143.** Прачытайце верш М. Рудкоўскага. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Запішыце тэкст у выглядзе графічных схем сказаў. Зрабіце сінтаксічны аналіз бяззлучнікавага складанага сказа.

Глядзеў дзівіўся
у стыні белай,
На снезе лёгкія
як пух гусіны
Кракосу кветкі
цвілі-гарэлі

Бы жар барвовы
з адлівам сінім.
Было хоць сэрца кладзі
на плаху
Цюльпаны ведаю
астры мімозы...
Чаму ж, чаму ж я
не знаю паху
Гарачай, роднай
травы — кракосу
Якой матуля
у партызанах
На целе бацькі
гаіла раны?..

**Правяраем сябе**

**144.** Выканайце заданні.

**1)** Вызначце складаныя сказы.

1. Слова — усяго аснова, душа крылатая ў слова (*Р. Барадулін*). 2. У акіяне слова — ані мяжы, ні донца, ёсць там адна аснова: праца і праца бясконца! (*В. Жуковіч*). 3. Не срэбра шчырае, шчырае слова — галоўны скарб наш у свеце часовым (*Р. Барадулін*). 4. І толькі слова, толькі песні жывучыя, як мой народ (*С. Законнікаў*). 5. Не пратоптанай вузкай сцяжынкай пайсці, а ляцець, куды думкі заносяць (*Л. Геніюш*).

**2)** Вызначце складаныя бяззлучнікавыя сказы, у якіх ставіцца працяжнік.

1. Здзейсненыя справы
Зоры залатыя
Сяброў нашых сэрцы
Промні залатыя.
А матчына сэрца
Маё цяпельца (*Н. Загорская*).

2. Памылкі прыводзяць цябе ў адчай чужога выхаду не пазычай (*Д. Бічэль*). 3. Жыццё зямное рэпетыцыя таго, магчымага жыцця (*Р. Барадулін*). 4. Кіне доля вам сваю пальчатку вы прыміце грозны выклік той (*Н. Мацяш*).

**3)** Вызначце складаныя бяззлучнікавыя сказы, у якіх ставіцца двукроп'е.

1. Помніце й найслотнаю парой ваша доля толькі ў вас ва ўладзе (*Н. Мацяш*). 2. Як ні рыхтуй сябе загодзь ніхто не можа да самоты быць гатовы (*Н. Мацяш*). 3. У час прагулянкі адно зразумей прырода не мае і вольнай хвіліны (*Р. Барадулін*). 4. Адно спрадвеку ведама паток, народжаны гарою, крышыць горы (*Н. Мацяш*). 5. У іх няма пачатку і канца яны без межаў — акіян і неба (*М. Рудкоўскі*).

**4)** Вызначце адпаведнасць паміж схемамі і сказамі.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | [ ] | , адносіны адначасовасці | [ ]. |
| 2 | [ ] | — умоўна-выніковыя | [ ]. |
| 3 | [ ] | — умоўна-часавыя | [ ]. |
| 4 | [ ] | — супастаўляльныя ці параўнальныя | [ ]. |
| 5 | [ ] | : прычынна-выніковыя | [ ]. |

1. Жыццё закон нязломны мае: ніколі праўда не ўмірае (*У. Дубоўка*).
2. Праходзіць ноч кароткая, весняя, цвет вішнёвы асыпаецца на зямлю (*М. Рудкоўскі*).
3. Мамы не стала — не стала радзімы (*Р. Барадулін*).
4. Быць добрым зусім не цяжка — цяжка быць справядлівым (*В. Гюго*).

**Пішам дыктоўку**

**145.** Запішыце тэкст, паставіўшы патрэбныя знакі прыпынку.

Калі я са свайго акна гляджу на скрыжаванне вуліц з яго тралейбусна-аўтобуснымі прыпынкамі з камяніцамі дамоў з ларкамі і кіёскамі то заўсёды бачу плынь людзей якая толькі выйшла з тралейбусаў і аўтобусаў і рухаецца некуды за дом аплываючы яго з абодвух бакоў. Да прыпынку падыходзяць усё новыя і новыя машыны і плынь гэта выпрадваецца як нітка з кудзелі доўжыцца ператвараючыся ў няспыннае рэчышча.

Аднаго разу мне падалося што і аўтобусы і тралейбусы і камяніцы дамоў і ларкі і кіёскі ўсё быццам крыгі на шырокай паводцы зрушылася і паплыло з людской плынню ў канец вуліцы дзе тапаліныя прысады і вялікае сонца. Людзі ідуць, спяшаюцца каб не астацца ў цемені каб быць заўсёды пад сонцам. Зямля ж шар, і людзі не мухі, дагары нагамі

хадзіць не ўмеюць. Чалавецтва колькі жыве то ўсё рухаецца туды за тапаліныя прысады на вялікае сонца (*М. Лобан*).

**Працуем перакладчыкамі**

**146.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Запішыце, захоўваючы нормы беларускай літаратурнай мовы. Паразважайце на тэмы: «Пісьменнік і музыка», «Слова і музыка», «Беларускія нацыянальныя інструменты», «Я люблю іграць...», «Я люблю слухаць музыку».

АЛХИМИЯ СЛОВА

Музыкальные инструменты в рабочих комнатах писателей не редкость. У Шопенгауэра висела флейта, подаренная Россини, и философ ежедневно на ней музицировал. У Ромена Роллана стоял рояль, и писатель часто выходил из-за письменного стола и садился за него. Точно так же рояль соседствует с письменным столом Ивашкевича, для которого музыка имеет то же значение, что и литература. Минуты, отданные музыке, снимают напряжение мысли, заглушают шум слов, если между ними не наступило согласие в мозгу или на бумаге. Мелодия может подсказать тон, создать настроение, соответствующее тому, вокруг которого беспомощно кружатся бессвязные фразы, может даже вызвать творческий подъём, как это нам известно из импровизаций Мицкевича. «Работая над трагедией (об Уоллесе), — пишет Словацкий матери, — я часто встаю от стола, подхожу к фортепьяно и играю тот самый вальс, чтобы воспоминания наполнили мои страницы печалью...» (*Я. Парандовский*).

**Правяраем сябе**

1. У чым асаблівасць бяззлучнікавых складаных сказаў?

2. Раскажыце пра пастаноўку двукроп'я ў бяззлучнікавых складаных сказах.

3. Акрэсліце сэнсавыя адносіны паміж часткамі бяззлучнікавага складанага сказа, якія абумоўліваюць пастаноўку працяжніка.

# Выкарыстанне бяззлучнікавых складаных сказаў у тэкстах розных тыпаў, стыляў і жанраў

**Пунктуацыйны трэнінг**

**147.** Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў сказах. Вызначце тып сказаў, пабудуйце іх схемы. Зрабіце поўны сінтаксічны разбор бяззлучнікавага сказа.

1. Зжылася з зямлёю ў дрэвы ўрасла перапляталася з травою і кветкамі родная мова старога сяла ад іншых сваёй цеплынёю адметная (*Л. Геніюш*). 2. Той абруч якім сашчапілі дрэва што раскалолася ад цяжару ўраджаю ўвайшоў у сярэдзіну дрэва карой зацягнууўся стаў дрэвам самім (*А. Разанаў*). 3. Рэчка — рух, возера — спакой, рэчка — у спрэчцы, возера — у роздуме, рэчка няўрымслівая, як рысак, возера ўстойлівае, як воз, рэчка — у сустрэчах і расставаннях, возера — у сябе дома (*А. Разанаў*).

**148.** Вызначце асаблівасці сінтаксічнай арганізацыі твора. Паразважайце пра аўтарскія знакі прыпынку. Чым, на вашу думку, абумоўлена такая пастаноўка знакаў прыпынку?

У тваіх валасах
Сны начуюць мае неспакойныя,
У тваіх вачах
Загараюцца ўсе мае золакі,
У тваіх вуснах грэюцца
Усе мае ўсмешкі,
У далонях тваіх рук
Збягаюцца ўсе мае сцежкі.
Як, пасля бунтаў
І рэвалюцыяў столькіх,
Захавала ты адзінаўладства? (*М. Танк*).

**Творчы практыкум**

**149.** Вызначце тып сказаў.Ператварыце тэкст у адзін сказ. Паразважайце, што змянілася ў выказванні. Чаму, на вашу думку, аўтар выкарыстаў такую структуру тэксту?

Гляджу я на карціну мастака:
Вясёлы ранак. Сонца над дубровай.

Пад вербамі — спакойная рака,
Спакойныя на беразе каровы (*М. Рудкоўскі*).

**150.** Прачытайце мініяцюру Я. Брыля. Акрэсліце асаблівасці сінтаксічнай арганізацыі тэксту. Паразважайце пра магчымыя варыянтныя знакі прыпынку. Ці змяняецца сэнсава-эмацыянальнае напаўненне выказвання ад іх пастаноўкі?

Каля бярозак трохі верасу. Расцвіў у сонцы.

Зірнуў угару. Багатая лістота і пярэстыя ствалы пошумам ціха пяюць у блакіт.

Краса прыроды кліча да чысціні душы.

Гэта не думка, а такое адчуванне.

**151.** Акрэсліце асаблівасці сінтаксічнай структуры тэксту. Паразважайце пра варыянтныя знакі прыпынку. Чым абумоўлены, на вашу думку, выбар аўтара? Падрыхтуйце невялікае выказванне на тэму «Маўчанне — золата?».

Маўчанне
Ніколі не было
І не будзе золатам:
Яно — або
У шмат разоў даражэйшае,
Або — нічога не вартае (*М. Танк*).

**Слова пра словы**

**152.** Вызначце сінтаксічную арганізацыю тэкстаў. Падрыхтуйце невялікае паведамленне на адну з тэм: «Мова і народ», «Мова і культура», «Чалавек і слова», «Маміна слова», «Пісьменнікі пра роднае слова».

I. Роднае Слова! Ты найвялікшае з вялікіх тварэнняў, ты сам народ, яго гісторыя, працоўная і духоўная біяграфія, ты спляценне яго дум, імкненняў і спадзяванняў. Гэта ты абвясціла ўсёй планеце, усяму свету жывых істот: я — Чалавек! І з гэтае пары ты поплеч з ім ва ўсіх яго і радасцях і нягодах. Ты яго і хлеб надзённы і калыскі тайна (*Паводле М. Лобана*).

II. ПЯЦЬ УЗРОСТАЎ ЧАЛАВЕКА

*Маленства, малалецтва, юнацтва, сталасць і старасць.*

*Маленства* адкрывае для сябе казачнасць, дзівоснасць свету, *малалецтва* пачынае спазнаваць яго, *юнацтва* ўпіваецца яго асалодамі, *сталасць* спрабуе перарабляць яго, *старасць*, прыстасоўваючыся да яго, усё абдумвае нанова (*В. Вітка*).

## Працуем перакладчыкамі

**153.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Звярніце ўвагу на пераклад дзеепрыметнікаў. Падрыхтуйце аргументы, каб пацвердзіць ці аспрэчыць думку аўтара.

Для литературного языка необходимо, чтобы писатели работали над «освежением» слов, находящихся во всеобщем употреблении. Самые обыкновенные, самые знакомые слова, как лица, которые видишь каждый день, внезапно открывают новое, неожиданное значение и ослепляют блеском затаённой в нём жизни. Из глубоких пластов выбивается на поверхность то, чего языку до сих пор не удавалось выразить. Как это происходит, может показать анализ хорошего стихотворения или страницы хорошей прозы. Под пером писателя назначают друг другу свидания слова, дотоле никогда между собой не встречавшиеся, глаголы начинают обслуживать им до той поры неизвестные действия, расширяют свои владения существительные. Тем временем в обиходном языке, в плохой литературе, в дешёвой публицистике слова скучают и мучаются всё в одних и тех же постоянно повторяемых сочетаниях. Всё те же прилагательные тянутся, как тени, за своим привычным существительным (*Я. Парандовский*).

## Творчы практыкум

**154.** Вызначце асаблівасці арганізацыі твора. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Запішыце тэкст у выглядзе графічных схем сказаў. Падрыхтуйце выказванне-разважанне на адну з тэм: «Неба і зямля», «Зямлі — зелянець», «Космас — гэта…»

### КАСМАЛОГІЯ

Зямля трымаецца на трох сланах,
Сланы на велізарнай чарапасе,
Чарапаха — на голубе,
Голуб — на хлебным коласе,
Колас — на калысцы,
А калыска — на песні матчынай...
І пакуль песня будзе гучаць,
Калыска будзе калыхацца,
Зерне — прарастаць,
Голуб — віць гняздо пад страхой,
Чарапаха — ісці Млечным Шляхам,
Сланы — пераступаць з нагі на нагу, —

Зямля будзе век
Зелянець, зелянець, зелянець... (*М. Танк*).

## Злучаем і падпарадкоўваем: складаны сказ з рознымі відамі сувязі частак

### Паўтараем, параўноўваем

**155.** Растлумачце гаваркі тэрмін «віды злучнікавай сувязі». Праілюструйце адказ прапанаванымі прыкладамі. Абгрунтуйце свой выбар. Які сказ «лішні»?

1. Даецца жыццё нам, каб радасць з адчаем вучыліся мы прымірацць (*Н. Мацяш*). 2. Жыццё зямное — непаўторны дар, дзе кожны дзень — і творчасць, і натхненне (*А. Звонак*). 3. Мінулае жыве, яно за намі назірае (*А. Разанаў*). 4. Пра маладосць пяюць бярозы, а пра вечнасць — хмурыя дубы (*А. Бачыла*). 5. Тых, хто носіць небасхіл у сэрцы, нельга ні ўджаліць, ні забіць (*У. Караткевіч*).

**156.** Прааналізуйце будову сказаў: колькі частак у сказе, як яны звязаны — злучальнымі злучнікамі, падпарадкавальнымі злучнікамі ці злучальнымі словамі або без злучнікаў? Вызначце сэнсава-граматычныя часткі. Пастаўце неабходныя знакі прыпынку.

1. Я знаю свет багаты на любоў бо толькі ў разлюбленых нянавісць (*Я. Янішчыц*). 2. Не змізарнець бы на вяку, не зблоцілася б глеба тая дзе і крынічка б'е пакуль рака плыве і не сплывае (*Н. Мацяш*). 3. Ісці мне светла да сябе ў сяло пакуль шчэ не згубілася ў тумане далёкай зоркі дрогкае святло, далёкай песні сумнае гучанне (*В. Шніп*). 4. Ён любіў адзіноту і ад яе пакутаваў. Як жывапісец і паляўнічы ведаў што на адзіноце з прыродай у прыродзе калі яе не парушае нічыя выпадковая прысутнасць у цішыні нараджаюцца самыя мудрыя глыбокія прыгожыя думкі пачуцці словы гукі колеры (*В. Карамазаў*).

### Пунктуацыйны трэнінг

**157.** Спішыце выказванні Н. Мацяш, расстаўляючы знакі прыпынку, растлумачце іх, вызначыўшы сэнсавыя адносіны паміж часткамі складаных сказаў. Назавіце сказы з рознымі відамі сувязі частак. Пабудуйце іх схемы.

1. А непадсудны хіба толькі робат яму нішто людское не баліць. 2. Каб змрок не пасіліў да рук нас прыбраць паглядвайма ў неба пры

кожнай нагодзе нам зоры сусвету штоночы гараць нам сонца сусвету шторанку ўзыходзіць. 3. Люблю непаўторны свой род і яго анідзе не зракуся. 4. Песня помніць адступіся яна ад людскоe душы і ўжо не ўберагчы анічым чалавека. 5. Як ні рыхтуй сябе загодзь ніхто не можа да самоты быць гатовы.

**158.** Вызначце сэнсава-структурныя часткі сказаў, віды сувязі частак у складаных сказах. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку, знайдзіце адпаведнасць паміж схемамі і сказамі.

1. Падчас і па чужых краях журуся а хопіць і куточка Беларусі каб цэлы век свой да яе ісці (*Н. Мацяш*).

2. Нас б’е па сэрцах паскарэнне сціскаюцца прастора час а матчынай зямлі карэнне ніколі не адпусціць нас (*П. Панчанка*).

3. Час робіць вялікім што некалі здавалася не вартым увагі але той жа час нярэдка робіць звычайным будзённым і непрыкметным тое што яшчэ зусім нядаўна лічылася вялікім і было ва ўсіх навідавоку (*Я. Сіпакоў*).

а) [[ ], [ ]], а [ ].

б) [ ], а [[ ], (каб...)].

в) [[ ], (што...)], але [[ ], (што...)].

**159.** Спішыце, расстаўляючы знакі прыпынку. Вызначце тып сказаў, пабудуйце іх схемы.

1. Ты пачынаешся тады калі застаешся адзін калі ніхто і нішто не памагае табе быць добрым ці дрэнным калі ты робіш выбар сам (*Я. Брыль*). 2. Калі прыходжу на раздарожжа і чытаю на камені надпісы-перасцярогі разумею што чалавеку нічога не застанецца як зрэшты выбраць тую дарогу якая спакон веку чакае дарогу ўгору (*А. Разанаў*). 3. Я слухаю начную цішыню чуваць як б’ецца сэрца птушаняці і матылёк да зыркага агню ляціць кругамі як на свяце (*С. Грахоўскі*). 4. Маланкі любяць дубы і амаль ніколі не чапаюць бярозу такая яна плакучая і ніцая (*У. Караткевіч*).

**160.** Запішыце сказы з рознымі відамі сувязі: 1) з бяззлучнікавай і падпарадкавальнай; 2) з бяззлучнікавай і злучальнай; 3) з бяззлучнікавай, злучальнай і падпарадкавальнай. Пастаўце неабходныя знакі прыпынку. Пабудуйце схемы сказаў.

1. Многа пабачыў я за вайну многае адазвалася болем у сэрцы але тое што апякло мяне ў тыя дні калі зноў убачыўся са спаленай пачарне-

лай радзімай сваёй не параўнаць ні з чым (*І. Мележ*). 2. Творчасць — індыкатар, своеасаблівы дарожны знак: кожны раз яна паказвае табе самому дзе ты цяпер і які ты цяпер (*А. Разанаў*). 3. Сляпы Гамер быў і глухі — Бетховен, відушчы, чуйны, кожны б з нас хацеў свой зоркі зрок, свой тонкі слых настроіць па іхняй слепаце і глухаце (*М. Рудкоўскі*). 4. Няма гордасці за сябе ёсць гордасць за другіх каб гледзячы на іх ніколі не таіцца жыць (*С. Законнікаў*). 5. Гады маюць адну асаблівасць яны па-свойму прыпыняюць бег часу ствараюць уяўнасць што нічога за доўгую ростань не змянілася (*Р. Барадулін*). 6. Сінелі ўдалечы горы ўрачыста высіліся лясы і ззяла на небе не сонца а само неба нібы блакітная лінза свяцілася мяккай, лагоднай, прыязнаю светлынёй (*А. Разанаў*).

**Рыхтуемся да дыктоўкі**

**161.** Запішыце тэксты, расстаўляючы знакі прыпынку, растлумачце іх.

І. Нехта даў мне маску ласты і трубку і я пабрыў ад берага ў акіян. Нырнуўшы пад ваду я быў уражаны як шмат там пад вадой святла яно зіхацела і пералівалася на кожным каменьчыку на кожнай ракавінцы на кожнай пясчынцы, сляпіла. Вузенькія сонечныя дарожкі ляжалі-зіхацелі паміж каралавых купінак у іх святле каралы здаваліся жывымі раслінамі якія нібыта пагойдваліся і плылі. Але гэта была ілюзія створаная сонечным святлом. Варта было дакрануцца да каралаў як яны апякалі вострымі камяніста-калянымі шыпамі. Я плыў ад адной каралавай купіны да другой захоплены прыгажосцю плыў і не здагадваўся як хітра яны заманьваюць мяне ўсё далей ад берага ў акіян. Яны заманьвалі туды дзе я пра іх павінен быў забыць бо там далей мяне раптам акружылі касякі рыб палон якіх аказаўся куды мацнейшы як палон каралаў (*В. Карамазаў*).

II. СЦЕЖКА

Сцежка выводзіць чалавека з абжытага і звыклага асяродку і вядзе ў незнаёмы свет і як бы ні мучыла і ні засмучала расстанне яна суцяшае.

Сцежка сама ведае як ёй ісці як ёй весціся яна хісткая і гнуткая і сцелецца пад ногі быццам нітка чароўнага клубка.

Сцежка засцерагае ад просталінейных учынкаў з яе лёгка збіцца і цяжка ўзбіцца зноў.

Ці спёка ці сцюжа сцежка разнасцежвае прастору і цягнецца датуль дакуль здольны дацягвацца чалавечыя памкненні: яна ўсцяж прашывае сабою абсягі жыцця і тыя сцягі якія яно ўздымае заўсёды маюць сваім правобразам сцежку (*А. Разанаў*).

### Працуем перакладчыкамі

**162.** Перакладзіце на беларускую мову выказванне М. Прышвіна, паразважайце пра яго сэнс. Запішыце, захоўваючы нормы беларускай мовы.

Новый человек — это ребёнок, а если о нём надо рассказывать, то расскажите о взрослом, сумевшем сохранить в себе ребёнка.

### Пунктуацыйны трэнінг

**163.** Вызначце тып сказаў. Выпішыце спачатку складаназалежныя сказы, а затым — сказы з рознымі відамі сувязі. Пастаўце знакі прыпынку, абгрунтуйце іх, пабудуйце схемы сказаў.

1. Я веру што ўсе людзі прыгожыя. Трэба толькі ўлучыць момант калі чалавечы твар можна чытаць як цудоўную і займальную кнігу не звяртаючы ўвагі на афармленне (*Я. Сіпакоў*). 2. Усё на свеце прахлы дым не памірае толькі тое ў ім што ёсць тварэннем духу чалавека (*Н. Мацяш*). 3. Каб быць паэтам жыць трэба Словам лунаць над светам на крылах мовы (*Э. Акулін*). 4. Вершам трэба радзіма радзіме патрэбны вершы у якіх яна жыве (*Р. Барадулін*). 5. Калі ж у вочы мне глядзяць калека лес рака калека мне вочы хочацца схаваць ад сораму што чалавек я (*М. Рудкоўскі*).

**164.** Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Пабудуйце схемы сказаў. Зрабіце сінтаксічны разбор сказаў.

1. Хто разбурае свой дом таму накануецца вецер і неразумны ў мудрага будзе рабом (*Р. Барадулін*). 2. Маланка жне гром малоціць маланка — серп гром — молат; яны такія розныя такія непадобныя але іх яднае гармонія (*А. Разанаў*). 3. Не мяняй свой куток на прастору чужую, у прасторы чужой птушка гнёзды не ўе пі ваду са свайго вадазбору і тую што цячэ дамавіта са студні твае (*Р. Барадулін*).

### Творчы практыкум

**165.** Прачытайце абразкі Я. Скрыгана. Акрэсліце сінтаксічную арганізацыю гэтых твораў. Падрыхтуйце аргументы, каб пагадзіцца з выказваннямі аўтара ці аспрэчыць іх.

I. МОВА

Можна грэбаваць чалавекам, а мовою нельга грэбаваць, бо гэта народ.

II. БУКІНІСТЫЧНАЯ КНІГА

Не дай божачка бачыць сваю кнігу ў скупачным магазіне. Міжволі тады падумаеш: значыцца, ты напісаў дрэнна і на нечай паліцы тваёй кнізе месца няма.

Усё роўна як цябе выракліся самыя лепшыя твае сябры.

### Правяраем сябе

**166.** Выпішыце сказы з рознымі відамі сувязі частак, вызначце віды сувязі паміж часткамі, растлумачце знакі прыпынку.

1. Колькі жыць на свеце будуць людзі, пра адно спяваць ім птушка будзе; і ніхто не ўкрыўдзе на яе, што старую песню зноў пяе (*А. Вольскі*). 2. Падае снег на асфальт, на прамерзлыя грэблі і ростані, на бурае лісце і крылы абветраных стрэх, на ўчарашнія раны, на неастылыя роспачы гукамі белай рапсодыі падае лёгкі снег (*М. Рудкоўскі*). 3. Піце з чыстай крыніцы, з напеваў матчыных, сцеражыцеся, хлопцы, частушкі таннай, паважайце, любіце бацькоўскую спадчыну — усё сплыве, а легенда і песні застануцца (*У. Караткевіч*). 4. Зямля — мая калыска, табе адной відаць, што немагчыма нізка ні падаць, ні лятаць (*Я. Янішчыц*). 5. Спадчына не ў мінулым, а з мінулага: яна — вектар, які паказвае дарогу, яна — аблічча ўчалавечанага часу (*А. Разанаў*).

### Рыхтуемся да дыктоўкі

**167.** Спішыце, расстаўляючы знакі прыпынку, абгрунтуйце свой выбар.

Выехалі на поле. І яно было белае-белае і чыстае-чыстае — снег што панападаў гэтаю ноччу не паспеў яшчэ забрудзіцца, на ім, апрача толькі дарогі па якой нехта паспяшаўся праехаць перад імі не было пакуль ніякіх слядоў. Снег прыхоплены марозікам ляжаў белы аж да галубіны, кожны кусцік у полі і кожнае дрэва ў прысадах стаялі ў пушыстым светлым інеі і было так ціха і спакойна і было так прыгожа што ад усяго гэтага, каб у іншы час, нельга было б адарваць вачэй (*Я. Сіпакоў*).

### Працуем перакладчыкамі

**168.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Паразважайце над таямніцамі творчасці мастакоў слова. Запішыце, захоўваючы нормы беларускай мовы.

Фраза на бумаге выглядит чистой и аккуратной, и по её виду никак не догадаешься, сколько сил на неё затрачено. Точно так же может

ввести нас в заблуждение рукопись или машинопись поэта, который месяцами вынашивал стихи в «голове». Гоголь на вопрос, откуда черпает он своё богатство языка, откуда у него великолепный стиль, ответил: «Из дыма. Пишу и сжигаю, что написал. И пишу снова».

Искусство рождается из сопротивления материала, которое нужно преодолеть. Ни один шедевр не создавался без усилий. Перо подлинного мастера никогда не спешит. Если всё же случается ему разбежаться, автор сам его остановит, создав дополнительные трудности, никогда не пришедшие бы на ум писателю посредственному (*Я. Парандовский*).

## Як перадаць логіку выказвання: знакі прыпынку ў складаных сказах з рознымі відамі сувязі частак

**Пунктуацыйны трэнінг**

**169.** Спішыце, расстаўляючы знакі прыпынку. Пабудуйце схемы складаных сказаў. Зрабіце поўны сінтаксічны разбор складанага сказа з рознымі відамі сувязі частак.

1. Пальчыкі рэдкага дажджу гарэзліва абмацваюць шыбу акна перад якім я працую седзячы за вясковым сталом (*Я. Брыль*). 2. Паэзію А. Разанава можна назваць запрашэннем у несмяротнасць. Як старонкі кнігі быццям пісанай усім чалавецтвам яна гаворыць пра беларуса родны край і сусвет што жыве трывожна і прагне гармоніі (*У. Калеснік*). 3. Нікога хто ў гэты свет прыходзіць не абыходзіць доля атрымліваюць усе без вынятку два найвялікшыя падарункі жыццё і смерць (*А. Разанаў*). 4. Я часцінка зямлі і таму мне балюча калі нішчацца дрэвы высыхаюць крыніцы (*А. Каско*).

**Творчы практыкум**

**170.** Прачытайце тэксты, паразважайце пра сэнс выказванняў. Як вы акрэслілі б значэнне слова «паэзія»? Растлумачце знакі прыпынку.

I. Часта пытаюцца:
як вершы пішуць?
А як жыццё жывуць.
Вось Тэатр Лоркі:
правым вокам ён плача слязу радасці,
левым вокам ён плача слязу гора,

і, зліваючыся,
яны нараджаюць вечную пакутніцу —
паэзію (*А. Сыс*).

II. Мы пастаянна шукаем адно слова, якое б канчаткова і поўна выказала нас. Роднае яму хіба што маўчанне: гэта тое ж слова, але са знакам мінус, яго страта, яго след, яго адсутнасць (*А. Разанаў*).

**171.** Прачытайце тэксты. Паразважайце пра сэнс выказванняў. Якія варыянтныя знакі прыпынку магчымыя ў гэтых тэкстах? Вызначце тып сказаў, зрабіце іх сінтаксічны разбор.

I. Ні сарваная з дрэва лістота, ні пакошаная мурава, ні прыбітая градам жарства, ні спавітая неба падкова — так не трацяць жыцця, хараства, як, расстаўшыся з праўдаю, словы (*М. Танк*).

II. Дзіця вучыцца вымаўляць свае першыя словы. Дарослыя слухаюць: раптам яно скажа тое, чаго яны ўжо не могуць сказаць (*А. Разанаў*).

III. Чалавеку часам балюча, чалавека нехта абразіў: кінуў словы, нібы калючкі, і памеркла сонца адразу (*М. Аляхновіч*).

**Правяраем сябе**

**172.** Спішыце, паставіўшы неабходныя знакі прыпынку, растлумачце іх.

1. У іхніх песнях уся Радзіма а без гэтага чалавек быццам тонкі струменьчык дыму што плыве абалоннем рэк (*У. Караткевіч*). 2. Мець шчаслівае дзяцінства гэта тое самае што мець запасны аэрадром куды можна ў думках апусціцца каб адпачыць душой і целам (*М. Дукса*). 3. Усё што крэйда крэсліць і піша лёгка сціраецца аднак крэйда на гэта не крыўдуе і на гэта не скардзіцца яна рада калі ў ёй маюць патрэбу калі ёю карыстаюцца (*А. Разанаў*). 4. Спасцігаю і слова і справу але ўсім жыццём даводзіцца спасцігаць што свет які ты намерваешся здабыць ты ўжо здабыў і так сваім з’яўленнем на свет (*А. Разанаў*). 5. Усё мінае што жыло ў сэрцы пад лістапада ветраным крылом. Мінае ўсё а праўда застаецца як зорка над пакінутым сялом (*М. Рудкоўскі*). 6. На чужой староначцы не цвітуць сады не спяваюць птушачкі не лятуць сюды (*А. Гарун*). 7. Гармонія гэта залаты плён кавання супярэчнасцей. Яна выступае як свята жыцця як момант калі пазнаннем змаганнем і працай пераможана процьма злыбед, калі адолены адны жыццёвыя супярэчлівасці а іншыя не паспелі завязацца (*У. Калеснік*).

**173.** Запішыце тэксты, расстаўляючы знакі прыпынку. Акрэсліце сэнсавыя адносіны паміж часткамі складаных сказаў, вызначце тып сказаў.

I. Можа таму што ў маладосці часта прыходзілася даношваць нечыя боты нечую вопратку якія заўсёды былі то завялікія то замалыя — я цяпер асцерагаюся і чужых думак (*М. Танк*).

II. Тыя недаробленыя работы і недадуманыя думкі якія я пакідаў на потым спадзеючыся што калі-небудзь вырашацца яны самі так і засталіся на колішнім месцы... I сёння я іх вязень (*А. Разанаў*).

III. Гляджу на галінку плюшчу пакаёвага ўпарта імкнецца яна з кута цёмнага да праёму ваконнага лістком за лістком сягае наўпрост да святла і няма на шляху да яго ніякай перашкоды (*Н. Мацяш*).

### ✎ Рыхтуемся да дыктоўкі

**174.** Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Напішыце папераджальную дыктоўку.

Незабыўнаму Кузьме Чорнаму належаць словы: «Дзе прайшло маленства, там пачынаецца Радзіма». Як гэта справядліва! Маленства — гэта першы белы храсточак жыцця, які толькі зачапіўся за зямлю і глынуў яе сокаў, і пусціў першыя лісцікі, і першы раз зацвіў сваёй прыгожай кветкаю.

«Радзіма» — ад «радзіць», «радзіцца». Радзіма — гэта тое, што цябе нарадзіла, што цябе ўскарміла: маці, бацька, зямля працы іх рук; людзі, з якімі ты побач жывеш; хата, у якой, падвешаная да бэлькі, рыпала твая калыска; вуліца, на якой ты з таварышамі гуляў у мячыка, «пікара», «немца»; сад, у якім раслі вішні, маліны, спасаўкі, бэры, антонаўкі, папяроўкі; школа, дзе цябе вучылі самыя лепшыя ў свеце настаўнікі, прымушалі запомніць, як да чатырох прыкласці тры, што Дняпро ўпадае ў Чорнае мора і на памяць верш «А хто там ідзе?»; дарогі, якія ты таптаў незлічоную колькасць разоў, водзячы коней на пасвa, бегаючы да сябра ў другую вёску, ходзячы ў горад з торбачкаю кніг. I дзе б ты сам, твае бацькі, дзяды і прадзеды ні былі на гэтых дарогах, куды б ні хадзілі, адусюль да твайго сэрца працягнуліся нітачкі, якія ўжо праз усё жыццё ніхто не здолее разарваць (*Я. Скрыган*).

### Працуем перакладчыкамі

**175.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову, запішыце, захоўваючы нормы беларускай мовы. Паразважайце пра лексічныя адпаведнікі ў беларускай і рускай мовах.

Речь — это система знаков. Словами мы сигнализируем другим людям о том, что происходит в нашем сознании. Знание данного языка можно сравнить с обладанием ключом — шифром, необходимым для принятия передачи чужой станции. Известие, переданное шифром, сообщает какой-то факт, подробности которого принимающий дополняет собственным воображением, точно так же простейшая фраза, которой обменялись два собеседника, является не чем иным, как кратким сигналом, требующим разъяснения и не застрахованным от непонимания (*Я. Парандовский*).

## Выкарыстанне складаных сказаў з рознымі відамі сувязі частак у тэкстах розных тыпаў, стыляў і жанраў

**Пунктуацыйны трэнінг**

**176.** Спішыце, расстаўляючы знакі прыпынку, растлумачце іх. Вызначце сэнсавыя адносіны паміж часткамі складаных сказаў, від сувязі, тып сказаў. Пабудуйце схемы складаных сказаў.

1. Пакуль добрыя людзі жывуць сярод нас (гэтае нас — да ўсіх межаў горада рэспублікі краіны і далей) нам думаецца адчуваецца што яны будуць заўсёды. І мы не спяшаемся гаварыць ім тое што гаворым у думках тады калі ўжо тых людзей няма (*Я. Брыль*). 2. Спёка. Жаўранкі звіняць крыламі ў шкляное празрыстае паветра. Па краях насыпу смяюцца кветкі легкадумныя званочкі сіні як неба васілёк палявая «грэчка» ліпкія смолкі (*У. Караткевіч*). 3. Такія душы што толькі праклюнуліся а ўжо характар маюць берагчы трэба. Вельмі ж яны крохкія і кволыя. Ім здаецца што за плячыма ў іх крылы а там жа толькі пялёсткі каляровыя як у тых кветак першых (*У. Карамазаў*).

**Творчы практыкум**

**177.** Вызначце жанр твора, паразважайце над яго зместам. Акрэсліце асаблівасці яго структуры. Запішыце тэкст у выглядзе графічных схем сказа. Вывучыце верш на памяць, напішыце самадыктоўку.

ДАРОГА

Дарогу, што к храму вядзе,<br>
Далёка не кожны спытае.

Далёка не кожны і знае
Дарогу, што к храму вядзе.
Вось праўда людская святая:
Пакуль не адбыцца бядзе,
Дарогу, што к храму вядзе,
Далёка не кожны спытае (*У. Паўлаў*).

**178**. Паразважайце пра спецыфіку мастацкіх вобразаў твора. Запішыце яго ў выглядзе графічнай схемы сказа. Зрабіце поўны сінтаксічны разбор сказа. Паспрабуйце назваць словы-сімвалы, з якімі ў вашым асэнсаванні звязваюцца вашы дзед, бабуля, бацька, маці.

Мой дзед
спаць укладваў сваю галаву сівую
на Біблію,
бабуля — на сноп жытнёвы,
бацька — на ложа вінтоўкі,
а маці маю я ніколі не бачыў, каб спала, —
па пёрку, па два
ўсё збірае мне пух на падушку (*А. Сыс*).

**179**. Прачытайце верш Н. Мацяш. Паразважайце пра матываванасць загалоўка. Падрыхтуйце невялікае паведамленне на адну з тэм: «Таямніцы слова», «Сіла слова», «Слова гоіць». Акрэсліце асаблівасці сінтаксічнай арганізацыі твора. Запішыце тэкст у выглядзе графічных схем сказаў, акрэсліце ролю складаных сказаў. Зрабіце сінтаксічны разбор сказаў з рознымі відамі сувязі.

### ТРЫ ДУДКІ

Ах, чароўныя дудачкі з матчынай казкі!..
Падзьмеш у адну —
і высахнуць слёзы;
У другую падзьмеш —
засмяешся знячэўку;
Возьмеш трэцюю — пусцішся ў скокі...

Ах, чароўныя дудачкі з матчынай казкі!..
Паўжыцця давялося схадзіць,
Каб здабыць вас,
І цяжка даць веры яшчэ,
Што ў руках у мяне вы.

Але ў першую дудку
таямнічага слова
падзьму —
Высыхае слязіна;
Паднясу другую да вуснаў —
і ўсміхацца гатова;
А на трэцяй зайграю —
смех паклоніцца нізка слязе
За спатканае шчасце.

**180**. Прачытайце верш Д. Бічэль. Паразважайце, чаму пунктуацыйна ён афармлены такім чынам. Запішыце тэкст з адпаведнымі знакамі прыпынку. Што, на вашу думку, змянілася?

РУЖАНЕЦ

ружанец сцяжына ў нябёсы
малітва і пацеркі слёзы
малітва на беразе лодка
маліцца на беразе лёгка
на беразе светла маліцца
як поўная сэрца крыніца
але як засушана сэрца
любоў дапаможа сагрэцца

іду праз бяду на Твой голас
іду праз нястачу і холад
іду праз пакуты зняменне
выносіць без вёсел цячэнне
ў прастору дзе слова праўдзіва
дзе слова і тарча і дзіда
мой Божа мой Божа мой Божа
з Табой і нядоля прыгожа
святое святло Тваё Ойча
святла не тушы не азмрочвай

**Слова пра словы**

**Тарч** [ст.-бел. *тарчъ* — шчыт] *м*. Малы круглы шчыт, у сярэдзіну якога прасаджвалася рука з кальчужнай рукавіцай і ружжом; круглы шчыт з высокай, вострай сярэдзінай.

### Працуем перакладчыкамі

**181.** Прачытайце тэкст. Паразважайце пра аўтарскія знакі прыпынку ці поўнае адмаўленне ад іх. Назавіце беларускіх аўтараў, якія маюць творы без знакаў прыпынку. Перакладзіце тэкст на беларускую мову.

Отказ от знаков препинания идёт от Аполлинера. Ему якобы надоели протесты редакторов и корректоров, никак не захотевших примириться с его капризной расстановкой запятых и точек, и он перестал ими пользоваться вообще. Это в значительной мере осложнило восприятие стиха, но у Аполлинера нашлось много последователей, и некоторые объясняли, что, убирая точки и запятые, они дают указание, что их стихи надо читать монотонно, как псалмы. То был косвенный, может быть, неосознанный возврат светской поэзии к её религиозным истокам (*Я. Парандовский*).

### Працуем карэктарамі

**182.** Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў тэкстах. Падрыхтуйце невялікае паведамленне на адну з тэм: «Беларуская мова і беларускае грамадства», «Беларуская мова і адукацыя», «Беларуская мова і культура», «Я і роднае слова».

I. Яна вечная бо ўся яна як наш характар. Здаецца кволая ад пяшчотнай мяккасці яна раптам кідае наверх схаваную ад усіх жалезную мужнасць і сілу. І быццам дамогшыся свайго б'е як перапёлка ў жытах — мякка а за тры вярсты чуваць. «Эль» як салодкае віно «дзе» як шкляной палачкай па крышталю мяккае «с» як соннае ціўканне сінічкі ў гняздзе. І побач «р» як гарошына ў свістку і доўга, пявуча адкрыта гучаць галосныя. А «г» прыдыхае так ласкава як маці на лобік дзецку каб перастаў сніць дрэнны сон (*У. Караткевіч*).

II. Назаўсёды да апошняга дыхання пасялілася ў маю душу любоў да хлебаносных камячкоў глебы на роднай ніве да груш на ўзмежках і пры дарогах да крыніц і ўзгоркаў. Да хлебароба і настаўніка. Да матчынага слова. Да найвялікшай нашай беларускай далікатнасці — ратаваць чалавека калі яму цяжка калі яму трэба спагада калі яму трэба кубак крынічнай вады. Супакоіць і прагнаць смагу агледзець і загаіць рану выратаваць (*Ф. Янкоўскі*).

III. Прыгожая мова — не ўся мова, гэта толькі адзін з яе пластоў, адзін з яе стыляў. Чалавек мысліць не толькі роўна але і шурпата не толькі плаўна але і абрывіста не толькі лагічна але і нелагічна не толькі

правільна але і няправільна і таму габлюючы шурпатую мову непазбежна ў нечым яе спрашчаем схематызуем не даём магчымасці прабіцца да святла парасткам нязвыклых думак (*А. Разанаў*).

IV. Родная мова ў дакладным значэнні ёсць самая любімая спадчына нацыі праз яе пасрэдніцтва лягчэй за ўсё пранікнуць у душу нацыі закрануць пачуцці праясніць розум падштурхнуць адпаведную думку заклікаць да дзеяння змагацца са страсцямі ствараць дабрачыннасці. Навошта ж іншыя фактары, менш блізкія або чужыя? (*А. Ельскі*).

**Рыхтуемся да дыктоўкі**

**183.** Прачытайце тэкст. Стварыце свой слоўны эскіз карціны. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку, падрыхтуйцеся да напісання папераджальнай дыктоўкі.

Зіма. Ноч. Ціша і вусціш.

На закіданым снегам узгорку стаіць каплічка.

Калі з галерэі нашага мастацкага музея заходзіш у невялікую залу, дзе жывапісныя работы двух мастакоў, найбліжэйшых сяброў — Бялыніцкага-Бірулі і Жукоўскага, то спачатку звычайна заўважаеш заснежаную ў блакітным сне каплічку, і яна доўга ад сябе не адпускае. Ты набліжаешся да яе, ужо адчуваючы ўладу, уладу настолькі моцную, што, яшчэ пра яе не думаючы, сам нібы ў глыбокім сне, як па глыбокім снезе, падымаешся на ўзгорак — гэтакае адчуванне. Хочаш да капліччкі? Ці праз яе — вышэй? А куды — вышэй? Да Пана Бога?

Пра гэта падумаеш пасля, калі адыдзеш ад пейзажа і будзеш спакойна разглядаць яго зводдаль.

Здзівішся: няшмат усяго — зімовы ўзгорак і на ім капліччка, — але адкуль такая ўлада іх над тваёй душою? Ад прасторы, незаплямленай прасторы, глыбознай ціішыні ды чысціні, замглёна-бязмежнага блакіту ночы на зямлі і ў небе?

Тут — улада мастака. Ён ведае душу прыроды, кожнага ў ёй парастка і людскую душу, ведае, як звесці іх ва ўзаемнай радасці, не разбурыўшы гармоніі свету і сусвету: усе гарызанталі — узгорка, капліччкі, неба — прыўзняў у чысціні да Найвышэйшага і паказаў туды дарогу (*В. Карамазаў*).

**Правяраем сябе**

1. Якія віды сувязі могуць спалучацца ў сказах з рознымі відамі сувязі частак?

2. Раскажыце пра знакі прыпынку ў сказах з рознымі відамі сувязі частак.

3. Спішыце, расстаўляючы знакі прыпынку, растлумачце іх.

Сэнс быцця. Калі б можна было ахапіць яго і выказаць адным словам адным афарызмам ці вобразам ён перастаў бы быць вечным пытаннем жыццё наша страціла б сваю прывабную загадкавасць як траціць яно прывабнасць для тых хто шукае сэнсу згаджаецца проста жыць як набяжыць (*У. Калеснік*).

# ЧУЖАЯ МОВА

## Як перадаць чужую мову?

**Паўтараем**

**184.** Ахарактарызуйце спосабы перадачы чужой мовы, карыстаючыся табліцай.

| Спосаб перадачы чужой мовы | Прыклады |
|---|---|
| **1. Простая мова** | «Чалавек датуль малады, пакуль сам хоча ім быць», — пісаў Аляксей Карпюк. |
| **2. Ускосная мова** | Аляксей Карпюк пісаў, што чалавек да таго часу малады, пакуль сам хоча быць такім. |
| **3. Канструкцыі з пабочнымі словамі і сказамі, якія паказваюць на крыніцу паведамлення** | На думку Аляксея Карпюка, чалавек датуль малады, пакуль у яго ёсць жаданне заставацца такім. |
| **4. Абазначэнне тэмы чужой мовы** | Аляксей Карпюк расказваў пра рэцэпт захавання маладосці. |

**185.** Ахарактарызуйце спосабы перадачы чужой мовы ў сказах. У якім сказе ўзнаўляецца змест чужой мовы даслоўна, з захаваннем формы і ўсіх асаблівасцяў выказвання? У якой канструкцыі перадаецца толькі агульны змест выказвання? У якім сказе сэнс чужой мовы перададзены пры дапамозе пабочных слоў або сказаў? У якім сказе тэма чужога выказвання названа пэўным членам сказа?

1. «Скажы мне, дубе, — пачала чароціна, — чаму ты не гнешся прад бураю і бура цябе не можа здалець?» (*Я. Колас*). 2. Старажытныя павер'і сведчылі, што Пярун трымае ў руках двое велізарных жорнаў і ўдарае імі адзін аб другі (*М. Піліпенка*). 3. Паводле версіі польскага тапаніміста Сташэўскага, у аснове назвы Кобрын асабовае імя *Cobrunus* (*Кобрунус*), запазычанае славянамі і яцвягамі ў кельтаў праз германцаў (*В. Лемцюгова*). 4. Дамейка пакінуў значны след у гісторыі. Географ вам раскажа пра горы Кардыльера Дамейка. Біёлаг — пра малюск навуцілус дамейкус. Геолаг — пра сіне-белы мінерал дамейкіт. А батанік — пра фіялку віёла дамейкіяна. Кожнае гэтае слова захоўвае памяць пра вялікага вучонага з Беларусі (*А. Бензярук*).

**186.** Прачытайце ўрывак з кнігі У. Арлова «Таямніцы полацкай гісторыі». Вызначце тып маўлення, абгрунтуйце свой адказ. Падрыхтуйце вусны пераказ тэксту, дапоўніце яго звесткамі пра жыццёвы шлях Рагнеды. Выкарыстайце розныя спосабы перадачы чужой мовы.

Вось што апавядае Лаўрэнцьеўскі летапіс: «Калі Рагвалод трымаў уладу і княжыў у Полацку, Уладзімір быў яшчэ паганінам і жыў у Ноўгарадзе. І меў ён дзядзьку Дабрыню, храбрага ваяводу... І паслаў той да Рагвалода людзей, і прасіў яго аддаць дачку за Уладзіміра. Запытаўся ў дачкі Рагвалод: «Ці хочаш за Уладзіміра?» Яна ж адказала: «Не хачу разуці рабыніча, а Яраполка хачу».

«Не хачу разуці» — тагачасная форма адмаўлення сватам. Існаваў звычай, што маладая жонка перад першай шлюбнаю ноччу здымала з мужавых ног абутак. Аднак тут не проста адмова, але і знявага, бо полацкая князёўна гучна абвясціла: жаніх — сын рабыні, а такі бязродны ёй не трэба.

Далей летапісы кажуць пра гнеў Уладзіміра і яго дзядзькі, што набралі з ноўгарадцаў, пскавічоў, чудзі, весі і меры, а таксама са смаленскіх ды ізборскіх крывічоў вялізнае войска і рушылі на Полацк, дзе ўжо збіраліся выпраўляць Рагнеду ў Кіеў. З Уладзімірам ішла дружына варагаў.

Трэба зазначыць, што летапісцы часта па-свойму падавалі гістарычныя падзеі — рабілі іх больш рамантычнымі, набліжаючы свой аповед да літаратурнага твора. Напраўду галоўная прычына нападу на Полацк — не адмова сватам, а паход палачан на ноўгарадскія воласці з мэтаю забраць землі (*Паводле У. Арлова*).

### Творчы практыкум

**187.** Перабудуйце сказы з простай мовай у сказы з пабочнымі словамі ці сказамі. Падбярыце як мага болей адпаведных сэнсу выказвання пабочных адзінак.

1. Канстанцін Паўстоўскі пісаў: «У кахання тысячы аспектаў, і ў кожным з іх — сваё святло, свой смутак, сваё шчасце і свой водар». 2. Французскі пісьменнік-мараліст Франсуа Ларошфуко сцвярджаў: «Сапраўднае каханне падобнае на прывід: усе пра яго гавораць, але мала хто бачыў». 3. Беларусы кажуць: «Сэрцу не загадаеш, каго кахаць».

### Паўтараем

**Простая мова** — гэта разнавіднасць чужой мовы, якая перадаецца даслоўна, без змянення яе лексічных, граматычных і стылістычных

асаблівасцяў. Для простай мовы характэрна ўжыванне дыялектнай лексікі, тэрмінаў, устарэлых слоў, неалагізмаў, пропускі слоў у сказах, разрыў сказаў.

| Знакі прыпынку ў сказах з простай мовай | |
|---|---|
| **Словы аўтара знаходзяцца перад простай мовай** | |
| **А: «П».** | Людзі кажуць: «Пакуль будзе вада ў крыніцы чыстаю, датуль будзе чысты чалавек» (*А. Бензярук*). |
| **А: «П?»** | Я пацікавіўся: «А чаму баба Лісавета не частуецца?» (*Г. Марчук*). |
| **А: «П!»** | Бацька і маці выходзяць маладым насустрач, гавораць: «Просім, дзеткі, у хату!» (*А. Бензярук*). |
| **А: «П...»** | Праваднік сказаў сяльчанам: «Вунь і купецкія ладдзі...» (*С. Тарасаў*). |
| **Словы аўтара знаходзяцца пасля простай мовы** | |
| **«П», — а.** | «Будзеш ведаць, як хадзіць у чужы мёд», — смеючыся, сказаў Якаў (*Л. Дайнека*). |
| **«П?» — а.** | «А навошта свечкі гараць?» — спытала дзяўчынка (*С. Тарасаў*). |
| **«П!» — а.** | «Трымай Суворава што ёсць моцы!» — загадаў Касцюшка Серакоўскаму (*А. Бензярук*). |
| **«П...» — а.** | «Лес губім — сябе губім...» — апамяталіся людзі (*А. Бензярук*). |
| **Словы аўтара знаходзяцца ў сярэдзіне простай мовы** | |
| **«П, — а, — п».** | «Я б у дружыну пайшоў, — ахвотна згадзіўся Мірошка, — маці не пусціць» (*Л. Дайнека*). |
| **«П? — а. — П».** | «Няўжо ты не ведаеш, дзе сядзіба князя? — здзівіўся Мірошка. — За Грымучым борам» (*Л. Дайнека*). |
| **«П, — а. — П».** | «Ганарысты, — сказаў верхавы. — Носа крукам не дастанеш» (*Л. Дайнека*). |
| **«П... — а. — П».** | «Мікула... — на вачах дзяўчынкі заблішчалі слёзы. — Я ўвесь год успамінала яго, калі шыла чаравічкі» (*С. Тарасаў*). |
| **«П! — а. — П».** | «Адчыніце вароты! — загадаў падворнай чэлядзі князь Рагвалод Свіслацкі. — Упусціце гасцей, накарміце іхніх коней» (*Л. Дайнека*). |

<table>
<tr><th colspan="2">Знакі прыпынку ў сказах з простай мовай</th></tr>
<tr><th colspan="2">Словы аўтара знаходзяцца ў сярэдзіне простай мовы</th></tr>
<tr><td>«П, — а: — П».</td><td>«Напалеон, — прадставіўся госць і дадаў з усмешкай, пабачыўшы у вачах суразмоўцы здзіўленне: — Орда» (А. Бензярук).</td></tr>
<tr><td>«П? — а: — П».</td><td>«Ён [матылёк] жывы? — часта дыхаючы, сказаў Мірошка і глянуў маці ў вочы: — Прыгожы» (Л. Дайнека).</td></tr>
<tr><td>«П! — а: — П».</td><td>«Важнецкі меч. Ты — майстар! — звярнуўся баярын да Фердынанда і пранізаў уважлівым позіркам Чухому з Якавам: — А вы вып'еце ў святы дзень вядро мёду. Мне патрэбны людзі па жалезным рамястве» (Л. Дайнека).</td></tr>
</table>

**188**. Праілюструйце ўласнымі прыкладамі прыведзеныя ў табліцы схемы расстаноўкі знакаў прыпынку ў выказваннях з простай мовай, якая запісваецца з новага радка.

<table>
<tr><th>Словы аўтара знаходзяцца перад простай мовай</th><th>Словы аўтара знаходзяцца пасля простай мовы</th><th>Словы аўтара знаходзяцца ў сярэдзіне простай мовы</th></tr>
<tr><td rowspan="2">А:<br>— П.</td><td rowspan="2">— П, — а.</td><td>— П, — а, — п.</td></tr>
<tr><td>— П, — а. — П.</td></tr>
<tr><td>А:<br>— П?</td><td>— П? — а.</td><td>— П? — а. — П.</td></tr>
<tr><td>А:<br>— П!</td><td>— П! — а.</td><td>— П! — а. — П.</td></tr>
<tr><td rowspan="4">А:<br>— П...</td><td rowspan="4">— П... — а.</td><td>— П... — а. — П.</td></tr>
<tr><td>— П, — а: — П.</td></tr>
<tr><td>— П? — а: — П.</td></tr>
<tr><td>— П! — а: — П.</td></tr>
</table>

**189**. Выразна прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак. Вызначце тып маўлення. Абгрунтуйце свой адказ. Акрэсліце асноўную думку тэксту. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

Жыў каталіцкі манах, прапаведнік Андрэй Баболя ў гады, калі не спыняліся ў Беларусі войны. Аднойчы ўкраінскія казакі завіталі ў Янава, дзе тады быў прапаведнік. Крычыць казацкі галава:

— Дзе той манах, што людзям галовы тлуміць, Хрыстовую веру скажае?! Дзе хаваецца?

Ніколі Баболя не хаваўся ад бяды. Выйшаў ён да казакоў, узняў рукі ўгору. Але не для таго, каб здацца, а для таго, каб слова ім сказаць.

— Што, манах, дрыжыш? Баішся? — грозна спытаў казацкі галава. — Няма цяпер каму цябе абараніць!

— Ёсць у мяне абаронца. Святое слова для мяне выратаванне, — ціха адказаў Баболя.

— А вось паглядзім, што мацнейшае: тваё слова ці мая шабля?!

Выхапіў казак сваю вострую шаблю і ўдарыў манаха. Быў месяц май 1657 года...

Мінулі стагоддзі. Тую казацкую шаблю даўно ржа паела, а слова прапаведніка жыве. Захавалася яно ў кнігах, перадаецца з вуснаў у вусны.

Імя забойцы згінула назаўжды, а імя святога Андрэя дасюль жыве і ў храмах, і ў палацах, і ў простых дамах (*А. Бензярук*).

**190.** Запішыце дыялог, пачынаючы кожную рэпліку ў тым жа радку, у якім заканчваецца папярэдняя. Звярніце ўвагу на тое, як зменяцца знакі прыпынку. Устаўце прапушчаныя літары. Растлумачце правапіс слоў.

МІЛАВІЦА

В..нера!

— Што — В..нера?

— Не слова, а свята! Люблю, падабаецца. Люблю і слова. Люблю і зорку. Люблю і «Зорку В..неру». Нашу, (Б,б)агдановічаву...

— А Мілавіца?

— Што гэта?

— Не ведаеш? Народная назва зоркі Венеры.

— Праўда? Хораша. Яно такое роднае і д..лікатнае.

**191.** Прачытайце артыкул з кнігі В. П. Лемцюговай «Тапонімы распавядаюць». Ахарактарызуйце спосабы перадачы чужой мовы.

Пісьмовыя помнікі сведчаць, што паселішча *Валожын* вядома з 1407 года. У XVII—XVIII стагоддзях тут былі пабудаваны касцёл і кляштар бернардзінцаў, уніяцкая царква. У розныя часы паселішчам валодалі Радзівілы, Чартарыйскія, Тышкевічы.

Паводле меркавання тапаністаў, у аснове назвы старажытнае славянскае імя мянушкавага паходжання *Валога*. *Валога* — беларуская традыцыйная страва, малочная поліўка. У паўночна-заходніх беларускіх гаворках слова *валога* азначае «растоплены тлушч». Мясцовыя жыхары расказваюць, што *валогу* рабілі з масла. *Валогай* называюць таксама малако з канаплянага семя і рэдкую пахлёбку з малака і канап-

лянага семя. Зусім лагічна, што аматар такой стравы мог называцца *Валога* (як *Крупеня*, *Верашчака*, *Борщ*). Утварэнне тапоніма *Валожын* суправаджаецца чаргаваннем зычных [г] — [ж]. Суфікс ***-ын*** абазначае індывідуальную прыналежнасць.

### Працуем перакладчыкамі

**192.** Перакладзіце мініяцюру М. Прышвіна на беларускую мову, запішыце. Ці згодныя вы з адказам на пастаўленае пытанне?

— Друг мой! В тебе единственном моё спасение, когда я в несчастье... Но когда я бываю счастлив в делах своих, то, радуясь, приношу тебе свою радость и любовь. И ты ответь — какая любовь дороже тебе: когда я в несчастье или когда я здоров, богат и славен и прихожу к тебе как победитель?

— Конечно, — ответила она, — выше та любовь, когда ты победитель. А если ты в несчастье хватаешься за меня, чтобы спастись, так это же ты для себя любишь! Так будь же счастлив и приходи ко мне победителем: это лучше. Но я сама тебя люблю одинаково — и в горе и в радости.

### Паўтараем

**Ускосная мова** — гэта чужое выказванне, якое перадаецца ад імя апавядальніка. Сінтаксічныя кантрукцыі з ускоснай мовай выражаюць толькі змест чыйго-небудзь выказвання, не захоўваючы лексічных, граматычных і інтанацыйных асаблівасцяў маўлення той асобы, чые словы перадаюцца: *Назваў гаспадар сваё застолле талакою і прызнаўся, **што нядаўна вычытаў гэта забытае слова*** (*Ф. Янкоўскі*).

Канструкцыя з ускоснай мовай афармляецца як складаназалежны сказ, у якім галоўная частка ўяўляе сабой словы аўтара, а даданая перадае змест чужога выказвання: *Магчыма, Францішак казаў экзаменатарам, **што гаючае жыццядайнае слова найлепей браць з псальмаў цара Давіда ды з Саламонавых прыпавесцей, з пасланняў апостала Паўла ды з Евангелля ад Лукі*** (*У. Арлоў*).

**193.** Выпішыце сказы з ускоснай мовай: 1) якія перадаюць ускоснае паведамленне; 2) якія выражаюць ускоснае пабуджэнне; 3) якія выражаюць ускоснае пытанне. Ахарактарызуйце сродкі сувязі паміж галоўнай і даданай часткамі, акрэсліце лексічнае значэнне апорных слоў, да якіх адносяцца даданыя часткі сказаў.

1. Людзі спяваюць, што ў гэтым краі няма мора і гор (*А. Бензярук*). 2. Пытаешся, якая розніца паміж хітрым і разумным. Хітры — на адзін

раз. Разумны — назаўсёды (*Г. Марчук*). 3. Пытаешся, чаму дабро несмяротнае. А што яшчэ можа выжыць у любым грамадстве, апроч яго? (*Г. Марчук*). 4. Пытаешся, дзе радзіма. Дзе пахавана твая маці, там і радзіма (*Г. Марчук*). 5. У глыбокай старажытнасці сцвярджалі, што людзі з аднолькавымі імёнамі мелі аднолькавыя лёсы (*Л. Кавадла*). 6. Не скажу нават, ці многа часу так прайшло (*А. Вольскі*). 7. Знахар, даючы імя, прасіў у духаў, каб праз гэтае імя дзіцяці перадаваліся пэўныя якасці характару (*Л. Кавадла*).

**194.** Спішыце сказы, замяняючы простую мову на ўскосную. Сачыце за ўжываннем займеннікаў і асабовых форм дзеяслова. Размяжуйце злучнікі і злучальныя словы, пры дапамозе якіх ускосная мова далучаецца да слоў аўтара.

1. Кліча да сябе Савіцкі ўсіх, хто зброю насіць можа: «Годзе, панове, на печы сядзець!» (*А. Бензярук*). 2. «Не едзь, князь! — адразу ж закрычала некалькі вояў. — Не вер псам!» (*Л. Дайнека*). 3. «Што трэба вам, людзі з Рыгі?!» — зычным голасам закрычаў Вячка, ускочыўшы на самую высокую пляцоўку надваротнай вежы (*Л. Дайнека*). 4. Пухнатыя воблакі кожную раніцу, бы ў люстэрка, пазіралі ў Сінявочку, прыхарошваліся і, перш чым плыць у свае далёкія падарожжы, заўсёды гаварылі: «Ах, якая прыгажуня гэта Сінявочка!» (*А. Дудараў*). 5. Загадаў Касцюшка Серакоўскаму: «Трымай Суворава што ёсць моцы» (*А. Бензярук*). 6. Потым Вячка спытаў у рыцара Данііла: «Скажы, тэўтон, ці добры ваш Бог?» (*Л. Дайнека*). 7. «Ох, колькі ў жыцці разладдзя!» — сухой схуднелай рукой майстар пачухаў патыліцу (*С. Тарасаў*). 8. «Я ўсяго толькі грэшная манашка, — працягвала Ефрасіння, — смяротны чалавек, які нарадзіўся і памрэ» (*С. Тарасаў*).

### Слова пра словы

**Тэўтон** *м.* Член Тэўтонскага ордэна — каталіцка-духоўнага ордэна, ваеннай арганізацыі нямецкага рыцарства, якая ў XIII—XIV стагоддзях ажыццяўляла феадальна-каталіцкую агрэсію ва ўсходняй Еўропе.

### Лінгвістычны эксперымент

**195.** Акрэсліце ролю простай мовы. Замяніце простую мову ўскоснай, паразважайце, якія змены адбыліся ў выказванні.

Старэнькай маці, калгасніцы, адняло мову. Прыляцеў сын, два дні сядзеў над ёю, і толькі на трэці яна апрытомнела. І першае, што сказала, — спыталася:

— А ці абедаў жа, сынок?

Колькі яму — пажылому мужчыну, быломy франтавіку — каштавала, каб не заплакаць!.. (*Я. Брыль*).

**196.** Напішыце сціслы пераказ тэксту, замяняючы, дзе магчыма, ускосную мову простай. Звярніце ўвагу на пунктуацыйнае афармленне сказаў з простай мовай і на ўжыванне займеннікаў у іх складзе.

Яна прыходзіла да нас на другі дзень майго прыезду ў вёску. Садзілася да стала на лаўку, цяжка ўздыхала і, з надзеяй пазіраючы на мяне, пыталася, ці не пачуў я чаго пра яе сына. Каб вы толькі ведалі, як няёмка было мне перад гэтай старой! Я гатовы быў праваліцца скрозь зямлю, абы толькі не бачыць яе, абы не чуць кожны раз аднаго і таго ж пытання. Сына яе, пятнаццацігадовага хлапца, Міцю, у час вайны вывезлі ў Нямеччыну, і ён адтуль не вярнуўся. Старая аднекуль узяла сабе ў галаву, надумала, што я чалавек граматны і, калі паклапачуся як след, магу даведацца, дзе цяпер яе сын. Што ён жыве — яна ў гэтым аніколечкі не сумнявалася. І ніяк не магла зразумець, чаму ён маўчыць, не дае аб сабе нікому почуту.

— Нешта замінае яму, інакш ён адазваўся б, — звычайна казала яна.

Я, вядома, з дарагой душой быў бы рад памагчы, але, як назло, як толькі выязджаў з вёскі, у штодзённай мітусні і клопаце забываўся на просьбу старой.

Так было некалькі год.

І вось, прыехаўшы зноў дадому, я на другі ж дзень адчуў, што адпачынак мой ідзе не так, як усе ранейшыя леты, што мне нешта рупіць, нечага не хапае. Я блукаў па знаёмых з маленства мясцінах, гутарыў з бацькамі, знаёмымі, сябрамі і ўсё роўна адчуваў на душы нейкі неспакой. «Не тое, нешта ўсё не тое», — увесь час здавалася мне. І аднойчы я здагадаўся, у чым прычына такога майго настрою: ды гэта ж да мяне не прыйшла тая бабулька, што прыходзіла заўсёды.

Я спытаўся ў маці, што са старою, чаму яна, як бывала, не наведалася да нас. І пачуў: яе няма ўжо на белым свеце.

І амаль у тую ж хвіліну я падумаў, што ў нечым вельмі вінаваты перад гэтай бабулькай. І гэтага ўжо нельга нічым паправіць.

У горад я паехаў з прыкрасцю на душы. І яна, гэтая прыкрасць, не пакінула мяне ні праз дзень, ні праз два. Не пакідае і сёння (*Паводле Б. Сачанкі*).

**Працуем карэктарамі**

**197.** Выпраўце памылкі ў сказах з ускоснай мовай. Запішыце правільныя варыянты выказванняў.

1. Старшы конюх Канопліч грымнуўся на калені, закрычаў, загаласіў, што бяда, княжа, вялікая. 2. Дабранега пыталася ў Халадка і Грыкшы, ці прыгожы ваш Кукейнос. 3. Адась пацікавіўся, чаму баба Лісавета не частуешся? 4. Афанасій адказаў салдатам, што не адракуся ад таго, што прамаўляў. 5. Імператар грозна сказаў варшавянам, што, калі яшчэ раз узнімеце мяцеж, ушчэнт зруйнуе Варшаву.

**Паслухаем навукоўцаў**

**Няўласна-простая мова** — гэта пашыраная ў мастацкай літаратуры форма перадачы чужой мовы, калі аўтар як бы падае ўнутраную мову персанажа: *Ён [Аўсянкін] стаяў і прыслухоўваўся, ці хаця ж дома яны. А то сама яна мо ў сваім тэатры, а дзеці зноў мо пайшлі дзе да суседзяў на тэлевізар. Спачатку не чутно было ніякага голасу. А потым ён пачуў смех* (*«Полымя»*).

Няўласна-простая мова блізкая да простай: у ёй захоўваюцца лексічныя і сінтаксічныя асаблівасці чужога выказвання, эмацыянальнасць і выразнасць яго. Як падача чужой мовы з пункту погляду аўтара, няўласна-простая мова набліжаецца да ўскоснай: у ёй адбываецца тая самая замена асабовых форм дзеясловаў, прыналежных і асабовых займеннікаў, што і ва ўскоснай мове. Спецыфічнае для няўласна-простай мовы тое, што яна звычайна афармляецца як адначленная канструкцыя, без слоў аўтара, часта мае форму пытальнага ці клічнага сказа (*П. Сцяцко, М. Яўневіч*).

**198.** Прачытайце ўрыўкі з гістарычнай прозы беларускіх аўтараў. Параўнайце, якім спосабам перадаецца маўленне персанажаў. Ахарактарызуйце пунктуацыйнае афармленне розных спосабаў падачы чужой мовы.

I. Богша прыгнуўся, штурхнуў рукамі дзверы. Ступіў за парог.

Па начным небе, як здані, плылі аблокі, між якіх ярка зіхацелі зоркі.

Колькі летаў мінула і колькі яшчэ міне, а яны ўсё блішчаць! І нічога з імі не станецца, хоць кажуць, што зоркі, як і людзі, паміраюць. Але ён гэтага не бачыў. Мо і добра. Хай сабе блішчаць. Хто ведае, з якой яго жыццё закоціцца... І ўсё ж крыўдна: ён памрэ, а яны застануцца. А што па ім застанецца? А ці ўспомніць хто Лазара Богшу? Мо, запіша два словы пра яго, Лазараў, крыж, той мніх, што ў келлі сафійскай лета-

піс вядзе. Шкада толькі, што кніжны пергамент ненадзейны: і згарэць можа, і пацукі могуць з'есці. Ефрасіння — тая застанецца, бо сам напісаў на золаце: «В лето 6669 покладает Офросинья честный крест...» І манастыр вось збудавалі... (*С. Тарасаў*).

II. Асвяціўся божы твар на іконе. У Бога былі строгія вялікія вочы, якія пранізвалі душу навылёт, нібы стрэлы вояў князя Рагвалода Свіслацкага. Мірошка асцярожна стукнуўся лбом аб падлогу:

«Божа, выратуй душу прадзеда. Навошта ты яе зрабіў матыльком? Матылёк жа такі слабы, безабаронны. Яго можа кінуць у раку вецер, скляваць птушка. А град? А снег? Куды хаваюцца ўзімку матылькі? Божа, зрабі дзедаву душу лясным голубам або мядзведзем. Лепей мядзведзем, бо людзі паважаюць і баяцца яго» (*Л. Дайнека*).

III. Уяўленне пра светабудову Сімяон Полацкі даваў сучаснікам у трактаце «Венец веры кафолическия». Аўтар сцвярджае, што ёсць тры небы: самае высокае і нерухомае — эмпірэйскае, дзе знаходзяцца святыя і іншыя незямныя істоты; за ім — рухомае крышталёвае; потым нябесная цвердзь, якая падзяляецца на пояс нерухомых зорак і рухомых планет. Дапамагаючы ўявіць астранамічныя адлегласці, асветнік піша, што калі б мы ехалі ад зямлі да эмпірэйскага неба з хуткасцю 80 міляў у гадзіну, дык вандроўка доўжылася б 60 тысяч гадоў (*У. Арлоў*).

## Адзін ці некалькі галасоў: маналог, дыялог

**Паўтараем**

**Дыялог** — гэта простая мова, якая ўяўляе сабою размову дзвюх або некалькіх асоб. Выказванні асоб у дыялогу называюцца **рэплікамі**.

| Дыялог. Знакі прыпынку ў дыялогу | |
|---|---|
| **Рэплікі запісваюцца з чырвонага радка** | |
| **— $П_1$? — а.** | — А як жа адна, без абароны мужавай, жыць думаеш? — спытаў Святаслаў. |
| **— $П_2$... — а.** | — Як трава без абароны расце... — адказала Прадслава. |
| **— $П_1$?** | — У каго ж розуму вучыцца будзеш, як не ў мужа? |
| **— $П_2$.** | — У кніг, што мудрасць сабралі, як пчолы мёд (*У. Арлоў*). |

| Дыялог. Знакі прыпынку ў дыялогу | |
|---|---|
| **Рэплікі запісваюцца ў радок** | |
| **«$П_1$?» — «$П_2$». —**<br>**«$П_1$!» — «$П_2$».** | «Коля, ты баішся заходзіць у цёмны пакой?» — «Не». — «Тады зайдзі!» — «Пойдзем разам — і ты ўбачыш, што я не баюся» (*«Вясёлка»*). |
| **«$П_1$», — а.**<br>**«$П_2$?» — «$П_1$».** | «Запалі святло», — просіць Каця бабулю. «Навошта днём святло? Хіба ты не бачыш вушка ў іголцы?» — «Я бачу, але нітка не бачыць» (*«Вясёлка»*). |

**Пунктуацыйны трэнінг**

**199.** Знайдзіце ў сказах словы аўтара і простую мову. Падрыхтуйце паведамленне пра пунктуацыю ў канструкцыях з простай мовай. Запішыце тэксты, паставіўшы неабходныя знакі прыпынку.

I. Арсень раптам глуха ўспомніў як збіраў з бабуляй зёлкі і як тая сказала Вучыся старой песні. Памром. Ты будзеш яе спяваць а мне ў зямлі будзе лягчэй (*У. Караткевіч*).

II. АДКАЗ

Навошта ў куфрах хаваць уборы
Пытае этнограф,
А бабка ў гуморы
Адказвае
На клады
Мусім накіравацца
У апратцы
Сваёй жа працы
Каб нас пазналі дзяды... (*Р. Барадулін*).

III. На Беларусі Бог жыве Так кажа мой просты народ. Тую праўду сцвярджае раса ў траве і адвечны зор карагод (*У. Караткевіч*).

**Паўтараем**

**Маналог** (ад грэч. *monologos* з *monos* — адзін + *logos* — мова) — спецыфічнае маўленне, скіраванае да самога сябе, без разліку на слоўную рэакцыю іншай асобы. Характарызуецца адноснай разгорнутасцю, наяўнасцю складаных канструкцый, вытрыманай граматычнай афармленасцю.

**200.** Вызначце, у якім з тэкстаў выкарыстаны дыялог, а ў якім — маналог. Параўнайце будову маналагічнага і дыялагічнага маўлення.

I. — Усяго на свеце хапае. І чаго людзі паміраюць?

— Так, Адасё, шмат дадзена чалавеку на зямлі. Мільярд пачуццяў перажыць дадзена. Пах хлеба, сустрэча з першым буслам, провады

журавоў, укус пчалы... У кожным дні смерць і ўваскрэсенне, толькі трэба ўмець назіраць. Ёсць, на маю думку, тры найвялікшыя святы, якія цябе чакаюць наперадзе: каханне — свята душы, работа — свята розуму, смерць — свята цела. Мне самому, калі іх вызначыў для сябе, жыць зрабілася лягчэй... (*Г. Марчук*).

II. ШЧЫРАСЦЬ

— Мама,
Каб ператварыцца можна было
напрадвесні,
якою зрабілася б птушкай —
гускаю ці амялушкай?
— Песняй.
— Я пытаюся: птушкай —
вандроўнай або пералётнай,
лясной ці балотнай,
палявою, чаротнай?
— Роднай.
— Аляпкай?
Яна пад вадой і на сушы...
— Ты і без крылцаў дужы.
— Мама, а ўсё-ткі:
Птушкі гэтак высока.
Ты жураўліха ці соўка?
— Слоўка (*Д. Бічэль*).

**Працуем перакладчыкамі**

**201.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову.

— Учился я плохо и никогда этого себе не прощу: я был очень рассеян и ленив и недостаточно стремился побороть этот свой порок.

— Как же, — спрашивают, — при таком недостатке вы всё-таки научились и сделались достаточно известным мастером слова?

— Тому, о чём вы спрашиваете, научиться нельзя: тут дело не в выучке, даже не в мастерстве, а скажу: в поведении. Дело в том, чтобы встретить свой родной язык как друга, нужно было искать этой встречи... Я получил своё мастерство, как понимание законов языка, от своей матери, няньки, от школы и от всякого народа даром, как все. Не в мастерстве заслуга, а в поведении, в том, как страстно, как жадно метался я по родной земле в поисках друга, и когда нашёл его, то этот друг, оказалось, и был мой родной язык (*М. Пришвин*).

### Пунктуацыйны трэнінг

**202.** Прачытайце тэксты М. Танка. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Паразважайце пра сэнс выказванняў.

I.

Помню, аднойчы я ў полі прыкмеціў
Камень, які ўсіх перасцерагае:
«З простай дарогі крывая смяецца,
З лёгкай дарогі — цяжкая».
Павандраваўшы нямала па краю,
Сёння і я гэту праўду сцвярджаю.

II.

ПЕРАД СНОМ

— Накрыйце мяне рунню! —
просіць зямля.
— Накрыйце мяне зорным небам! —
просіць вада.
— Накрыйце мяне імглой! —
просіць лес.
— Накрыйце мяне цішынёй! —
просіць дарога.
А я перад сном:
— Накрыйце роднай песняй.

### Творчы практыкум

**203.** Акрэсліце сінтаксічную арганізацыю твораў, іх пунктуацыйнае афармленне. Паразважайце пра змест твораў.

I.

— З чаго пачаць?.. Пачну з радзімы.
Так абавязаны пачаць.
— Але ў яе ты не адзіны,
навошта пра любоў крычаць?

— Няхай, няхай я паўтаруся
ў любові тысячу разоў,
затое шчыра ў ёй клянуся,
без фальшу, без падробных слоў.

— Што ж, пачынай.
Сам выбраў долю...
Й нядоля знойдзецца сама.
Перад табое поле бою —
тут не адзін паэт сканаў (*А. Сыс*).

II. МОВА

Пасадзіў чалавек зярнятка.

І вырасла яно і прынесла багаты ўраджай.

І з'ехаліся да гэтага чалавека і цікаўныя, і вялікае начальства, і тыя, хто не ўмеў або не хацеў нічога рабіць.

І спыталі яны ўсе:

— А чаму ў цябе адно зярнятка ды так урадзіла?

— Бо зямля, мусіць, добрая.

— А што ж — у суседа твайго горшая?

— Ды не, не сказаў бы.

— Дык чаму ж так: у яго — нічагусенькі, а ў цябе — красуе ўсё?

— А вы не бачылі, дзе ён?

— Як дзе?! Вунь — спіць пад паветкай.

— Дык мне тлумачыць далей ці не?

Яго быццам і зразумелі ўсе, але раптам здзівіліся:

— А на якой жа ты мове гаворыш, чалавеча?

— Як гэта — на якой?! На сваёй.

— А як жа так? Вось мы ўсе — аднолькава: па-пісанаму ды па-вучонаму, а ты раптам — па-свойму? Хто гэта табе дазволіў?

— Дык на сваёй жа зямлі — і мова свая! Здавён так было. Ці не ведаеце?! — і ўсміхнуўся ім спагадліва і так адкрыта, быццам ніколі не быў там, дзе Макар і цялят не пасвіць.

Здагадваецеся, дзе?

І чаму? (*А. Кірвель*).

**Працуем карэктарамі**

**204.** Паразважайце над зместам прапанаваных тэкстаў. Растлумачце пастаноўку неабходных знакаў прыпынку.

I.
Я спытаў чалавека
Які прайшоў праз агонь
І воды
І медныя трубы
— Што самае цяжкое
На гэтым свеце?
І ён адказаў
Прайсці праз вернасць (*М. Танк*).

II.
— Ад чаго ты самотны бусел
У гняздзе над знямелай вёскай?
— Я сумую па Белай Русі
Дачарнобыльскай чыстаю чыстароснай.

— Ад чаго пачарнеў ты бусел
У палескім бары атрутным?
— Ад жалобы па Белай Русі
Зганьбаванай і шматпакутнай.
— Ад чаго пасівеў ты бусел
І чаму не ляціш ты ў вырай?
— Лепш памерці на Белай Русі
Чым чужыну назваць Радзімай (*Э. Акулін*).

**Працуем перакладчыкамі**

**205.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Запішыце, захоўваючы нормы беларускай мовы.

— Ты говоришь, что любовь, но я вижу только терпение и жалость.
— Так это же и есть любовь: терпение и жалость.
— Бог с тобой! Но где же радость и счастье, разве они осуждены оставаться за бортом любви?
— Радость и счастье — это дети любви, но сама любовь, как сила, — это терпение и жалость. И если ты теперь счастлив и радуешься жизни, то благодари за это мать: она жалела тебя и много терпела, чтобы ты вырос и стал счастлив (*М. Пришвин*).

## Цытуем і спасылаемся

**Паўтараем**

**Цытата** — даслоўная вытрымка з якога-небудзь выказвання, мастацкага, навуковага, публіцыстычнага тэксту, выкарыстаная ў пісьмовых ці вусных паведамленнях для пацвярджэння аўтарскай думкі або ілюстрацыі.

Асноўная сфера ўжывання цытат — пісьмовае маўленне. Цытаты выкарыстоўваюцца, як правіла, у навуковых працах, дакладах, лекцыях, рэфератах, сачыненнях, як эпіграфы да розных твораў і прац.

## Правілы пунктуацыйнага афармлення цытат

1. Калі цытата суправаджаецца словамі аўтара, то пунктуацыйна яна афармляецца як нявыказаная простая мова: *Вольга Іпатава пісала: «Не кожнаму даецца ў жыцці каханне, якое мацнейшае за смерць, за адлегласць, за ўсе перашкоды. Але кожная жанчына марыць аб ім, кож-*

*ная хоча быць адзінай — на ўсе гады, якія адпусціў Лёс, на ўсе выпрабаванні, на шчасце і няшчасце».*

**!** Цытата заўсёды суправаджаецца спасылкай на аўтара. У навуковай літаратуры інфармацыя аб аўтары выказвання ўказваецца ў дужках пасля цытаты, у зносцы ўнізе старонкі або ў канцы выдання: *А. Бельскі пісаў: «Эстэтычная крэда Г. Далідовіча бачыцца ў імкненні маляваць вобразы сваіх герояў псіхалагічна дакладна і змястоўна»* (*Бельскі, А. Покліч душы і памяці // Краса і смутак : дапам. для настаўнікаў. — Мінск : Маст. літ., 2000. — С. 86*).

2. Калі цытата ўводзіцца ў тэкст як арганічная частка сказа, то першае яе слова пішацца з малой літары, а сама цытата бярэцца ў двукоссе: *Вольга Іпатава пісала, што «кожная жанчына марыць аб ім [каханні], кожная хоча быць адзінай — на ўсе гады, якія адпусціў Лёс, на ўсе выпрабаванні, на шчасце і няшчасце».*

3. Пропуск слоў у цытаце ці абрыў цытавання абазначаецца шматкроп'ем: *Вольга Іпатава пісала, што «кожная жанчына марыць аб ім [каханні], кожная хоча быць адзінай...»; Вольга Іпатава пісала, што «не кожнаму даецца ў жыцці каханне... Але кожная жанчына марыць аб ім, кожная хоча быць адзінай...»*

4. Цытаты, прыведзеныя ў вершаванай форме і запісаныя ў слупок, у двукоссе не бяруцца: *Усе мы памятаем цудоўныя радкі Максіма Танка:*

*І радасць — ніякая радасць, а горыч,*
*І песня — ніякая песня, а скарга,*
*І страва — ніякая страва, а камень,*
*І брага — ніякая брага, а слёзы,*
*І сонца — ніякае сонца, а крыга, —*
*Калі ты на свеце ўсім гэтым*
*Не маеш з кім падзяліцца.*

**!** Калі вершаваныя цытаты падаюцца ў радок, яны афармляюцца ў адпаведнасці з агульнымі правіламі: *Творы Рыгора Барадуліна вучаць «быць як на споведзі перад сабой».*

5. Эпіграф пішацца прыкладна ад сярэдзіны радка і ў двукоссе не бярэцца. Пры гэтым спасылка на аўтара даецца без дужак ніжэй за эпіграф справа. Напрыклад, эпіграф да кнігі Э. Дубянецкага «Таямніцы народнай душы» аформлены так:

## Таямніцы народнай душы

Душа чалавека нятленная,
Неўміручая і свабодная.
*Св. Кірыла Тураўскі*

**206.** Складзіце і запішыце сказы з выслоўямі пісьменнікаў і мысліцеляў, афармляючы гэтыя выказванні ў выглядзе цытат. Прывядзіце выслоўі цалкам ці часткова, па-рознаму размяшчаючы ў іх словы аўтара. У словах аўтара пакажыце, каму належыць выслоўе і як вы адносіцеся да выказанай думкі. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

1. Радасць і любоў — вось чым адорвае чалавек усё навакольнае, вось чаго хочуць ад яго багі і што недаступнае чорнай сіле (*В. Іпатава*). 2. Каханне часта забірае розум у таго, хто яго мае, і дае тым, у каго няма (*Д. Дзідро*). 3. Вельмі малой надзеі дастаткова, каб выклікаць да жыцця каханне. Праз два-тры дні надзея можа знікнуць; тым не меней каханне ўжо нарадзілася (*Ф. Стэндаль*). 4. Каханне — гэта невядомая краіна, і мы ўсе плывём туды кожны на сваім караблі, і кожны з нас на сваім караблі капітан і вядзе карабель сваім уласным шляхам (*М. Прышвін*).

**207.** Перабудуйце сказ, паказаўшы, каму належыць выслоўе. Выкарыстайце сінанімічныя канструкцыі для перадачы чужой мовы (выказванні з простай, ускоснай мовай, з пабочнымі словамі, якія паказваюць на крыніцу паведамлення).

Калі чалавек, кожны чалавек, вельмі захоча зрабіць другому хоць маленькае дзіва — свет зробіцца светам дзіваў (*У. Караткевіч*).

### Рыхтуемся да дыктоўкі

**208.** Выразна прачытайце тэкст, захоўваючы вымаўленчыя нормы беларускай мовы. Дайце яму загаловак. Акрэсліце асноўную думку тэксту і правілы пунктуацыйнага афармлення цытат. Ахарактарызуйце спосабы перадачы чужой мовы.

Гукаперайманні — вельмі старажытная частка слоўніка кожнай мовы. Таму цікава ведаць, што нават у блізкароднасных мовах адны і тыя ж з’явы прыроды, адны і тыя ж гукі выклікаюць розныя асацыяцыі. Напрыклад, кнігаўка — птушка сямейства сяўцоў, якая жыве на балотах, сырых лугах, згодна з народным тлумачэннем крычыць: «Кні-гі». Чэхі, у якіх яна завецца kniha, чуюць у яе крыку «кні-кні». Такая ж птушка ў рускай мове (чибис) быццам бы пытаецца: «Чьи? Чьи вы?» Яшчэ

адзін прыклад. Беларускае слова «ка́ня» зараз абазначае драпежную птушку сямейства ястрабіных і кнігаўку. Больш старажытнае значэнне гэтага слова — першае, бо канюк, канюка, канюх — таксама каршун. У этымалагічным слоўніку адзначаецца, што ў старажытных славян словы *kan'a, *kan'ukъ абазначалі драпежную птушку. Назва мае гукаперăймальнае паходжанне, бо птушка «вымаўляе» своеасаблівы манатонны піск; дакучлівы крык яе нагадвае слова «піць». Адсюль, дарэчы, і дзеяслоў «канькаць» — выпрошваць са слязьмі, дакучліва прасіць, паўтараць адно і тое ж. Піск кані і кнігаўкі вельмі падобны, таму каняй называюць яшчэ і кнігаўку. Я. Купала пісаў:

Прытаіцца да моху русалка, лясун,
Ка́ня вечнага «піць» не заводзіць.

Гукаперайманне адлюстравалася і ў вельмі старажытнай назве птушкі «бугай». Начная балотная птушка сямейства чапляў была празвана так за тое, што вясной самец яе, апусціўшы дзюбу ў ваду, утварае вельмі гучныя гукі, падобныя да рову бугая. У Я. Коласа чытаем: «У балотах між лесу пераклікаліся бугаі, бухаючы, як у пустыя кадушкі» (*Паводле Л. Выгоннай*).

**209.** Напішыце пераказ, выкарыстоўваючы сказы з простай мовай. Вызначце тып тэксту. Дайце яму загаловак. Зрабіце сінтаксічны аналіз сказаў з простай мовай.

У XIV стагоддзі кіраваў Кобрынам князь Раман Фёдаравіч. Спакойна жылося ў той час тутэйшаму люду. Ды вось звесткі з захаду ляцяць: збіраецца польскі кароль заваяваць нашу зямлю. Выйшаў князь Раман да людзей:

— Бяда на нас рухаецца, кобрынцы!

Загадаў князь майстрам вакол горада будаваць невялікія вежкі. Дзень і ноч працавалі кобрынцы.

Вось ужо рушылі палякі ў паход, каб нашы землі заваяваць. Хутка да Берасця дайшлі. Адкрылі берасцейцы ім свае брамы. Узрадаваўся польскі кароль, паведаміў Раману Кобрынскаму:

— Я ўжо берасцейскую вежу ўзяў!

— Вежу ўзяў, — адказаў князь Раман, — дык яшчэ і вежкі мае пазабірай!

Бачыць польскі кароль, што без бою не здасць горада князь Раман, а ваяваць ужо стаміўся — вярнуўся ў Берасце.

Так маленькія вежкі нашу зямлю абаранілі. А каля іх утварылася вёска, якую назвалі Вежкамі (*Паводле А. Бензерука*).

### Слова пра словы

**Тапонімы** — назвы геаграфічных аб'ектаў (населеных пунктаў, абласцей, краін, вуліц, завулкаў, плошчаў, мораў, рэк, азёр, гор, нізін). Сукупнасць тапонімаў утварае **тапанімію** (*Г. Мезенка*).

**210.** Напішыце для школьнай газеты артыкул у навукова-папулярным стылі «Гісторыя роднай зямлі ў люстэрку тапаніміі». Ужывайце ў артыкуле вытрымкі з анамастычных, гістарычных і краязнаўчых прац. Выкарыстайце розныя спосабы цытавання. Эпіграфам да артыкула вазьміце выказванні вядомых вучоных і пісьменнікаў.

I. Помнікам духоўнай культуры асаблівага роду з'яўляюцца гістарычныя геаграфічныя назвы — імёны нашых гарадоў і весяў, вуліц і плошчаў, застаў і слабод. Тапанімікон народа ўяўляе сабою калектыўны твор народнага генію. Яны [геаграфічныя назвы] служаць арыенцірамі ў часе і прасторы, ствараючы гісторыка-культурнае аблічча краіны (*Д. Ліхачоў*).

II. Багатая на падзеі гісторыя нашага народа, працяглыя кантакты яго з суседнімі этнасамі абумовілі з'яўленне ўнікальнай сістэмы беларускіх назваў паселішчаў, якія разам са старадаўнімі дойлідскімі збудаваннямі, руінамі гарадзішчаў і замчышчаў з'яўляюцца неацэннымі сведкамі нашай мінуўшчыны (*В. Лемцюгова*).

**211.** Знайдзіце ў тэксце афарыстычнае выслоўе, акрэсліце асаблівасці ўключэння цытаты ў кантэкст. Успомніце выслоўі беларускіх пісьменнікаў пра Беларусь, беларусаў і родную мову, уключыце іх у сваё выказванне.

Беларусы змагаліся і змагаюцца, каб зберагчы і пасля ўпрыгожыць нашу маці-зямлю, абараніць азёры і нівы, сівыя пушчы і сінія воды, старадаўнія і новыя кнігі, сваю песню і слова, веды свае. Каб перадаць нашчадкам старадаўні прынцып, які прыйшоў аднекуль, але, перафразаваны, навекі стаў нашым: «Людзям — душа, жыццё — свайму дому, сэрца — жанчыне, гонар — нікому» (*У. Караткевіч*).

### Працуем перакладчыкамі

**212.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Запішыце, захоўваючы нормы беларускай мовы.

Как не все люди способны погрузиться в мир музыки или живописи, постичь их образы, точно так же далеко не каждый умеет читать. Ибо быть грамотным и уметь читать — совсем не одно и то же. Чтение художественной литературы, особенно поэзии, — своего рода творчес-

тво или по крайней мере сотворчество. Оно требует навыка и затрат внутренней энергии, но только творческое чтение доставляет истинное наслаждение, способствует духовному развитию человека. Недаром Владимир Набоков считал, что «хороший читатель, большой читатель, активный и творческий читатель — это перечитыватель». А Эмиль Фагэ утверждал: «Искусство читать — это искусство мыслить с некоторой помощью другого; читать — значит мыслить с другим, продумывать мысль другого, продумывать мысль, сходную или противоположную нашей». Каждый большой писатель заслуживает такого большого читателя. В их диалоге раскрывается истина о человеке и мире (*Я. Парандовский*).

**Правяраем сябе**

1. Што такое чужая мова? Ахарактарызуйце спосабы перадачы чужой мовы, прывядзіце прыклады. Ці можна назваць такія канструкцыі сінанімічнымі?

2. Што такое дыялог? Акрэсліце два спосабы перадачы дыялогу на пісьме.

3. Чым сказы з ускоснай мовай адрозніваюцца ад сказаў з простай мовай? Якімі правіламі трэба кіравацца, замяняючы простую мову на ўскосную?

4. Што такое цытата? Якія ёсць спосабы цытавання? Як афармляецца цытата на пісьме? У якіх стылях маўлення найчасцей выкарыстоўваюцца цытаты? З якой мэтай?

# ТЭКСТ

## Тэкст як сінтаксічная адзінка. Асноўныя прыметы тэксту

**Паўтараем**

**1) Што такое тэкст?** — Гэта выказванне, якое звычайна складаецца з групы сказаў, аб'яднаных сэнсам і граматычна.

**2) Якія прыметы мае тэкст?** — Тэкст характарызуецца наступнымі прыметамі: сэнсавай цэласнасцю, тэматычным адзінствам, звязнасцю, разгорнутасцю, паслядоўнасцю і завершанасцю.

Сэнсавая цэласнасць выяўляецца ў тэксце тады, калі сказы звязаны паміж сабой паводле сэнсу.

Тэматычнае адзінства праяўляецца ў тым, што ўсе сказы падпарадкаваны раскрыццю тэмы і асноўнай думкі тэксту.

Разгорнутасць сведчыць пра тое, што развіццё тэмы і выяўленне асноўнай думкі адбываецца з дапамогай падтэм.

Паслядоўнасць рэалізуецца праз тое, што кампаненты зместу размяшчаюцца ў пэўным парадку, а гэта стварае кампазіцыю тэксту.

**3) Што такое тэма і асноўная думка тэксту?** — Тэма тэксту — гэта тое, пра што гаворыцца ў тэксце. Асноўная думка — гэта тое галоўнае, што сказана ў тэксце.

**4) Што такое падтэмы тэксту?** — Гэта тэмы, якія існуюць поруч з адной галоўнай тэмай і аб'ядноўваюць сказы ў часткі тэксту.

**5) Што такое апорныя (ключавыя) словы ў тэксце?** — Гэта словы, якія маюць у тэксце асноўную сэнсавую нагрузку, з імі звязаны асноўны змест сказаў.

**213.** Вызначце, які сказ выражае асноўную думку тэксту. Выпішыце складаныя сказы, вызначце іх тып. Растлумачце знакі прыпынку ў бяззлучнікавых сказах.

Возера Доўгае, што ў Глыбоцкім раёне Віцебскай вобласці, самае глыбокае з усіх беларускіх азёр. На першы погляд, нічым адметным яно не вылучаецца: даўжыня — 6 кіламетраў, шырыня дасягае 700 метраў. Затое глыбіня — 53,7 метра! Каб па-сапраўднаму ацаніць, што значыць гэтая лічба, зірніце на 20-павярховы дом. Няшмат знойдзецца ахвотнікаў нырнуць у такую прорву, нават з аквалангам на спіне і апранутым у гідракасцюм. Без вадалазнага касцюма наогул не варта лезці — можна замерзнуць! Летнім днём вада на 20-метровай глыбіні праграецца ўсяго да пяці градусаў цяпла (*У. Ягоўдзік*).

**214.** Дакажыце, што дадзеныя сказы з'яўляюцца тэкстам. Якая тэма і асноўная думка паведамлення? Да прыведзеных сказаў падбярыце яшчэ некалькі і запішыце.

Людзі здаўна сяліліся ля вады. Усе вялікія гарады, паселішчы — побач з рэкамі, азёрамі, морамі, акіянамі. І назвы іх часта паходзяць ад рэк: Мінск, Віцебск, Полацк... Нават шматмільённае насельніцтва славян сваёй назвай абавязана рацэ Славуце, Славуцічу (старажытная назва Дняпра)... (*І. Матусевіч*).

**215.** Дакажыце, што перад вамі тэкст. Вызначце, які загаловак яму можна даць. Знайдзіце апорныя словы і словазлучэнні ў тэксце. Ахарактарызуйце складаныя сказы.

Бульба ў Беларусі была вядома ўжо ў першай палове XVIII ст., хаця заняла трывалыя пазіцыі сярод іншых культур толькі ў другой палове XIX ст. Да канца XIX ст. прыкметна пашырыўся і асартымент бульбяных страў. Бульба печаная, «у мундзірах», адвараная, пражаная, тушаная, пюрэ (тоўчанка), бабка (дранка), клёцкі, бліны і аладкі, супы і поліўкі — гэта далёка не поўны пералік страў з бульбы. Відаць, найбольш распаўсюджанымі з іх былі бульба адвараная (яе звычайна елі з кіслай капустай, шкваркамі, агуркамі, саладухай, сыраквашай), тоўчаная, запраўленая малаком, салам, алеем, грыбамі, а таксама супы — звычайны і малочны («забеленая бульба»).

Бульба ўжывалася вельмі шырока ў складзе іншых страў і ў якасці гарніраў. Да ліку ласых страў, вядомых у канцы XIX ст., адносіцца так званая бульбяная яешня, калі ў пюрэ-тоўчанку, запраўленую малаком і падсмятаненую, разбівалі 4-5 яек, перамешвалі і ставілі ў печ, «у вольны дух», пакуль на пюрэ не ўтваралася румяная скарынка. На ўсходзе Беларусі (Падзвінні і Падняпроўі) з тоўчанкі, у якую дабаўлялі муку, смятану, тварог, яйкі (часам тоўчаныя каноплі, мак), гатавалі асобыя перапечкі — бульбішнікі, ці гульбішнікі. Яны былі адным з любімых печываў у асяроддзі стараверaў. На Палессі была вядома і такая страва, як каплун; яе гатавалі, адцэджваючы вараную бульбу і дадаючы ў цэжу скарынкі хлеба, цыбулю, соль, перац (*В. Цітоў*).

**216.** Вызначце, што складае змест тэксту. З якой мэтай ён створаны? Да якога тыпу маўлення ён адносіцца? Акрэсліце ролю складаных сказаў у ім.

Самай вялікай ракой на свеце лічыцца афрыканскі Ніл. Разам з прытокам Кагерай ён выцягнуўся аж на 6695 кіламетраў. У Еўропе

першынство трымае Волга — ад вытоку да вусця яе даўжыня 3531 кіламетр. Зразумела, такімі адлегласцямі нам, беларусам, пахваліцца не выпадае. Аднак дастаткова зірнуць на геаграфічную карту, каб пераканацца: сваёй выявай Беларусь нагадвае чалавечую далонь, уздоўж і ўпоперак спярэшчаную рэкамі-маршчынкамі. Па тэрыторыі нашай краіны цячэ амаль 21 тысяча рэк і ручаёў, агульная даўжыня якіх больш за 90 тысяч кіламетраў. Калі злучыць іх у суцэльную блакітную стужку, дык можна аперазаць планету па экватары. І нават не адзін раз, а двойчы! (*У. Ягоўдзік*).

### Працуем перакладчыкамі

**217.** Прачытайце тэкст. Ці ўласцівы яму такія прыметы, як сэнсавая цэласнасць і тэматычнае адзінства? Калі так, то за кошт чаго яны выяўляюцца? Падбярыце да тэксту загаловак, які адлюстроўваў бы яго тэму. Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Складзіце план тэксту і перакажыце яго.

Ледники, отступая с территории Беларуси, образовали огромные моря-озёра, которые могли стекать только в сторону Чёрного моря. Так на Полесье появилось пресноводное море Геродота.

Существование крупного водоёма, который можно было бы назвать морем, подтверждают находки якорей на сельскохозяйственных полях бассейна Припяти. Наверное, по морю Геродота в древности плавали не только простые лодки, подобные казацким чайкам или дубам, но и настоящие корабли, которые нельзя было вытащить на берег, а приходилось заякоривать на глубине.

В своё время Припять с притоками Пиной, Ясельдой, Ланью, Случью, Птичью являлась важнейшим участком пути «из варяг в греки». К сожалению, историки позабыли о нём, сведя все связи между Балтикой и Чёрным морем к не самому короткому и удобному варианту пути через Неву, Ладогу, Ловать, Двину и Днепр.

А ведь Припять вместе с Днепровско-Бугским каналом до последнего времени оставалась главной и довольно оживлённой водной магистралью, по которой перевозились тонны криворожской руды, микашевичского гранита, солигорских удобрений, полесского леса и других грузов.

В 20-е годы XX века существовала Припятская военная флотилия, насчитывающая до 88 судов. В 30-е на Припяти базировалась Днепровская флотилия, с 1940 года — Пинская военная флотилия, имевшая

около 200 кораблей и участвовавшая во многих боях Великой Отечественной войны, в том числе и в Берлинской операции (*Э. Самусенко*).

**218.** Вызначце, які сказ выступае зачынам у тэксце і які сведчыць, што тэма вычарпана. Зачытайце сказы, што развіваюць думку. Дакажыце, што гэты тэкст з'яўляецца апісаннем.

Узышлі на другі паверх службовага белацаглянага корпуса і патрапілі ў офіс. Гэта быў аб'ёмісты квадратны пакой з вялікімі вокнамі, са стыльнай канторскай мэбляй — масіўнымі паліраванымі сталамі на тумбах і зручнымі мяккімі крэсламі-круцёлкамі з падлакотнікамі. На сталах стаялі камп'ютары, тэлефоны, аўтафакс, ксеракс, прыгожыя вазачкі з дзюбатымі пукамі ручак і алоўкаў, ляжалі стосы беласнежнай паперы, даведнікі і календары, каробачкі з кнопкамі і сашчэпкамі. Усцяж сцен у прасторных зашклёных шафах, строга паблісквaючы металічнымі колцамі, захоўваліся папкі з разнастайнай службовай дакументацыяй. Ва ўсім адчуваўся сучасны гаспадарніцкі практыцызм. Неабходная для працы рэч павінна займаць вызначанае ёй месца і заўсёды быць пад рукой (*Л. Дайнека*).

**219.** Спішыце, расстаўляючы знакі прыпынку. Дапішыце тэкст сваімі сказамі, якія яго сэнсава пашыраюць, не разбураючы цэласнасці і тэматычнага адзінства.

Чым далей ішоў час тым больш прафесія рабіла Надзю ўспрымальнай да гукаў прыроды і чалавечых галасоў. Нават не пеўчых а звычайных жыццёвых. Як спявачка яна была пераканана што голас можа расказаць пра чалавека ўсё. Нібы камп'ютар ён захоўвае ў сваёй памяці гісторыю жыцця ён маленькая мадэль адлюстраванне ўнутранай канструкцыі асобы. Інтанацыя нібы чулы сейсмограф фіксуе шчырасць ці фальш душэўных памкненняў (*Т. Мушынская*).

**Рыхтуемся да дыктоўкі**

**220.** Вызначце тэму тэксту. Зачытайце сказ, які адлюстроўвае асноўную думку тэксту. Спішыце тэкст, афармляючы яго ў адпаведнасці з арфаграфічнымі і пунктуацыйнымі нормамі.

Надзя заўсёды лічыла сябе чалавекам успрымальным да гукаў мовы. А калі пачала выконваць творы не толькі на італьянскай мове якую ведала яшчэ (*з/с*) кансерваторыі але і на францу..кай, нямецкай гэта таксама падавалася асалодай. Спяваючы вакальную лірыку францу..кіх кампазітараў яна а..чувала сябе француженкай. Адметнасць

нямецкай мовы прымушала яе а..чуць сябе нямецкай фрау. Фанетыка мовы нейкім дзіўным таемным чынам звязана з агульным духам нацыянальнай культуры з тэмай наогул ракурсам успрымання жыцця. У чым гэта сувязь Надзя не магла сказаць але (*у/ў*) тым што яна ёсць не сумнявалася ні хвіліны (*Т. Мушынская*).

## Спосабы і сродкі сувязі сказаў у тэксце

**Паўтараем**

Сказ падзяляецца на дзве часткі — тэму і рэму. **Тэма** — частка сказа, у якой называецца вядомы з папярэдняга кантэксту прадмет выказвання. **Рэма** — частка сказа, у якой моўца паведамляе нешта новае адносна гэтага прадмета.

Рух думкі ад вядомага да невядомага — ад тэмы да рэмы — адбываецца не толькі ў сказе, але і ў тэксце. Новая інфармацыя ў тэкст уводзіцца паступова. Пры гэтым захоўваецца пры звязным маўленні штосьці дадзенае, ужо вядомае.

У тэксце назіраюцца два спосабы руху думкі ад тэмы да рэмы. Пры першым новае, або рэма папярэдняга сказа, становіцца тэмай наступнага сказа. Паміж самімі ж сказамі ўзнікае **паслядоўная сувязь**. Згаданы рух думкі назіраецца ў наступным тэксце: *Людзі сярэдняга пакалення, тыя, каму сёння за сорак, магчыма, памятаюць летувіскі кінафільм, які прайшоў на экранах гадоў 30 назад. Называлася гэта стужка «Геркус Мантас» і распавядала аб прусах — балцкім народзе, які некалі жыў на захадзе сучаснай Летувы і на тэрыторыі сучаснай Калінінградскай вобласці Расіі, — і іх апошнім праваднырy. Часткова знішчаныя крыжакамі, часткова асіміляваныя немцамі, прусы зніклі, «падарыўшы» сваім заваёўнікам імя, якое перайшло ў назву германскай дзяржавы — Прусія. З цягам часу дзяржава гэта стала адной з самых магутных у Еўропе* (*С. Асіноўскі*). У тэксце сказы звязаны пры дапамозе слоў: *кінафільм — стужка*; *аб прусах* (*балцкім народзе*) *— прусы*; *Прусія — дзяржава.*

У звязным маўленні можа назірацца і **паралельная** сувязь. Пры ёй у кожным новым сказе пра адзін і той жа прадмет думкі паведамляецца новая інфармацыя. Напрыклад: ***Дабрыня**, веру я апантана, гэта тая каштоўнасць, якая перамагае ўсё: жорсткасць, сквапнасць, двудушнасць, неразуменне і недавер...* ***Дабрыня** асвятляе душу.* ***Дабрыня** — гэта стрыжань спрадвечны, на якім трымаецца чалавецтва* (*Паводле А. Асташонка*). Паралельная сувязь выяўляецца і тады, калі кожны

сказ мае сваю тэму, у адносінах да якой выяўляецца свая рэма: *Зарніца над горкай памірае. Цені атуляюць увесь абшар. Над млынам і возерам падымаецца густы туман. Робіцца ціха ў ваколіцы. Нямее ўся зямелька, як бы прыслухоўваецца да няясных зыкаў ночы* (*З. Бядуля*).

**221.** Разгледзьце табліцу і прыклады тэкстаў, змешчаных пад ёю. Знайдзіце адпаведнасць паміж відамі сувязі, яе асноўнымі сродкамі і тэкстамі, дзе яны выяўляюцца.

| Від сувязі | Асноўныя сродкі сувязі | Механізм сувязі |
|---|---|---|
| Паслядоўная | 1) указальныя і асабовыя займеннікі, прыслоўі;<br>2) паўтор слоў у розных сінтаксічных функцыях;<br>3) сінонімы;<br>4) злучнікі | Зачапленне |
| Паралельная | 1) аднолькавы парадак слоў;<br>2) аднатыпныя граматычныя формы дзеясловаў-выказнікаў;<br>3) займеннікі;<br>4) анафара;<br>5) паўтор слоў у розных сінтаксічных функцыях;<br>6) злучнікі | Паралелізм |

I. Адзін старажытнарымскі гісторык перадае такое паданне аб тым, як вынайшлі пергамен. У горадзе Пергаме нібыта захацелі стварыць бібліятэку, якая зацьміла б славу александрыйскай у Егіпце. Александрыйская была тады найбагацейшая ў свеце — у ёй налічваліся тысячы і тысячы розных кніг. Егіпецкі цар, дачуўшыся пра гэта, забараніў вывозіць папірус у суседні Пергам. Але майстры горада знайшлі выйсце. Яны пачалі вырабляць скуры так, каб на іх можна было пісаць. Дзякуючы гэтаму ў Пергаме была створана вялізная бібліятэка. А новы пісьмовы матэрыял нібыта з той пары пачаў называцца ад імя горада — пергамен (*А. Клышка*).

II. Спачатку Марыля не зрабіла асаблівага ўражання на Адама Міцкевіча. Але паступова, сустракаючыся з ёй пад раскідзістым голлем туганавіцкіх ліп, чытаючы разам раманы Жан-Жака Русо і Гётэ, разважаючы з ёй пра літаратуру, пра жыццё, слухаючы яе ігру на фартэпіяна, ён адчуў, як цягне яго да гэтай мілай і непасрэднай паненкі, як хочацца яму слухаць яе голас, яе смех (*К. Цвірка*).

III. Першае буйное сутыкненне качэўнікаў з нашымі продкамі ў раннія летапісы не ўвайшло. Але ў гістарычных крыніцах XVI стагоддзя адзначаны год 1249-ты. Менавіта тады пад Крутагор'ем (цяпер Дзяржынск) войска ардынцаў пад кіраўніцтвам хана Койдана сутыкнулася з беларускімі ваярамі, якіх узначальвалі Скірмунт і Ракутовіч. Мангола-татары былі разбітыя ўшчэнт, а Крутагор'е ў памяць аб жорсткай сечы сталі называць Койданавам (*С. Асіноўскі*).

IV. Але Свіцязь для нас не толькі цудоўны куток прыроды. Свіцязь — сімвал паэзіі вялікага Адама Міцкевіча, які быў непарыўна звязаны з роднай зямлёй. Свіцязь — калыска яго натхнення, адна з яго муз (*К. Цвірка*).

V. Але мінуліся веснавыя дні. У пагодзе зрабілася вялікая змена; пачалася суш. Заныў луг, пажаўцелі груды, цяжкія пачаліся часы. Рыжыя мурашкі хадзілі як непрытомныя, не ведаючы, за што ўзяцца. Пчолкі, чмелікі званілі яшчэ жудасней, яшчэ нудней, пралятаючы над лугам і не знаходзячы сабе пажытку. Толькі авадні і сляпцы красаваліся і паганым звонам рэзалі сэрца. Конікі пазмаўкалі і толькі вечарамі распачыналі сваю жальбу (*Паводле Я. Коласа*).

**222.** Прачытайце тэкст. Вызначце стыль і тып маўлення. Дакажыце сваю думку. Вызначце, якой сувяззю (паслядоўнай ці паралельнай) звязаны паміж сабой сказы ў тэксце.

Былая вёска Крупцы даўно трапіла ў гарадскую рысу Мінска. Цяпер тут раскінуўся сучасны мікраёраён з прыгожаю назвай Вяснянка. Больш за дваццаць гадоў я жыву ў Вяснянцы, таму добра ведаю наваколле. Амаль штодня хаджу па ваду, якая цурчэла каля праспекта Пераможцаў з абхарошанай барэльефам металічнай трубы. Прынясу дамоў — сам нап'юся, пачастую сяброў... Калісьці ў Крупцах было шматлюдна ад вернікаў. Яны прыходзілі з усіх куткоў Мінскай губерні, каб пакланіцца абразу Божай Маці, які ў 1612 годзе аб'явіўся на дне крыніцы. Потым выявілася, што крынічная вада дапамагае пазбавіцца ад многіх хвароб, вяртае аслеплым людзям зрок. Найбольшую моц яна мела ў маладзіковыя тыдні... З часам над вытокам узнікла драўляная каплічка. У сярэдзіне XIX стагоддзя, дзякуючы ахвяраванням, на яе месцы быў збудаваны храм. Калі ж у наступным, XX стагоддзі ўладу захапілі бальшавікі, царкву ў 1936 годзе дазвання разбурылі, а Крупецкі абраз Божай Маці невядома куды знік. І ўсё-такі атэісты не здолелі знішчыць галоўную святыню — жывую крыніцу. Яна па-ранейшаму бруілася з зямлі, збіраючы да сябе набожных людзей. І ўрэшце вярну-

ла страчаны духоўны зрок іхнім нашчадкам! У самым канцы нядаўна мінулага стагоддзя ў Крупцах паўстаў велічны сабор. Скажыце, хіба нельга назваць цудам непераможнасць святыняў? На жаль, пару гадоў таму, калі паблізу распачалося шалёнае будаўніцтва, крупіцкая крыніца зноў замаўчала... (*У. Ягоўдзік*).

**223.** Дайце загаловак тэксту. Вызначце яго стыль і тып маўлення. Назавіце сродкі сувязі паміж сказамі. Вызначце сінтаксічныя функцыі слова «хлеб».

Ва ўсе часы хлеб сімвалізаваў дабрабыт, хлебасольства, гасціннасць. На стале ў хаце павінен быў ляжаць хлеб, пакрыты ручніком, які сустракаў і вітаў гасцей. Хлеб гатавалі звычайна на тыдзень. Рашчынялі яго ўвечары перад тым днём, у які пяклі. Жытнюю муку сеялі праз сіта і сыпалі ў дзежку. Дадавалі вады, размешвалі, атрымліваючы не вельмі густое цеста. Каб цеста ўкісла і добра падышло, дзежку накрывалі векам, а зверху прыкрывалі яшчэ якой-небудзь адзежынай і ставілі на ноч у цёплае месца. Квасілі цеста з дапамогай рошчыны, невялікага кавалачка цеста, пакінутага на дне дзежкі ад папярэдняй выпечкі.

Раніцай у цеста сыпалі муку, дадавалі солі і кулакамі мясілі. Каб цеста добра адставала ад рук, рукі перыядычна змочвалі вадой. Калі цеста рабілася цягучым і не прыставала да рук, значыць, яно было вымешана належным чынам. Яго зноў пакідалі ў дзяжы, каб вырасла, што звычайна адбывалася праз паўтары ці дзве гадзіны, калі месца было цёплым, а дзяжа добра накрытай (*Т. Навагродскі*).

**224.** Вызначце стыль тэксту. Устанавіце, якія сказы ў тэксце звязаны паслядоўнай сувяззю. Назавіце сродкі сувязі сказаў. Раскажыце пра сучасныя сродкі перадачы інфармацыі.

Людзі здаўна заўсёды пісалі тым, што магло пакінуць след: на камені выбівалі зубілам, на метале вырэзвалі разцом, на гліне выціскалі знакі завостранаю палачкаю.

На папірусе пісалі, абмакнуўшы ў чарніла, трысняговаю або драўлянаю палачкаю. У самыя даўнія часы трысняговую сцяблінку проста зразалі наўскос, а пазней людзі дадумаліся завострываць яе з двух бакоў — такое «пяро» пакідала больш тонкі след. Канец «пяра» расшчаплялі папалам.

Што да чарніла, то даўней яно часта было падобнае да таго, якім пісалі нашы дзяды ці бацькі ў гады вайны, калі вучыліся ў партызанскіх «зялёных школах». Чарніла з сажы. Да яе дадавалі яшчэ і вішнёвага

клею — камедзі. Выраблялі чарніла таксама са спаленых касцей, з костачак садавіны (*А. Клышка*).

**225.** Падбярыце да тэксту загаловак. Вызначце тэму. Перабудуйце тэкст, замяніўшы складаныя сказы простымі. Які від сувязі назіраецца ў ім — паслядоўны ці паралельны?

На першы погляд, гэта здаецца неверагодным, але расліны сапраўды любяць музыку і нават у ёй «разбіраюцца»! Як паказалі доследы, дзякуючы гукавым хвалям, якія ўтвараюцца пры гучанні класічнай музыкі, насенне лепш прарастае, у раслін актывізуецца выпарэнне, наладжваюцца працэсы дыхання. А вось рок-музыка прыводзіць да адваротнага дзеяння. Відаць, расліны ўспрымаюць яе не больш чым раздражняльны іх шум, якога яны вельмі не любяць. Даўно заўважана, што калі з аднаго боку ў раслін з'яўляецца які-небудзь раздражняльнік, тая ж музыка, то яны паступова пачынаюць паварочваць свае галоўкі ў супрацьлеглы бок ад яго (*А. Бадак*).

**226.** Прааналізуйце кампазіцыю апісання. Вызначце, які спосаб сувязі сказаў выкарыстаны ў тэксце. Выпішыце словы, якія з'яўляюцца сродкамі сувязі сказаў.

Пугач — адна з буйнейшых соў не толькі нашай, але і сусветнай фаўны. Размах яго крылаў у асобных выпадках можа дасягаць амаль што двух метраў. Афарбоўка рыхлага густога пер'я — ад бурага да светла-рудога з чорным стракатым малюнкам на кожным пяры. Як і ва ўсіх соў, пер'е пугача акрамя цвёрдых пругкіх бародак мае мяккае пуховае адзенне, якое заглушае паветраныя патокі і робіць палёт гэтай птушкі абсалютна бязгучным. Усё гэта разам са своеасаблівым знешнім выглядам — немігаючы погляд бяздонных аранжавых вачэй, вушкі-пер'е на вялікай круглай галаве, вострая драпежна выгнутая дзюба і кіпцюры — робіць пугача падобным да нейкіх казачных істот. Нездарма вядомы шведскі натураліст Ян Ліндблад параўноўвае яго з героямі скандынаўскага эпасу — гномамі і тролямі (*С. Зуёнак*).

**227.** Вызначце асноўную думку тэксту. Знайдзіце сказы, звязаныя паралельнай сувяззю.

Вобразная сістэма любога твора ўяўляецца аграмаднай глыбіннай сферай з моцнымі падводнымі сэнсавымі плынямі. На аснове слоўнага матэрыялу — іншай рэчаіснасці ў творы няма — узнікае своеасаблівы духоўны «аб'ём», што мы называем вобразным светам твора. І між яго слоўнай абалонкай, кантэкстам і самой гэтай вобразнай сутнасцю цяж-

ка бывае прасачыць непасрэдныя лагічныя сувязі, усё тут апасродкавана і складана. Гаворачы крыху схематычна, літаратура — гэта структура структур. Мова ў дачыненні да яе — гэта ў пераважнасці сваёй ніжэйшая знакавая сістэма, будаўнічы матэрыял для больш складанай, вобразнай сістэмы, якой аперыруе літаратура.

Мова найбагацейшая і, можа, найбольш таямнічая вобразная з'ява. Яна па-свойму таксама вобраз — дзівосны, мазаічны вобраз свету. Яна ўвабрала ў сябе, захавала як дзіўную памяць пакаленняў вынікі ўсёй вялізнай інтэлектуальнай дзейнасці і вопыту народа.

І тым не менш вобраз, заключаны ў слове, не з'яўляецца літаратурным вобразам у непасрэдным сэнсе слова. У мастацкім вобразе слова паварочваецца, пераасэнсоўваецца мастаком кожны раз па-новаму, канкрэтызуецца згодна з задумай твора. У кожным слове жыве бездань значэнняў — ад канкрэтных, бытавых, прывычных да самых далёкіх, пераносных, абстрактных (*А. Яскевіч*).

**228.** Вызначце від сувязі сказаў у тэксце. Падкрэсліце словы, якія з'яўляюцца сродкамі сувязі сказаў. Як называюцца выдзеленыя словы?

Справа ў тым, што старабеларускі **шнур** абазначаў даўжыню 48,7 метра, а нашай сядзібы было ўсяго якіх 40 метраў шырыні, гэта значыць няцэлы шнур. І то ж на хутары! А паверхні ўсяе нашай «палоскі» — 10 квадратных шнуроў (каля 2,5 га). Столькі «бацькаўшчыны» ў спадчыне дасталося майму татку. І чаго дзівавацца, як моцна даражыў ён не толькі сваім няцэлым шнуром, але і яго **прутом** (даўжыня — 4,87 м, плошча — 23,7 кв. м), **локцем** (даўжыня — 65 см, плошча — 0,362 кв. м), **пруцікам** (даўжыня — 48,7 см, плошча — 0,237 кв. м), нават **цалем** (даўжыня — 2,7 см, плошча — 7,3 кв. см). Пра **валоку** (плошча яе — 30 маргоў = 9000 кв. прутоў = 67 500 кв. локцяў = 21,36 га) уся радня магла толькі сніць, як пра незабыўны, казачны сон, аддалены ад іх за сямю гарамі ды за сямю морамі, куды ні вокам заглянуць, ні думкай сягнуць. Наяве ж усе тры браты — Раман, Міхал і Антон — мусілі задавольіцца тады супольнай купляй шнура (каля чвэрці гектара) сенакосу (*М. Гайдук*).

**229.** Вызначце стыль тэксту. Абгрунтуйце сваю думку, аналізуючы мову ўрыўка. Вусна перакажыце яго. Які спосаб сувязі сказаў выкарыстаны ў тэксце? Падкрэсліце моўныя сродкі, якія дапамагаюць звязаць сказы паміж сабой.

Звычайнае «мяккае» слова — «валёнкі», але азначае яно выратаванне ад холаду, марозу. Валёнкі — гэта тыя ж боты, але не пашытыя

са скуры, а зваляныя, выбітыя з воўны, лямцу. Адсюль і назва гэткая простая. Проста і цёпла! Яшчэ можна пачуць назву «катанкі», бо выбіваць — тое самае, што выкатваць. Вырабам валёнкаў займаюцца валюшныя майстры. Валёнкі робяць з воўны — чорнай, шэрай і белай. Калі воўна чэсаная, дык і назва для валёнкаў свая — чосанкі. Яны з'явіліся яшчэ ў XVIII ст. Святочныя валёнкі робяць узорыстымі (вышываюць ніткамі з каляровай воўны). Іх носяць мужчыны, жанчыны і дзеці (*У. Юрэвіч*).

**230.** Спішыце тэкст. Падкрэсліце словы, якія звязваюць часткі сказаў і самі сказы паміж сабой. Якія з іх выступаюць выразнікамі паралельнай сувязі ў тэксце?

Драўляне — яшчэ адно славянскае племя, якое зрабіла свой унёсак у фарміраванне беларускага народа. Яны жылі сярод густых лясоў на правым беразе Прыпяці, а таксама на берагах рэк Цецераў, Уж, Убарць, Сцвіга. На левым беразе той жа Прыпяці жылі дрыгавічы. Падзеленыя натуральнай воднай мяжой, суседзі суіснавалі ў міры. У іх былі сходны побыт, звычаі і звычкі, якія вызначала шмат у чым мясцовасць, выбраная некалі бацькамі абодвух плямёнаў для рассялення і жыцця (*І. Масляніцына, М. Багадзяж*).

## Сэнсава-лагічная частка і абзац у тэксце

**Паўтараем**

У тэксце вылучаюцца як сэнсава-лагічныя часткі, так і абзацы. Яны падобныя адно да другога, і разам з тым адрозніваюцца паміж сабою. Абзац арганізуе тэкст кампазіцыйна. Ён выконвае таксама выдзяляльную і экспрэсіўную функцыі. Сэнсава-лагічная частка аб'ядноўвае сказы перш за ўсё паводле сэнсу. Таму абзац можа супадаць з ёю, але можа і разрываць яе.

Абзац можа складацца і з аднаго сказа, сэнсавая частка — не менш чым з двух самастойных сказаў. Апошняя характарызуецца завершанасцю падтэмы, сэнсавай і сінтаксічнай звязанасцю.

**Паслухаем мовазнаўцаў**

**231.** Вызначце стыль тэксту. Перакажыце яго.

Чляненне тэксту на абзацы робіць выказванне лагічна цэласным, дапамагае лягчэйшаму ўспрыманню аўтарскай думкі. Асабліва даклад-

ным адзінствам і паслядоўнасцю характарызуюцца абзацы ў навуковых творах і афіцыйна-справавых дакументах. Тут звычайна ў пачатку абзаца выказваецца асноўная думка, а потым даецца больш дэталёвае тлумачэнне, якое падмацоўваецца аргументамі, доказамі, прыкладамі, цытатамі.

Абзац у навуковым і справавым маўленні будуецца па лагічным плане: ад агульнага да прыватнага, ад сцвярджэння да доказу, ад прычыны да выніку.

У мастацкім стылі абзац звычайна заснаваны на прынцыпах эмацыянальнага або лагічнага падкрэслівання, вылучэння. Пісьменнік афармляе ў абзац, як правіла, тыя часткі, якія ён хоча вылучыць, каб уздзейнічаць на чытача ў патрэбным напрамку.

У мастацкіх і публіцыстычных творах кампазіцыйнае значэнне абзацаў адчуваецца асабліва выразна. Тая ці іншая будова абзацаў тут — гэта праява індывідуальнай аўтарскай манеры, а сінтаксічная структура ўнутры абзацаў раскрывае працэс фарміравання творчай думкі пісьменніка (*М. Цікоцкі*).

**232.** Прачытайце тэкст. Акрэсліце прынцыпы, на якіх заснавана вылучэнне аўтарам абзацаў. Ці адпавядаюць яны сэнсава-лагічным часткам тэксту?

Даследчыкі неаднойчы адзначалі: у жылах гарадчукоў цячэ і ўсходняя, і заходняя, і нават паўднёвая кроў.

Трэба думаць, ёсць кропля і яцвяжскай — невыпадкова ж Адам Кіркор паведамляў, што ў Давыд-Гарадку некалі жыў старэйшына яцвягаў.

Каб зразумець сённяшніх жыхароў Гарадка, варта ўспомніць колішніх яго людзей; варта згадаць, што хрысціянства ўсходняга закону, узбагачанае прымхамі, увайшло ў характар, сталася ладам іхняга жыцця.

Татарская культура агародніцтва, габрайскае ўменне гандлю, украінская песеннасць, польская хітрасць і палеская запаволенасць, спалучаныя з беларускай цярплівасцю і працавітасцю, і стварылі гарадзенскі характар.

А яшчэ памагла зямля з вадою: зямлі было мала, вады багата. Зямля цанілася так высока, што не пуставала і пядзі, засейваўся кожны лапік, нават кавалак вуліцы і то часцяком прыразаўся да гарода.

Старыя людзі маліліся на зямлю і казалі, што гэта капітал, які не гарыць і не тоне (*Паводле Л. Дранько-Майсюка*).

**233.** Параўнайце тэксты розных аўтараў. Вызначце асаблівасці падзелу тэкстаў на абзацы. Пакажыце мэтазгоднасць такога члянення.

I. Ноччу была навальніца: гром над морам і стук дажджу па вялікіх лістах смакоўніцы.

Зранку хмары, яшчэ ўсё цёмныя, ішлі з мора на горы. Там, над вяршынямі, неба святлейшае, нават не-не ды пакажацца сонца. На захадзе — рэзка акрэсленая лінія марскога далягляду. На цёмнай вадзе — белыя баранчыкі, на цёмным небе — белыя чайкі.

Свежа, духмяна, прыгожа (*Я. Брыль*).

II. Усё лета перад хатай Чарнушкаў ціха грэлася на сонцы маладзенькая, з тонкім, як дубец, камлём рабіна. Ніхто ў Куранях, бадай, не заўважыў, калі і хто пасадзіў яе, не бачылі як трэба яе і тады, калі яна красавіцкай раніцай апранулася ў лёгкае празрыста-зялёнае плацце з кволых, рэзных лісточкаў. Дні за днямі цікаўна, але нясмела глядзела яна на вуліцу, на ўсіх, хто праходзіў міма, — сціплая, непрыкметная за нязграбным плотам, блізка ад вялікіх дрэў. Ніхто не даваў ёй ніякай увагі, мылі яе, песцілі толькі цёплыя дажджы ды любілі шумець маладым лісцем вятры. Людзі ж яе як бы не заўважалі, спачатку таму, што проста не прыкмецілі, а потым таму, што непрыкметна прывыклі.

І неспадзявана адбылося незвычайнае: ціхая, нявідная, у жнівеньскім росквіце рабіна заружавела, зазырчэла яркім, кідкім харастом, гарачым полымем агністых гронак. І не адны вочы, не абыякавыя, не ачарсцвелыя ў жыццёвых пакутах да хараства, глядзелі здзіўлена, зачаравана: «Глядзі ты!...» (*І. Мележ*).

**234.** Падбярыце да тэксту загаловак. Якая асноўная думка абгрунтоўваецца ў тэксце? Ці можна ў ім вылучыць такія структурныя кампаненты, як тэзіс, доказы, вывады? Выпішыце складаныя сказы і вызначце іх тып.

Людзі звычайна ўжываюць прыказкі і прымаўкі для ўпрыгожання гаворкі, для «культурнасці», калі хочуць выказацца прыгожа, складна, не абы-як. Прыказка, як узор на кашулі-вышыванцы, ажыўляе, расквечвае, узбагачае выказванне падтэкставымі намёкамі, ператварае інфармацыю ў самавыяўленне асобы, гаворку ў зносіны характараў, а не інфарматараў. Прыказка дасціпна, трапна, часта іншасказальна згушчае ісціну, сцвярждае і дае ацэнку з'явы, падзеі, узаемаадносін, перажыванняў. Думка, ператвораная ў прыказку і аздобленая ёю, ярчэй зіхаціць, закранае розум і бярэ за сэрца, выпрабоўвае здагадлівасць, кемнасць, досціп.

Прыказка закранае слухача, здзіўляе яго незвычайнай змястоўнасцю, згушчанасцю думкі пры сцісласці слоў, трапнасцю выяўлення сутнаснага ў прадмеце, лагічнай сувязі ў адносінах, чагосьці таемнага ў пачуццях. Кандэнсацыя думкі, зграбнасць формы, лаканізм і падтэкставае багацце, мудрасць высновы «сказаў як звязаў» — вось сакрэты, пры дапамозе якіх палоняць і пераконваюць нас залатыя словы прыказак. Разумнасць прыказкі мы прымаем крытычнай галавой, фантазлівасць — адкрытым сэрцам, узбуджаным уяўленнем, якое радуецца азаронасцю палёту ў незнаёмае, дзе чалавек сам для сябе нечакана адкрые нешта новае і ўсведамляе сябе асобай разумнай (*У. Калеснік*).

**235.** Сфармулюйце тэму і асноўную думку тэксту. Абгрунтуйце падзел тэксту на абзацы. Ці адпавядаюць вылучаныя абзацы сэнсава-лагічным часткам тэксту? Вусна перадайце змест фрагмента.

Жыццё бы той гасцінец, па якім праходзім вярсту за вярстою.

Губляемся паміж гоняў жыцця каласістага і прыпыняемся, заварожаныя, ля кветкі першага кахання. Спяшаемся далей, не сарваўшы яе, бо здаецца нам, што сустрэнем яшчэ прыгажэйшую. Бачым наўкола далячынь цудна-цудоўную!

Ідзём праз жыццё штораз павальней, адзін пагорак вышэй другога, шукаем цянька хоць бы пад дзічкаю, на мяжы палыну, азіраемся на пройдзеныя вёрсты — і ўгледзім далёкую кветку першага кахання. Але ўжо занадта далёка зайшлі мы, каб вярнуцца па яе. І засынаем ад знямогі, і сніцца яна нам не раз, а прыгажосць яе сталася меркаю прыгажосці свету і хараства.

І да скону не зразумеем, чаму пры гасцінцы жыцця нашага толькі адна такая кветка была... (*С. Яновіч*).

**236.** Вызначце кампазіцыйныя часткі апавядання і зачытайце іх. Падзяліце тэкст на сэнсава-лагічныя часткі, дайце ім загалоўкі. Напішыце план тэксту і вусна перакажыце яго.

Шмат часу прасядзела зязюля сярод галін густой елкі, пакуль ёй удалося высачыць месца, куды запозненая пара малінавак ужо які дзень цягала будаўнічы матэрыял. Дакладна вызначыўшы месца будучага гнязда, зязюля на некалькі дзён знікла, а потым з'явілася на сваім назіральным пункце. Важна было не ўпусціць момант, калі ў гняздзе малінаўкі будзе яшчэ не завершана кладка. Па-першае, птушаня зязюлі павінна вылупіцца раней за сваіх прыёмных сясцёр-братоў, а па-другое, пакуль малінаўка-маці не пачала наседжваць кладку, зязюлі значна прасцей падкінуць у гняздо сваё яйка.

І вось доўгачаканы час настаў. Бацькі-малінаўкі паляцелі некуды адначасова, і над апусцелым гняздом прамільгнуў шэры цень. Усё было зроблена за некалькі хвілін. Калі малінаўка вярнулася да гнязда, там замест аднаго з яе яек ляжала такое ж пяшчотна-ружовае, але крыху буйнейшае — зязюліна. Нічога не заўважыўшы, малінаўка крыху пасядзела на арэхавай галінцы, пашукала нешта ў пер’і, а потым, узмахнуўшы крыламі, пырхнула ў гняздо — наседжваць яйкі.

Голае, нязграбнае птушаня зязюлі вылупілася крыху раней, і да таго моманту, як пачалі вылупляцца птушаняты малінаўкі, мела ўжо дастаткова сіл, каб бесперашкодна павыкідваць з гнязда яго сапраўдных гаспадароў. Так, у дадатак да ўсіх напасцяў, пачалася ў малінавак доўгая цяжкая вахта па выхаванні чужога птушаняці, амаль у пяць разоў буйнейшага за іх саміх (*С. Зуёнак*).

**237.** Прачытайце пачатак тэксту. Прадоўжыце свае разважанні на прапанаваную тэму.

Усё белае з маленства — свята: печ, беленая да Вялікадня, пагафтаваныя фіраначкі на вокнах, бабулінымі ды мамінымі рукамі вытканыя ручнікі, крылы дзедавага ветрака. Белы ручнік — шлях беларуса, як млечны ў небе — шлях Бога. А крылы — ручнікі ў небе (*В. Карамазаў*).

**238.** Вызначце стыль тэксту. Падзяліце тэкст на сэнсава-лагічныя часткі. Перакажыце яго. Абгрунтуйце пастаноўку знакаў прыпынку. Прааналізуйце будову складаных сказаў.

Народныя паданні аб Тураве надзвычайна паэтычныя. Іх шмат, усе разам узятыя яны даказваюць, што ў народзе жыве памяць аб старажытнай велічы і значнасці Турава. Гістарычныя звесткі пераблыталіся з паданнямі, малюючы нам нейкія фантастычныя вобразы з даўно мінулага жыцця. Тураўцы не толькі і цяпер вераць у легендарнага Тура, заснавальніка Турава, але нават яго імем да гэтага часу называюць калодзеж і аказваюць яму асаблівую павагу. Калодзеж-Тур — не звычайны які-небудзь калодзеж. У ім тры дны: меднае, сярэбранае і залатое. Калі праврвецца залатое дно — канец свету; зямля ператворыцца ў адзін вялікі акіян! У тураўцаў ёсць і свая царэўна, але царэўна-чараўніца, толькі добрая чараўніца: пры дапамозе чараў яна не раз збівала ворагаў і ратавала ад іх горад. Нават месца, дзе яна чаравала, вядомае і называецца Перадолы. Шмат і іншых месцаў, звязаных з успамінамі аб розных падзеях. Так, напрыклад, ёсць месца, якое называецца Сямірадцы, таму што тут сем старшынь судзілі тураўцаў. За ракою ёсць высокі курган: гэта магіла загінуўшых татар. З гэтага ж боку ракі — месца, дзе

нанесена было ім страшнае паражэнне, называецца Крычаў, таму што, калі іх тураўцы прыціснулі да ракі, татары ўзнялі страшны крык. Хто паспеў пераплысці раку, таго даканалі на тым баку. Над імі і насыпалі курган (*А. Кіркор*).

**Працуем карэктарамі**

**239.** Падзяліце тэкст на абзацы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Складзіце схемы складаных сказаў.

«Святы Пакроў накрыў зямлю жоўтым лістом, маладым сняжком, ваду лёдам, пчалу мёдам, рыбу луской, дрэва карой, птаху пяром, дзеўку чапцом» — так гаворыць прыказка і падсумоўвае вынікіназіранняў нашых продкаў-земляробаў за прыродай. Сапраўды, Пакровы — пераломны момант у жыцці навакольнага свету. Ужо адляцелі ў вырай апошнія птушкі, зусім блізка сталыя халады, усё жывое стаілася ў чаканні зімы. Не адстае ад прыроды і чалавек. Даўно сабраны ўраджай збожжа, заканчваюцца клопаты ў полі і на агародзе, уцяпляюцца жыллё і пабудовы. Да прыходу знакавага асенняга дня ўсё павінна быць зроблена. «Прыйшлі Пакровы, пытаюць, ці да зімы гатовы» — папярэджвала народная мудрасць. Другая ж прыказка, падхапіўшы тон папярэдняй, ушчувала нядбайных гаспадароў: «Хто сее па Пакрове — не будзе мець чаго даць карове». А яшчэ пасля 14 кастрычніка і ўжо ажно да Благавешчання забаранялася «турбаваць», «чапаць» зямлю. Восеньскі цыкл палявых работ быў скончаны. Але толькі на першы погляд гэты час здаецца панурым і сумным. Менавіта пасля Пакроваў, калі сфера дзейнасці селяніна з адкрытай прыродна-ландшафтнай стыхіі перамяшчалася ў абмежаваную прастору (хата, гумно), наступала самая цікавая, галоўным чынам для моладзі, пара. Пачынаўся сезон вячорак, а таксама вяселляў (хіба ж да іх было ў дні касавіцы ці жніва?). Прыказка і на гэты конт трапна заўважала: «Да Пакроваў усё павінна быць звезена з поля, а хлопец з Пакроваў каб быў гатовы жаніцца» (*І. Драбышэўская*).

**Працуем перакладчыкамі**

**240.** Вызначце, да якога стылю адносіцца тэкст і з якіх сэнсава-лагічных частак складаецца. Перакладзіце тэкст на беларускую мову і перакажыце яго.

А теперь поднимемся над нашей планетой. Это голубая планета, планета воды, а не земли, так как более 3/4 её поверхности — водные

пространства океанов, льдов на суше и на море, многих тысяч озёр и болот на континентах. Вода вездесуща, она буквально пронизывает оболочку Земли и проникает во все участки того пространства, где обитает человек и всё живое. Она составная часть растений и животных, человек тоже на 70 % состоит из воды. Все водные объекты на поверхности планеты так или иначе связаны между собой и образуют оболочку, называемую гидросферой.

Главная роль воды состоит в том, что она является средой и источником водорода для жизненных процессов. Практически все органические вещества биосферы представляют собой продукт фотосинтеза, который не может происходить без воды. Вода — единственный источник кислорода, выделяемого в атмосферу при фотосинтезе. Она необходима для биохимических и биофизических процессов, обеспечивающих возможность жизни на Земле. В каждой капле воды заключена жизнь (*З часопіса «Родная прырода»*).

**241.** Прачытайце сказы, якія popстануць зачынам для вашага паведамлення на тэму «Чалавек і прырода». Вызначце, як — паслядоўна ці паралельна — звязваюцца сказы ў вашым тэксце. Раскажыце, якімі сказамі вы часцей карысталіся і якую сэнсава-стылістычную ролю яны выконваюць у складзеным вамі выказванні.

Сам-насам з сабой чалавек ніколі не застаецца. Ён толькі часова адасабляецца, адгароджваецца ад знешняга свету. Побач з ім заўсёды прысутнічае матухна-прырода, сваёй разнастайнасцю, шалам веснавых і восеньскіх фарбаў, мелодыяй ветру, ціхім спевам дажджу і снегу яна акампаніруе тваёй адзіноце, падкрэслівае яе асаблівасць і настройвае душу на пэўны лад, звычайна сентыментальны. Прастора напаўняецца паэзіяй... (*Г. Марчук*).

**Правяраем сябе**

1. Што называецца сэнсава-лагічнай часткай тэксту?
2. Чым адрозніваецца абзац ад сэнсава-лагічнай часткі?
3. Як суадносяцца падзел тэксту на сэнсава-лагічныя часткі і падзел тэксту на абзацы?
4. Раскажыце пра паслядоўную і паралельную сувязь паміж сказамі ў тэксце.
5. Пералічыце моўныя сродкі выражэння паслядоўнай і паралельнай сувязі.

## Прыёмы сінтаксічнай арганізацыі тэксту

**Паўтараем**

Сінтаксіс мае неабмежаваныя магчымасці для выражэння думак і пачуццяў. Пра гэта выразна сведчаць **перыяды**, якія паводле структуры ўяўляюць сабой складаныя сказы з паралельнымі сінтаксічнымі канструкцыямі, што маюць аднолькавы парадак слоў, аднолькавыя злучнікі, аднолькавыя часавыя формы дзеясловаў-выказнікаў. Разам з тым перыяды з'яўляюцца яркім стылістычным сродкам, бо выступаюць вобразнай замалёўкай ці разгорнутым разважаннем, насычаным складаным і глыбокім зместам.

**242.** Дайце тэксту загаловак. Сфармулюйце тэму і асноўную думку твора. Вызначце сэнсава-стылістычную ролю ў тэксце слова **«дом»**. У якім значэнні аўтар ужывае згаданае слова ў папярэдніх сказах і ў апошнім? Прааналізуйце будову перадапошняга сказа. Вызначце, колькі дадзеных частак у ім. Дакажыце, што ён з'яўляецца перыядам.

Трэба наш родны дом зрабіць утульным. Каб душы чалавечай было ў ім хораша, цёпла, светла. Толькі і ўсяго. Але наш дом адно тады стане гэтакім, калі ў ім будзе ўсё тое, што ў родным доме павінна быць, менавіта:

калі ў ім будзе свабодна і натуральна, з ранку і да ночы, з вуснаў і старых і малых гучаць роднае слова;

калі ў ім будуць чуцца пяшчотныя матчыны песні і мілагучныя бацькавы цымбалы, мудрыя дзедавы казкі і прыказкі, легенды і паданні;

калі ў ім будзе чуцён незаменны водар страў, які ты ўдыхаў ад калыскі, — водар найлепшых дароў нашай любай, самаахвярнай і мнагацерпнай зямлі-карміцелькі;

калі ў ім будзе вабіць твой зрок, і зачароўваць, і глядзець у душу табе — з пакрывалаў і посцілак, з паясоў і сурвэтак — «цвяток радзімы васілька»;

калі ў ім на стале, на белым абрусе, побач з боханам хлеба надзённага будуць ляжаць кнігі Бібліі Францыска Скарыны, кнігі Кастуся Каліноўскага і Францыска Багушэвіча, Янкі Купалы і Якуба Коласа, Максіма Багдановіча і Максіма Гарэцкага і многія іншыя кнігі свяшчэннага пісання нашага;

калі ў ім на самым пачэсным месцы, на покуце, пад ручнікамі, будуць абразы найвялікшых, найслынных сыноў і дачок Бацькаўшчыны — абразы святых і прасвятых зямлі Беларускай.

А будзе ўсё гэта ў нашым родным доме толькі тады, калі мы захочам, каб было (*Н. Гілевіч*).

**Слова пра словы**

**Градацыя** — стылістычная фігура з такім размяшчэннем слоў, дзе кожнае наступнае ўзмацняе значэнне папярэдняга.

**243.** Акрэсліце ролю градацыі ў тэксце.

Мільгаюць гады.
Я цяпер ведаю добра —
Мільгаюць.
Не ўхопіш,
Не спыніш,
Назад не павернеш ніяк (*Г. Бураўкін*).

**Антытэза** — стылістычная фігура, у якой супрацьпастаўляюцца процілеглыя прадметы, паняцці, прыметы, дзеянні. Яна грунтуецца на антаніміі і выяўляецца на ўзроўні не толькі слоў, словазлучэнняў, але і сказаў. Антытэза можа рэалізавацца і ў разгорнутым тэксце.

**244.** Прааналізуйце ўжыванне антытэзы ў тэксце. Паразважайце пра сэнс выказвання.

Бываюць раны большыя і меншыя. Меншыя — гояцца, і па іх знаку няма. Большыя — гояцца, але па іх астаюцца рубцы.

Гэтак на целе.

Бываюць раны большыя і меншыя. Меншыя — гояцца; па іх астаюцца рубцы. Большыя — заўсёды крывавяцца.

Гэтак на сэрцы.

Бываюць раны большыя і меншыя. Меншыя — заўсёды крывавяцца. Большыя — залечвае толькі... смерць.

Гэтак на душы (*Ядвігін Ш.*).

**Анафара** — паўтор аднолькавых гукаў, слоў, канструкцый у пачатку сумежных вершаваных радкоў або строф.

**245.** Акрэсліце ролю анафары ў тэксце.

Гэта Максім Багдановіч запрасіў беларускае, крывіцкае слова прапусціць праз душу сваю сусветную культуру, не разгубіўшыся, не згубіўшыся, не збядніўшыся.

Гэта Максім Багдановіч разварушыў беларускую думку, каб задумалася з усім дасведчаным светам над вечным ды імгненным, над сэнсам існавання і векавання.

Гэта Максім Багдановіч узняў беларускія вочы ў неба, разагнуў беларускую спіну, згарбелую на ворыве (*Р. Барадулін*).

**Эпіфара** — паўтарэнне аднолькавых гукаў, слоў, сінтаксічных канструкцый у канцы сумежных радкоў ці строф.

**246.** Прааналізуйце стылістычную ролю эпіфары ў тэксце.

Я слухаю дождж.
Я люблю дождж. Ягоны барабанны — калючы і строгі — рытм адмервае хвіліны майго жыцця. Толькі ў дождж я адчуваю жыццё напоўніцу. Толькі ў дождж.
...Нехта ўсхліпвае. Праз дождж (*М. Навіш*).

**Сінтаксічны паралелізм** выяўляецца праз сказы, якія маюць аднолькавую будову і парадак слоў.

**247.** Вызначце, якім сінтаксічным прыёмам вылучаецца тэкст. Акрэсліце асноўную думку выказвання.

Мама заўсёды чакала,
Мама свой час не лічыла,
Мама жывым спагадала —
Мама лячыла.
Мама душою трымцела.
Мама дабра ўсім хацела,
Мама ні ў чым не лаўчыла —
Мама вучыла.
Мама заўсёды трывала,
Мама да скону рабіла,
Мама сябе забывала —
Мама любіла (*А. Пісьмянкоў*).

**Рыхтуемся да дыктоўкі**

**248.** Прачытайце. Вызначце, якія сінтаксічныя прыёмы арганізацыі тэксту выкарыстаны аўтарамі. Запішыце, паставіўшы знакі прыпынку.

I. Гэта гучыць зімовы сон. Ціхі-ціхі сон. Кранальныя гукі закранаюць наваколле — заснежаны парк які па-рамантычнаму раскінуўся на абалонах ракі Віліі і стомлена-самотную сядзібу што цягам стагоддзяў чакае свайго гаспадара.

Гэта гучыць яго музыка. Паланэз ля мінор «Развітанне з Радзімай». Ці ведаў Міхал Клеафас Агінскі што гукі ягонай музыкі стануць

часцінкай беларускай душы? Што аджылае і адбалелае пачынае бруіць калі чуеш гэтыя гукі ці ў канцэртных залах ці то ў падземных пераходах у выкананні флейтыста-панка. Шчымлівая мелодыя завалодвае свядомасцю...

Дзесьці там, у маленстве, — першы снег, снегавік і горка. Дзесьці там, у юнацтве, — першы снег на які загадваеш жаданне. Дзесьці там — маразы і адлігі. І заснежаная дарога дзе ценямі дрэваў пазначаны шлях...

Незаўважны апошні акорд. Белым снегам віруе надзея...

І немагчыма прачытаць ноты бо музыку не працытуеш. Яе можна толькі адчуць. Як можна толькі адчуць, што такое Радзіма... (*М. Навіш*).

II. Ноч. Ноч. Ноч.

Над вёскай, над усім светам стаіць ноч. Спіць бабуля, спіць Іванкава маці. Спіць Іванка. Ніхто не ведае, што сніцца яму. Пад ложкам, абкручаныя аборамі, ляжаць новыя чуні. Прачнецца заўтра Іванка, і першая ягоная думка будзе пра іх. Узрадуецца тады Іванка. Добра заўтра будзе Іванку. Добра будзе яму.

Ну, то няхай! (*М. Стральцоў*).

III. Што хлеб — гэта хлеб, па-сапраўднаму можна даведацца, толькі адчуўшы голад. Што гераізм — гераізм, а герой — герой, даведацца можна з жыватворнай нізіны сціпласці (*Я. Брыль*).

# ПАДАГУЛЬНЕННЕ І СІСТЭМАТЫЗАЦЫЯ ВЫВУЧАНАГА

**249.** Прачытайце тэкст, акрэсліце асаблівасці структуры складаных сказаў. Спішыце, расстаўляючы знакі прыпынку. Запішыце тэкст у выглядзе графічных схем.

ДАРЭШТЫ

У левую руку мне даюць паражэнне але ў правую я паспяваю ўзяць перамогу.

Тады ў правую руку мне даюць радасць але я працягваю левую і бяру скруху...

Засяроджанаю душою я намацваю дрогкую лінію сэнсу па якой мушу ісці дарэшты (*А. Разанаў*).

**250.** Дайце тэксту загаловак. Акрэсліце тэму. Выпішыце складаназалежныя сказы, складзіце іх схемы. Выдзеліце і размяжуйце злучнікі і злучальныя словы.

Папулярны амерыканскі псіхолаг Дэйл Карнегі, заклікаючы запамінаць і часцей ужываць імёны суразмоўнікаў, адзначае, што імя чалавека — самы прыемны для яго гук на любой мове. Сугучнае ўжо сказанаму і стаўленне да імя, выказанае нашым пісьменнікам Янам Скрыганам: «Я лічу імя галоўнай прыналежнасцю ў чалавечым існаванні. Імя чалавеку даецца адразу ж пры яго нараджэнні і з малаком мацеры. Імя заслугоўвае, каб яго вымаўлялі, а не падменьвалі ініцыялам, па сутнасці, зневажаючы яго».

Можна пагадзіцца з адным з першых даследчыкаў беларускіх уласных імёнаў Янкам Станкевічам. Той, супастаўляючы поўныя і эмацыянальна-ацэначныя формы імёнаў, кажа: «Формай звычайнай або поўнай імені не выказваем ніякага пачуцця, гэта толькі імя чалавека, падобна да агульных назваў людзей, жывёлы, рэчаў». Гэта не зусім так, хоць эмацыянальна-ацэначныя формы выражаюць значна больш пачуцця, чым афіцыйныя формы імёнаў. Прычым можна заўважыць, што найчасцей гэтае пачуццё пазітыўнае. У манаграфіі даследчыка беларускага іменаслову Мікалая Бірылы «Беларуская антрапанімія» сярод мноства зафіксаваных варыянтаў імёнаў знаходзім усяго адзінкі, якія маюць сталае адценне знявагі, прыніжэння. Большасць вытворных імёнаў ужываюцца як памяншальныя, ласкальныя, паважальныя.

Найболей насычаныя станоўчымі эмоцыямі ў маўленні імёны ў тых выпадках, калі да носьбіта імя звяртаюцца людзі, неабыякавыя да яго, — бацькі, блізкія, сябры. Мы ведаем, якімі дзівоснымі здаюцца імёны адно аднаго закаханым. Той, хто кахае, бачыць аб'ект свайго пачуцця прыгожым. Гэтая прыгажосць пераносіцца на імя. Асабліва гэта датычыцца імёнаў прадстаўніц прыгожага полу. Існуе шмат вершаў, песняў, у якіх апяваецца тое ці іншае жаночае імя. Гэта натуральна, бо імя жанчыны — гэта ўжо назва кахання. Такім чынам, у адным слове і выказваецца пачуццё, і называецца тая, на каго яно накіраванае (*Паводле С. Богуша*).

**Пунктуацыйны трэнінг**

**251.** Абгрунтуйце назву тэксту. Вызначце яго стыль. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

КАМЯНІЦЫ І ТАЯМНІЦЫ

Даўным-даўно калі не было ні дарог ні чыгункі вандравалі нашы продкі пеша па ледзь бачных сцяжынах. І як жа здзіўляліся вандроўнікі калі раптам адкрываліся іх позіркам дзіўныя гарады і замкі якія былі абнесены высокімі сценамі. А ў тыя далёкія часы ўмацаваныя замкі былі ў кожным старажытным горадзе. Напачатку іх будавалі толькі з дрэва. А потым калі наша краіна аб'ядналася ў вялікую і моцную дзяржаву Вялікае Княства Літоўскае замкі пачалі будаваць з каменю і цэглы. І стаялі яны моўчкі ганарлівыя і загадкавыя. Простыя людзі ў замках не жылі. Гэта было жытло князя і дружыны багатых баяраў дзе захоўвалася гарадская казна ладзіліся суды і выконваліся прысуды. А яшчэ за моцнымі сценамі хавалася зброя каб абараняцца ад варожых нападаў. Калі гораду пагражалі ворагі замак мог абараніць усіх жыхароў і старога і малога.

Былі ў гісторыі нашай краіны часы калі ніводнага года не абыходзілася без войнаў. То князі не маглі падзяліць паміж сабой землі і ўладу то ворагі нападалі на нас. Большасць нападаў замкі вытрымлівалі бо кіравалі абаронаю славутыя ваяры вялікія князі Міндоўг Гедымін Кейстут Вітаўт.

Кожны замак меў свае асаблівасці. У Наваградскага замка ў розныя часы было да сямі вежаў. Самая знакамітая вежа шчытоўка вышыня сценаў якой засягала 25 метраў. Сцены замка і сёння памятаюць Міндоўга першага князя і караля Вялікага Княства Літоўскага мужнага і адважнага гарадзенскага кашталяна Давыда які пад замкавымі мурамі сек крыжакоў.

Зусім іншая гісторыя ў Крэўскага замка. Аднойчы тут адбылося жахлівае злачынства. Князь Ягайла якому карцела быць адзінаўладным гаспадаром загадаў забіць свайго дзядзьку Кейстута. Потым у тую ж цямніцу пасадзіў і свайго стрыечнага брата князя Вітаўта. Ды Вітаўт збег пераапрануўшыся ў адзенне жончынай служкі. Пазней князі памірыліся каб разам разбіць крыжакоў на славутым полі пад Грунвальдам у 1410 годзе.

Не ўсе замкі захаваліся да нашых дзён. Яны як сапраўдныя ваярыволаты да апошняга змагаліся каб абараніць краіну і свой народ. Толькі новай магутнай зброі супрацьстаяць ужо не змаглі. А некаторыя як Гальшанскі замак па сваёй недасведчанасці людзі разбіралі на цэглу. І тым не менш вандруючы па Беларусі нельга не здзіўляцца прыгажосці і велічнасці гэтых волатаў. Разбураныя часам яны і зараз паглядаюць на нас праз вежавыя байніцы быццам пытаюць ці здольныя мы сёння зрабіць для свайго народа тое што некалі зрабілі яны (*Паводле С. Тарасава*).

**252.** Напішыце нататку ў школьную газету пра таямніцы аднаго са старажытных замкаў або палацаў, якія знаходзяцца ў вашым раёне або вобласці.

### Лінгвістычны эксперымент

**253.** Аб'яднайце сказы кожнага тэксту ў адзін, вызначце тып складаных сказаў, пабудуйце іх схемы. Паразважайце, што змянілася ў выказванні са зменай яго структуры.

І. Можна ўсё: пусціць каханне дымам, узяць і занядбаць мінулы шлях. Але толькі — не любіць Радзімы з чорнаю павязкай на вушах, з чорнаю павязкаю на вуснах, з чорнаю павязкай на вачах (*Р. Барадулін*).

ІІ. Блякла-сіняе неба і чырвань галін. Уздыхае ветрык. Спадае ліст. Асцярожна сонца з голых асін выпаўзае на ціхі сінічы свіст (*У. Караткевіч*).

### Працуем перакладчыкамі

**254.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову, запішыце, захоўваючы нормы беларускай літаратурнай мовы.

Каждый ищет одиночества в соответствии со своими склонностями и возможностями. Бальзак — в ночной поре, Вальтер Скотт — в раннем утре, когда он поднимался на рассвете и, пока все его домочадцы ещё спали, работал до завтрака. Кто не совсем в себе уверен, прибегает

к необычным средствам, как, например, Виктор Гюго, который остриг себе полголовы, сбрил полбороды, а затем выбросил ножницы в окно и таким способом недели на две запер себя дома. Под натиском творческой работы ослабевают все иные привязанности и страсти. Рьяный наездник забывает о коне, охотник — о ружье, трубодур пренебрегает возлюбленной. Весь мир замыкается в маленькой комнатке, вольный воздух проникает в лёгкие лишь урывками, среди ночи, когда писатель, одуревший от работы, распахивает окно.

Покой и тишина — вот два важнейших условия для плодотворной работы писателя (*Я. Парандовский*).

**255.** Прачытайце беларускае паданне «Як сонца ў хату ўпусцілі». Запішыце прыведзены тэкст, замяняючы простую мову ўскоснай.

Даўным-даўно, як толькі свет пачаўся, людзі не ведалі, як хату будаваць. Нарэшце сяк-так паставілі хату, а што зрабіць, каб відно ў ёй было, не ведаюць. Вось і пачалі насіць сонца ў хату: жонка — рэшатам, а мужык — мяшком. Доўга так яны мудраваліся, адно ж ідзе міма чалавек, хоць бедны, а разумнейшы за іх. Падышоў, даў «дзень добры» і кажа:

— Што гэта вы, людзі добрыя, робіце?

Жонка з мужам пачалі бедаваць:

— От паставілі хату, ды ніяк сонца ў яе не наносімся, усё цёмна ды цёмна.

Падарожны спытаў:

— Што вы мне дасце, калі я вам упушчу сонца ў хату?

Яны кажуць:

— Што захочаш, тое і дамо, толькі дапамажы нам.

А не ведалі, што гэта быў сам Бог.

Вось ён ім і кажа:

— Абяцайце мне толькі адно: кожны тыдзень прыняць жабрака, накарміць яго і прытуліць на начлег у сваёй хаце.

Згадзіліся жонка з мужам на гэтую прапанову. Тады ім Бог вокны паўрэзваў — і відно стала ў хаце. Абрадаваліся людзі дый сталі Божы наказ старанна выконваць (*А. Гурскі*).

**256.** Вызначце тэму і асноўную думку тэксту. Назавіце тып маўлення і акрэсліце яго кампазіцыйную структуру. Пакажыце мэтазгоднасць ужывання складаных сказаў. Пабудуйце іх схемы.

Без хлеба не елі ні адной стравы: без хлеба яда — да парога хада. Перш чым падаць што-небудзь на стол, ставілі ці клалі хлеб. Пяклі

яго самі, на подзе печы, падсцілаючы дубовае ці кляновае лісце. Самі і ўчынялі рошчыну, мясілі. Самі і ў печ на лёгкай і вельмі чыстай, пасыпанай мукой, драўлянай лапаце садзілі. Калі пёкся хлеб — гэта было свята. Не дазвалялася нічога вастрыць — ні сякеры, ні нажа, ні шыла, не дазвалялася і бегаць, скакаць, грукаць — хлеб мог спалохацца і не ўдацца. Цёплы, толькі што спечаны хлеб абмывалі вадой, клалі на стол, акрывалі чыстым ручніком. Перш чым браць у рукі бохан, яго перахрышчвалі. Без хлеба не выходзілі з хаты («Калі хлеб у возе, то няма бяды ў дарозе»), хлебам-соллю сустракалі самых дарагіх і шаноўных гасцей. Калі ў час яды хлеб падаў з рук, яго падымалі, цалавалі, прасілі даравацъ. Папракнуць кавалкам хлеба — самая жорсткая кара; адмовіць, не даць таму, хто прасіў, нават калі сабе не хапала, — грэх. Сапраўдную цану тыя, хто жыў у вёсцы, працаваў на зямлі, расціў яго, ведалі. Быў хлеб — было і да хлеба, усё астатняе, без чаго не ўяўлялася чалавеку шчасце, радасць, жыццё (*Б. Сачанка*).

**257.** Вызначце тэму тэксту, яго стыль, тып маўлення. Колькі падтэм і сэнсава-лагічных частак назіраецца ў тэксце? Назавіце адметныя прыёмы сінтаксічнай арганізацыі, што выяўляюцца ў тэксце. Абгрунтуйце пастаноўку знакаў прыпынку ў складаных сказах.

Што такое час? Гэта нішто: яго нельга ўбачыць, пачуць, памацаць, панюхаць, паспрабаваць на язык; ім нельга заткнуць дзірку ў страсе або ў бюджэце; яго нельга запрэгчы ў плуг, запрасіць на шклянку гарбаты.

Час — гэта нешта бясконца бясчулае і бесстароннняе: якія ні адбываліся б акты найвышэйшай гуманнасці ці нечувалага здзеку з асобы чалавека, ён застаецца спакойным і безудзельным.

Час — гэта нешта нечувана шпарка-імклівае. Шпаркасць яго прабегу нельга змераць самымі дакладнымі прыладамі. У той жа час нешта нязменнае і нерухомае, бо ўсе тыя адзінкі, якімі мы мераем час, гэта не адзінкі часу, гэта толькі светлавыя, цеплавыя і іншыя з’явы, якія адбываюцца з пэўнай заканамернасцю і якія ніякага дачынення да часу не маюць.

Нягледзячы, аднак, на сваю нерухомасць і безудзельнасць, якую разнастайную афарбоўку прымае час у розных людзей і як па-рознаму скарыстоўваюць час гэтыя розныя людзі! Ёсць наш час і час даўнейшы, час залаты і час пракляты, час доўгі, час кароткі. Адзін у свой час быў вялікім чалавекам, а ў нашы часы нічога не варты. Другі стаў бы вялікім чалавекам, але ён не мае часу носа ўцерці за работаю, а другі ные ад таго, што не ведае, куды яму дзецъ лішні час (*К. Крапіва*).

**258.** Прачытайце тэкст Д. Бічэль. Акрэсліце асаблівасці яго сінтаксічнай арганізацыі. Растлумачце знакі прыпынку. Падрыхтуйце мініяцюру на адну з тэм: «Адкрываю Беларусь», «Любыя сэрцу мясціны», «Мае падарожжы».

Ездзіла па Беларусі. Напэўна, мае гістарычныя вершаваныя аповеды задоўгія, але мне самой было неабходна ўсё гэта перажыць і перадумаць. Трэба самой прайсці шлях продкаў — ад Полацка, дзе на беразе велічнай ракі стаіць Францішак Скарына, ад Лоева, дзе на крутым, зрэзаным стагоддзямі беразе пакінуў след мой першабытны продак, ад віленскай Вострай Брамы, дзе бласлаўляе жыццё каралева Свету Марыя Дзева, ад Белага і Чорнага возераў, у якіх плавае Ніна Мацяш, — і да Свіцязі, дзе жывуць Міцкевічавы свіцязянкі. Самотна абышла кругом гэтага зачараванага возера, заваявала яго. Мае Біскупцы агарнулі ўсю Беларусь...

# ЗМЕСТ

